

# БЕЛАРУСКАЯ «НАРОДНАЯ БІБЛІЯ» Ў СУЧАСНЫХ ЗАПІСАХ



**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**
**Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў**

# БЕЛАРУСКАЯ "НАРОДНАЯ БІБЛІЯ" Ў СУЧАСНЫХ ЗАПІСАХ

**Мінск 2010**

УДК 821.161.3-34+2-262
ББК 82.3(4Беи)-44+86.210.36
Б 43

*На вокладцы выкарыстаны рэпрадукцыі карцін А. Чаркасавай “Душа, вошедшая в рай”, “Спасение твари”*

**Рэцэнзенты**

*В.У.Бялова,* доктар філалагічных навук, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута славяназнаўства Расійскай акадэміі навук;

*А.С.Ліс,* доктар філалагічных навук, галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры імя Я.Коласа і Я.Купалы НАН Беларусі

**Рэкамендавана да выдання** навуковым саветам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў (пратакол № 2 ад 30.09.2010 г.)

Б 43 **Беларуская** “народная Біблія” ў сучасных запісах / уступ. артыкул, уклад. і камент. А.М.Боганевай. – Мінск: Бел. дзярж. ун-т культуры і мастацтваў, 2010. – 166 с.
ISBN 978-985-522-012-2.

У зборніку фальклорных тэкстаў «Беларуская “народная Біблія” ў сучасных запісах» падаюцца беларускія народнабіблейскія легенды, запісаныя ў 1997–2010 гг. па ўсіх рэгіёнах Беларусі. Гэта першая ў краіне сістэмная прэзентацыя сучаснага бытавання народнабіблейскай традыцыі, жывой, актуальнай, распаўсюджанай і сёння ў сельскай народнай культуры. Жанрава тэксты “народнай Біблії” прадстаўляюць этыялагічныя і эсхаталагічныя легенды, пераказы біблейскіх падзей у народнай інтэрпрэтацыі.

Кніга зацікавіць фалькларыстаў, філолагаў, этнолагаў і шырокае кола чытачоў, неабыякавых да роднай спадчыны.

УДК 821.161.3-34+2-262
ББК 82.3(4Беи)-44+86.210.36

Праект рэалізаваны дзякуючы гранту “Пасольскага фонду па захаванні культурнай спадчыны” ўрада Злучаных Штатаў Амерыкі

**ISBN 978-985-522-012-2**

# ЗМЕСТ

# ДА ПЫТАННЯ АДАПТАЦЫІ КАНАНІЧНЫХ БІБЛЕЙСКІХ ТЭКСТАЎ У КУЛЬТУРЫ ВУСНАГА ТЫПУ

У зборніку змяшчаюцца разнажанравыя фальклорныя матэрыялы (пераважна этыялагічныя і эсхаталагічныя легенды) па народнабіблейскай тэматыцы. Наратывы “народнай Бібліі” – некананічныя апавяданні аб прадметах Свяшчэннага Пісання, якія тэматычна і сюжэтна абапіраюцца на матэрыял Старога і Новага Запаветаў. У “народнай Бібліі” адлюстроўваецца ўспрыманне біблейскіх падзей з пазіцый міфапаэтычнай свядомасці носьбітаў традыцыйнай культуры вуснага тыпу: падзеі Свяшчэннага Пісання пераасэнсоўваюцца і мадэлююцца з пункту гледжання антрапацэнтрызму і анімізму (усеагульнага адухаўлення), расквечваюцца казачна-міфалагічнымі элементамі і вобразамі і, галоўнае, пачынаюць успрымацца як прэцэдэнт сучаснага стану спраў у свеце. Так, дрэвы, расліны, насякомыя і жывёлы ў этыялагічных народнабіблейскіх легендах набываюць станоўчыя або адмоўныя якасці, шанаванне або ганьбу з боку людзей у залежнасці ад свайго “свядомага” ўдзелу ў біблейскіх падзеях (напрыклад, конь еў з-пад немаўляткі-Хрыста салому ў яслях – з той пары цяжка працуе і ніколі не пад’есць; каровы і авечкі грэлі сваім дыханнем нованароджанага Хрыста – з тых часоў ім даюць асвечанае, і яны не працуюць; асіна адмовілася схаваць Святое сямейства – таму трасецца нават пры адсутнасці ветру і да т. п.).

Разам з тым народная Біблія – не “альтэрнатыва” кананічнай Бібліі, а з’яўляецца адаптацыяй кананічных біблейскіх тэкстаў у культуры вуснага тыпу, адным з найважных складнікаў народнага хрысціянства, пра неабходнасць вывучэння якога пісаў яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. адзін з буйнейшых прадстаўнікоў царкоўна-гістарычнай навукі таго часу прафесар Казанскай духоўнай акадэміі П.В.Знаменскі: “Царкоўная гісторыя ў паралель грамадзянскай гісторыі таксама не звяртала ўвагі на рэлігійны склад, на развіццё рэлігійнай свядомасці самога народа, на тыя арыгінальныя формы, у якіх народ выяўляў разуменне прапанаванага яму вучэння… Мы

не ведалі самага істотнага боку справы, *як* народ засвоіў вучэнне веры, *як* царкоўны закон аказаў свой уплыў на народнае жыццё, якія асаблівасці ў веравучэнні і ў царкоўнай практыцы вынікалі ад судотыку праваслаўя з народнымі паняццямі і жыццём"[1].

"Народная Біблія" параўнальна з іншымі разнавіднасцямі народнай прозы – малавывучаны корпус тэкстаў. Толькі ў апошнія дзесяцігоддзі да яе звярнуліся расійскія, польскія, балгарскія даследчыкі. З'явіліся працы, шэраг артыкулаў, публікацый, прысвечаных асобным сюжэтам, матывам, вобразам народнабіблейскай прозы. Сярод сучасных даследаванняў трэба перш за ўсё адзначыць фундаментальны збор тэкстаў і навуковых каментарыяў «"Народная Біблія": усходнеславянскія этыялагічныя легенды» (склад. і камент. В.У.Бяловай)[2], а таксама шматлікія артыкулы па гэтай праблематыцы[3], работы В.С.Кузняцовай[4], М.М.Каспінай[5], артыкулы С.Ю.Дубровінай[6], А.Б.Мароза[7], К.А.Маслінскага[8], К.А.Мельнікавай[9],

---

[1] *Бернштам Т.А.* Молодость в символизме переходных обрядов восточных славян: учение и опыт Церкви в народном христианстве. СПб.: Петербургское востоковедение, 2000. С. 11–12.

[2] *"Народная* Библия": восточнославянские этиологические легенды / сост. и коммент. О.В.Беловой; отв. ред. В.Я.Петрухин. М.: Индрик, 2004. 576 с.

[3] *Тамсама.* С. 528–529.

[4] *Кузнецова В.С.* Дуалистические легенды о сотворении мира в восточнославянской фольклорной традиции. Новосибирск: Изд-во СО РАН, 1998. 250 с.

[5] *Каспина М.М.* Сюжеты об Адаме и Еве в свете исторической поэтики (на материале древней и средневековой еврейской и славянской книжности): дис. ... канд. филол. наук: 10.01.08 "теория литературы; текстология" // Электронный ресурс: http://www.ruthenia. ru/folklore/caspina1.htm; *Каспина М.М.* Восприятие сюжета о грехопадении Адама и Евы в еврейской и славянской традиции // Концепт греха в славянской и еврейской культурной традиции: сб. ст. М.: Сефер, 2000. Академическая серия. вып. 5. С. 116–129; *Каспина М.М.* Образы Адама и Евы в народной культуре Каргополья // Живая старина. 2002. № 3. С. 5.

[6] *Дубровина С.Ю.* Библейские сюжеты в народных легендах о растениях // Живая старина, 1999. № 2. С. 8–9; *Дубровина С.Ю.* Народные пересказы Ветхого Завета на Тамбовщине // Живая старина. 2002. № 3. С. 2–4; *Дубровина С.Ю.* Материалы по теме "Народное богословие на Тамбовщине" // Живая старина. 2002. № 2. С. 35–37.

[7] *Мороз А.* "Жидовики-некрещеники..." Евангельские события и евреи в восприятии севернорусского крестьянина // Между двумя мирами: представления о демоническом и потустороннем в славянской и еврейской культурной традиции: сб. ст. / Центр научных работников и преподавателей иудаики в вузах; отв. ред. О.В.Белова. М.: Пробел-2000, 2002. С. 235–262.

[8] *Маслинский К.А.* Эсхатологические рассуждения современных крестьян // Традиция в фольклоре и литературе. СПб. 2000. С. 91–104.

[9] *Мельникова Е.А.* Ожидания от книги. К вопросу о роли Библии в народной культуре // Живая старина. 2003. № 1. С. 39–41.

А.М.Боганевай[10] і інш. У апошняе дзесяцігоддзе публікаваліся таксама тэксты балгарскай[11], украінскай[12], польскай[13], беларускай[14] "народных Біблій".

У Беларусі вусная Біблія – жывая і актуальная традыцыя. Паводле палявых запісаў 1997–2010 гг. аказалася магчымым зрабіць выснову нават пра арэальнасць некаторых сюжэтнатэматычных комплексаў этыялагічных народнабіблейскіх легенд. Напрыклад, сюжэты, аб'яднаныя евангельскімі тэмамі "ўцёкаў у Егіпет" (прадстаўлены этыялагічнымі матывамі "чаму асіна трасецца"; "чаму павука нельга забіваць"; "чаму ёлка заўжды зялёная і яе на Раство ўпрыгожваюць"; "цуд з пшаніцай"), "Распяцця" (прадстаўлены этыялагічнымі матывамі "чаму ластаўка і жаваранак добрыя птушкі", "чаму вераб'ёў лічаць здраднікамі"), выразна лакалізуюцца ў Заходнім Палессі і амаль перастаюць сустракацца на пераходзе да Усходняга (Цэнтральнага) Палесся – Столінскім, усходняй

[10] *Боганева А.М.* Современные народнобиблейские нарративы белорусов: бытование, контекст, параллели (на материале сюжетов о сотворении мира и первых людях) // Фольклористика в контексте наук о традиционной духовной культуре. XIV Международный съезд славистов. Македония, Охрид, 2008; М.: Республиканский государственный центр русского фольклора. С. 87–110; *"Народная* Біблія" (Агульныя звесткі па "народнай Біблії". Метадычныя рэкамендацыі па зборы твораў "народнай Біблії". Апытальнік па "народнай Біблії") // Даследаванне лакальных культур Беларусі: праграмы па зборы фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў. Мн.: Белорус. дзярж. ун-т культуры і мастацтваў, 2008. С. 167–178; *Вобразы* і сюжэты Старога і Новага Запаветаў у "Народнай Біблії" беларускага Падзвіння (па сучасных запісах) // Беларускае Падзвінне: вопыт, методыка і вынікі палявых даследаванняў (да 80-годдзя пачатку археалагічных раскопак у г. Полацку): зб. навук. прац рэсп. навук.-практ. семінара. Полацк, 20–21 лістапада 2008 г. / пад агульн. рэд. Д.У.Дука, У.А.Лобача. Наваполацк: ПДУ, 2009. 300 с. С. 153–159; *Віда-жанравы* склад беларускай "народнай Біблії"// Пытанні мастацтвазнаўства, этналогіі і фалькларыстыкі. Вып. 6. / Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К.Крапівы НАН Беларусі; навук. рэд. А.І.Лакотка. – Мінск: Права і эканоміка, 2009. С. 301–308.

[11] *Бадаланова Ф.* Каин окаянный. Болгарские народные и литературные версии одного библейского сюжета // Живая старина. 1997. № 2. С. 43–45; *Бадаланова Ф.* Болгарская фольклорная Библия // Живая старина. 1999. № 2. С. 5–7.

[12] *Ветхозаветные* сюжеты в народной культуре украинских Карпат / публикация С.П.Бушкевич // Живая старина. 2002. № 3. С. 10–12.

[13] *Kocijan. K.* Ludowa waloryzacja plciowosci. Apocrryficzne watki w ludowej wersjihistorii o Adamie I Ewie //Polska stuka ludowa Konteksty. 1992. № 2. S. 43–44.

[14] *Народная* Біблія (склад. А.М.Боганева) / Народная проза Брэсцкага Палесся // Традыцыйная мастацкая культура беларусаў: у 6 т. Брэсцкае Палессе: у 2 кн. Кн. 2. Мінск, 2009. С. 373–416.

частцы Лунінецкага раёнаў. Арэалы гэтых сюжэтаў прыкладна супадаюць з арэалам групы палескіх гаворак[15].

Паводле нашых назіранняў носьбітамі народнабіблейскай традыцыі ў сучаснай беларускай вёсцы з'яўляюцца пераважна пажылыя жанчыны (ад 55 гадоў і старэй), праваслаўныя або каталічкі, якія маюць пачатковую, радзей, сярэднюю адукацыю або зусім яе не маюць, досыць рэгулярна наведваюць (або наведвалі "калі сілы былі") царкву або касцёл. Сярод прадстаўнікоў іншых, таксама распаўсюджаных у Беларусі, хрысціянскіх канфесій – старавераў (папоўцаў і беспапоўцаў), баптыстаў (пяцідзесятнікаў, адвентыстаў і да т.п.) – значна радзей сустракаюцца апавядальнікі "народнай Бібліі", хоць і сярод іх носьбіты традыцый народнага хрысціянства могуць быць вельмі яркімі (толькі не ў наратыўным, а "філасофскім", дыскурсіўным аспекце).

Прычына таму – вусны або пісьмовы спосаб перадачы і засваення ведаў Свяшчэннага Пісання. Баптысты і стараверы атрымліваюць веды пра Біблію з непасрэднага чытання першакрыніцы, звычайна шматразовага (асабліва гэта тычыцца Новага Запавету), тады як у сельскіх праваслаўных і каталікоў удзельная вага чытання Бібліі параўнальна невялікая. Нават калі інфармант перыядычна чытае Біблію, ён не заўсёды падзяляе пісьмовыя кананічныя і вусныя апакрыфічныя сюжэты.

У свядомасці сельскіх жыхароў старэйшага пакалення адсутнічае рэзкая мяжа паміж кананічнай і народнай Бібліямі, таму што асноўнай крыніцай звестак пра біблейскія падзеі з'яўляецца вусная традыцыя (прытым інфармант можа спасылацца, што свае веды ён атрымаў у "польскай школе", чуў пропаведзь у царкве або касцёле, чытаў у "святой кніжцы", Евангеллі і да т. п.). «Носьбітамі фальклорнай традыцыі "народная Біблія" ўспрымаецца як данасць; пытанне аб кананічнасці або апакрыфічнасці гэтай крыніцы для іх не варта. <...> Як у фальклоры, адзін і той жа сюжэт можа быць прадстаўлены шэрагам варыянтаў і варыятыўнасць ёсць галоўная форма існавання фальклорнага тэксту, так і наяўнасць "варыянту" Бібліі не бянтэжыць нашых інфармантаў. Такім

---

[15] *Боганева Е.М.* Региональность сюжетно-тематического фонда народных легенд белорусского "Запада" и "Востока" // Первый Всероссийский конгресс фольклористов: сб. докладов. М.: Государственный республиканский центр русского фольклора. 2007. Т. 4. С. 196–204.

чынам, на кніжную крыніцу пачынае распаўсюджвацца механізм бытавання фальклорнага тэксту»[16].

Жанравая прыналежнасць тэкстаў "народнай Бібліі" даволі разнастайная. Па-першае, гэта значная частка этыялагічных і эсхаталагічных легенд, звязаных з народнай інтэрпрэтацыяй Свяшчэннай гісторыі; па-другое, пераказы біблейскіх падзей, блізкія або тоесныя па сэнсе і змесце да кананічнага тэксту, пазбаўленыя апакрыфічных і міфалагічных элементаў, але выкладзеныя ў фальклорнай рэдакцыі і адлюстроўваюць відавочным або невідавочным чынам светаўспрыманне апавядальніка; па-трэцяе, гэта паведамленні пра Біблію, пераважна "старынную", якая "зусім па-другому напячатавана" і "як свет начаўся там апісвае" [гл. № 153 В].

На жаль, нават этыялагічным легендам менш пашанцавала ў плане даследавання і збірання ў параўнанні з іншымі жанрамі народнай прозы на працягу XX ст., што ж тычыцца пераказаў біблейскіх падзей і аповедаў пра Біблію, то імі сталі цікавіцца збіральнікі толькі ў апошняе дзесяцігоддзе. Відавочна, што тэксты другой і трэцяй груп (пераказы біблейскіх сюжэтаў і апавяданні пра Біблію) выходзяць за рамкі звычайнай класіфікацыі народнай прозы ўвогуле. Так, пераказы фрагментаў Бібліі не з'яўляюцца ні легендамі, ні паданнямі, ні былічкамі, ні вуснымі бытавымі расказамі, ні, тым больш, казкамі. Яны абапіраюцца на пісьмовую першакрыніцу і ўяўляюць менавіта пераказы гэтай крыніцы. Разам з тым вуснае функцыянаванне гэтых тэкстаў стварае ўмовы для іх фалькларызацыі.

З пункту гледжання ступені фалькларызацыі, пераказы можна падзяліць на некалькі падгруп.

Першую можна ўмоўна назваць *пераказамі-копіямі*. Гэта тэксты, якія з большай або меншай дакладнасцю ўзнаўляюць арыгінал па змесце, сюжэце (размова, зразумела, не ідзе пра даслоўнае супадзенне). Часта сустракаюцца пераказы-копіі на тэму грэхападзення першых людзей. «Як змій споткусыв Еву, так Бог тагда прыйшоў, а Адам наг быв, схававса. І Бог ходыть по саду і крычыть... А Бог знав всэ, выпробывав його і крычыть: "Агдам, Агдам, дэ ты?" А той кажа: "Госпадзі, я тут". "А чого ж ты там?" "А я, – кажэ, – наг". "Ну, а як ты

[16] "*Народная* Библия" ... С. 19–20.

знаеш, шчо ты наг?” “Бо я согрішыв. Я ж раньшэ наготы свій-ій нэ бачыв, а як согрішыв – став наг”. Ну і когда жэ воны выйшлы, прыкрылы дзерэвьямы, лістямы ўсю свою наготу. Ева выйшла з кустов, і тогда Бог сказав на Еву: “За то, шчо тэбе змій соблазныв і сказав эта яблоко вырваты і з Адамом з’йісты, ты будэш дітый рожать у муках, от. І будэш прясты кудэлю, ткать кросна, шчоб <адзеці> Агдама. А ты, Агдам, будэш робыты до поту, до дісятого, до крывавого, шчоб свій-іх дітый і жэну свою прокормыв ты, о» (зап. у 2001 г.[17] ад М.Ф.Кавальчук, 1937 г. н., в. Дывін, Кобрынскі р-н).

Другая падгрупа пераказаў – *пераказы-ўдакладненні*, калі ў тэксце, змястоўна блізкім да першакрыніцы, з’яўляецца фальклорная канцоўка, якая канкрэтызуе арыгінал з пункту гледжання дыдактыкі або “справядлівасці” завяршэння. Яркі прыклад гэтай групы пераказаў – тэкст пра Іаана Хрысціцеля [гл. № 99А] у пераказе Уліты Высоцкай, 1903 г. н., з в. Міхалінава Лёзненскага раёна, дзе “ўвязаны” святыя Іаан Хрысціцель і Ілля-прарок, і гэта злучэнне дэманструе глыбокае веданне і разуменне сімвалічнага сэнсу Свяшчэннага Пісання. Змест евангельскіх падзей, што тычацца смерці Іаана Прадцечы, перададзены вельмі дакладна, але з пункту гледжання народнай свядомасці, гісторыі яўна не хапае завершанасці ў плане справядлівай помсты зладзеям яшчэ тут, у зямным жыцці. Так з’яўляецца фальклорная канцоўка пра тое, як скончылі сваё жыццё віноўніцы пакут Іаана Хрысціцеля – Ірадзіяда і яе дачка-танцоўшчыца. “А маці яе, Радзіяда, бросіла ету галаву ў мусарную яму. Як убросіла галаву, так яна сідзела на крыльце і задремала. І з трецяга ступня ўпала і забілася насмерьць. Ударілася віском аб камень і ўмерла. А дочка яе ішла па кладке, а кладка абмёрзшая была і рукоятка абмёрзшысь. І яна сарвалася і ўтапілася ў ваду, і ей льдамі галаву атрезала. Во, значыць, сагрешылі как. А царь перажываў дужа. Ён знаў, што Іаан Крясціцель дужа прарок харошы, ён баяўся яго”[18]. У поўнай згодзе з народнай логікай: падобнае выклікае падобнае, кара грэшнай Ірадзіяды і яе дачкі ізаморфная той кары, якой быў пакараны Іаан Хрысціцель.

Трэцяя падгрупа пераказаў – *пераказы з этыялагічным вывадам або пераказы-легенды,* якія тлумачаць існуючы па-

[17] *Калі* не пазначана асобна, тут і далей запісы аўтара.
[18] *Боганева Е.М.* Региональность сюжетно-тематического фонда народных легенд белорусского “Запада” і “Востока”. Т. 4. С. 199.

радак рэчаў прэцэдэнтам і адрозніваюцца ад этыялагічных легенд галоўным чынам сваёй адзінкавасцю: яны існуюць не ў калектыўнай свядомасці, традыцыі, а толькі ў індывідуальнай інтэрпрэтацыі расказчыка. “От у одного тожэ нэ було детей, вон молів Бога... Вон ужэ був дажэ в цэркві, бацюшком. <Бог сказаў яму>, што ў цебе родзіцца сын, а он не верыв, покуль не родівса. А обэшчав Богу, шо я отдам ёго в жэртву! І от он вырос такім пацаном, і вжэ вон ёго на гору, і вжэ того сына отдавав заколоць, спаліць ёго в жэртву Богу. А Бог жэ не схоцев. Воны вжэ того сына колоць – і закололіе – овца. Прэврацілась, зробілась овца і згорела, а той сын жыв. От поэтому она тожэ сьвятая” [гл. № 50]. На гэтым прыкладзе добра бачны механізм фальклярызацыі біблейскага сюжэта. Па-першае, сын (відавочна, Ісаак) у адпаведнасці з шырока распаўсюджаным фальклорным матывам метамарфозы *пэратвараецца* ў авечку (параўнаем: “І ўзвёў Аўраам вочы свае і ўбачыў: і вось, *ззаду* авен, які зблытаўся ў гушчару рогамі сваімі. Аўраам пайшоў, узяў авена і прынёс яго ў ахвяру замест сына свайго” (Быц. 22:13). Па-другое, біблейскі сюжэт завяршаецца па ўзоры жанру этыялагічных легенд і набывае этыялагічны вывад “чаму авечка святая”.

Чацвёртая падгрупа пераказаў – *пераказы-інтэрпрэтацыі*, калі пераказ біблейскага тэксту суправаджаецца каментарыямі і тлумачэннямі расказчыка адносна біблейскіх падзей. “<Чаму яўрэі свініны не ядуць?> <...> Оні прэдалі Хрыста. Да, прэдалі. І всё, і воны будут первые наказаны Хрыстом. Так і сказано в Пісаніі. <...> І воны сталі свінэю в Его мыслях, воні в Ёго оказаліса свіньмі. І воны, яврэі, нэ ядять <свініну>” (зап. у 2001 г. ад П.І.Севасцьянчык, 1940 г. н., в. Смаляніца, Пружанскі р-н). У дадзеным эпізодзе выразна выяўляецца спалучэнне абстрактна-рацыянальнага мыслення (“воны сталі свінэю в Его мыслях”) і этыялагічнага (міфапаэтычнага): (“і воны, яврэі, нэ ядять <свініну>”).

Пятая падгрупа пераказаў – *пераказы-кантамінацыі,* калі ў пераказ біблейскага тэксту (або тэксту Свяшчэннага Падання) уплецены этыялагічныя легенды. Узорам такога пераказу-кантамінацыі можа служыць легендарны тэкст з Гродзенскага Панямоння «Пра зямное жыццё Божай Маці і Хрыста (“чаму павука нельга біці”; “яўрэі свініну не ядуць”; “як пе-

вень ажыў")»[19], дзе падрабязны і дакладны пераказ падзей Свяшчэннага Падання пра зямное жыццё Божай Маці і Свяшчэннага Пісання пра зямное жыццё Хрыста перамяжаецца з народнымі этыялагічнымі легендамі.

Апавяданні або разважанні пра Біблію могуць быць закончанымі вуснымі расказамі (па жанры – легендарнае апавяданне), а могуць быць няжанравымі дыскурсіўнымі выказваннямі. Найбольш часта расказ пра Біблію змыкаецца з эсхаталагічным наратывам – прадказаннем пра канец свету. Як неаднаразова адзначалася сучаснымі даследчыкамі "народнай Бібліі" (В.У.Бяловай[20], Д.У.Громавым[21], К.А.Мельнікавай[22] і інш.), чытанне Бібліі ў народнай сельскай культуры ўстойліва асацыіруецца з працэсам атрымання інфармацыі пра будучыню і злучаецца з эсхаталогіяй. "Да то Святое Пісаньне пісалося. Шо нэбо будэ змотано дротом. Хто то верыв? Шчо жэлэзны птушкі будуть лэтать. Потом, шчо живы мэртвому будэ завідуваты. Пісалося, я-то шчэ помню, як батько чытав, што чоловечого сьледу будэш прыглядатыся, нэ відно́ бу́дэ – нэ будэ людэй. Гэто пісалося, гэто я помню. Батько чытае, а мне інтэресно було слухаты, шчо вон чытае..." (зап. у 2001 г. ад В.М.Карпенчык, 1937 г. н., в. Касцюкі, Бярозаўскі р-н, Брэсцкая вобл.). Тут маецца тыповая для наратываў пра Біблію спасылка на "Святое Пісаньне", дзе прадказваецца змяненне свету перад яго канцом. Але паколькі ў сапраўднай Бібліі такіх прадказанняў не існуе, то інфарманты звычайна спасылаюцца на гіпатэтычную "старую Біблію", якая істотна адрознівалася ад "сучаснай", змяшчала прароцтвы пра будучыню і нават мела пэўную эзатэрычнасць. "А тая ж Біблія да вайны была. Ужо ж так там яшчэ не кожды прачытае словы. <...> Не. Там напісана раздзяламі такімі. І ... чортачкі замяняюць некаторыя буквы дажа ў этай старыннай Бібліі. Так што не кожды можа яе прачытаць, гэту Біблію. <...> Яна зу-

---

[19] *Традыцыйная* мастацкая культура беларусаў. Віцебскае Падзвінне: у 6 т. Т. 2 / Т.Б.Варфаламеева, А.М.Боганева, М.А.Козенка [і інш.]; склад. Т.Б.Варфаламеева. Мінск: Бел. навука, 2004. 912 с.; *Традыцыйная* мастацкая культура беларусаў. Гродзенскае Панямонне: у 6 т. Т. 3: у 2 кн. Кн. 2 / А.М.Боганева [і інш.]; аўт. ідэі Т.Б.Варфаламеева; агул. рэд. Т.Б.Варфаламеевай. Мінск: Выш. шк., 2006. 736 с.

[20] "*Народная* Библия" ... С. 389–391.

[21] *Громов Д.В.* Фольклорные тексты о "ранешней" Библии // Живая старина. 2003. № 1. С. 42–44.

[22] *Мельникова Е.А.* Ожидания от книги ... С. 39–41.

сім па-другому напячатавана" (зап. у 2003 г. ад М.В.Варанец, 1927 г. н.; С.Б.Жыжа, 1938 г. н.; С.С.Татарыновіч, 1941 г.н., катал., в. Гайнінец, Ляхавіцкі р-н, Брэсцкая вобл.).

Самая значная частка любой рэгіянальнай або нацыянальнай "народнай Бібліі" – этыялагічныя легенды. Па змесце ў беларускіх народнабіблейскіх легендах вылучаюцца наступныя тэматычныя фрагменты ў спалучэнні з этыялагічнымі матывамі: Адам і Ева – першыя людзі (этыялагічныя матывы "адкуль кадык у мужчын на горле"; "чаму мужык старшы над жонкай"; "чаму людзі цяжка працуюць"; "чаму змеі ног не маюць"; "адкуль жаваранак"; "чаму чалавек адзін раз паміраe" і інш.); Каін і Авель (этыялагічны матыў "адкуль плямы на месяцы"); Вялікі патоп (этыялагічныя матывы "чаму вужа нельга забіваць"; "чаму сабака і кот адзін аднаго не любяць"; "адкуль буслы"; "чаму ў бусла ногі чырвоныя"; ад каго пайшлі розныя народы"); Вавілонская вежа (этыялагічны матыў "чаму людзі на розных мовах размаўляюць"); пераход яўрэяў праз Чэрмнае мора (этыялагічны матыў пра паходжанне міфалагічных істот – фараонаў (русалак); Ілля-прарок (этыялагічныя матывы "чаму гром грыміць падчас навальніцы"; "адкуль сузор'е Вялікая Мядзведзіца"); Нараджэнне Хрыста (этыялагічныя матывы "чаму конь ніколі не пад'есць"; "чаму каровам і авечкам асвечанае даюць"; "чаму ёлку на Раство ўпрыгожваюць"; "чаму зязюля сваіх дзяцей не гадуе"); уцёкі Святога сямейства ў Егіпет (этыялагічныя матывы "чаму асіна дрыжыць"; "чаму ў бярозы голлі апушчаныя"; "чаму ёлка вечназялёная і ў яе пярун не б'е"; "чаму павука нельга забіваць"; "чаму ў шчупака ў галаве крыжавая костачка"); Страсці Хрыстовы (этыялагічныя матывы "чаму яўрэі свініну не ядуць", "чаму асіна дрыжыць і лічыцца нядобрым дрэвам"); Распяцце (этыялагічныя матывы "чаму цыгану красці можна"; "адкуль хрэн і чаму яго на Пасху нельга есці"; "чаму ластаўка святая птушка"; "чаму жаваранак першы на радзіму вяртаецца"; "чаму вераб'ёў крыўдзіць нельга"; "чаму вераб'ёў лічаць здраднікамі"; "адкуль рыба ўюн" і інш.); Уваскрэсенне Хрыстова ("чаму яйкі фарбуюць"; "чаму камбала плоская"); Ушэсце ("адкуль лячэнне"); эсхаталогія.

Сярод гэтых фрагментаў маюцца агульнараспаўсюджаныя па ўсёй тэрыторыі Беларусі (адкуль у мужчын "костачка" ў горле; чаму да Спасу нельга яблыкі есці; чаму асіна трасецца;

чаму ў ёлку пярун не б'е; чаму павука забіваць нельга і інш.) і рарытэтныя, прадстаўленыя адзінкавымі сюжэтамі, якія тым не менш нярэдка маюць аналагі ў іншых славянскіх народаў або ўвасабляюць тыповыя для розных народаў міфалагічныя прадстаўленні (адкуль жаваранак; чаму жаваранак раней іншых птушак вяртаецца на радзіму; адкуль лячэнне і інш.).

Тэксты "народнай Бібліі" аднолькава важныя для даследавання светапогляду, ментальнасці супольнасці, адаптацыі рэлігіі да народнага асяроддзя на тым ці іншым гістарычным этапе.

* * *

Тэксты дадзенага зборніка запісаны аўтарскім калектывам серыі рэгіянальных выданняў "Традыцыйная мастацкая культура беларусаў" (выдадзены чатыры тамы серыі ў 6-ці кнігах па Магілёўскім Падняпроўі, Віцебскім Падзвінні, Гродзенскім Панямонні і Брэсцкім Палессі) А.М.Боганевай, Т.В.Валодзінай, Т.Б.Варфаламеевай, Т.І.Кухаронак, В.І.Басько, І.В.Мазюк, В.А.Лабачэўскай. Выкарыстаны таксама запісы "народнай Бібліі" У.А.Лобача, М.П.Антропава, С.Г.Выскваркі. Без усіх гэтых матэрыялаў зборнік быў бы значна бяднейшым, у сувязі з чым аўтар выказвае шчырую падзяку сваім калегам і сябрам.

Дзякуючы адміністрацыйнай падтрымцы рэктара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Б.У.Святлова, а таксама ініцыятыве, зацікаўленасці і арганізацыйна-творчай дапамозе прарэктара па інавацыйнай дзейнасці і мастацкай творчасці К.І.Рэмішэўскага змог ажыццявіцца праект першага ў Беларусі выдання матэрыялаў "народнай Бібліі".

*А.М.Боганева*

# БЕЛАРУСКАЯ "НАРОДНАЯ БІБЛІЯ" Ў СУЧАСНЫХ ЗАПІСАХ

Старыя говорацЬ – і мы говорым.
*Е.Соц, 1938 г. н., в. Вулька-2, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Вот, міленька мая, усяго есьць.
І яно дзейсьвіцельна есьць.
*В.Сарока, 1941 г. н., в. Бабічы, Шчучынскі р-н, Гродзенская вобл.*

## СТАРЫ ЗАПАВЕТ

### БЫЦЦЁ

### Стварэнне свету, жывёл, людзей

1

*Зап. у 2003 г. А.М.Боганева[23] ад Мікалая Антонавіча Ракаўца, 1926 г. н., прав., в. Аздамічы, Столінскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Вот я вам што скажу. Нідзе само нічого не дзелалос... Трэба подумаць: то Хто-то это, відзімо, сотворыў. Само не здзелалос. Значыць – есць Творэц. Без Бога нічого не дзелаецца.

2

*Зап. у 2000 г. ад Якіма Емяльянчыка, 1930 г. н., прав., 5 кл., в. Сенькавічы, Слонімскі р-н, Гродзенская вобл.*

Бог саздаў сьперва ноч, а пасьля дзень. Так прыроду панемногу і саздаваў…

#### *Стварэнне зямлі і неба*[24]

3

*Зап. у 2000 г. ад Валянціны Сарока, 1941 г. н., прав., 5 кл., в. Бабічы, Шчучынскі р-н, Гродзенская вобл.*

Была ж цьма, цьма была такая. Было і не неба, і не зямля – нічога не было. А потым Бог – не Іісус Хрыстос, а Бог – <усё

[23] Далей, калі запісы зроблены А.М.Боганевай, збіральнік не пазначаецца.
[24] Быц. 1:1–31. Пераказ біблейскай касмагоніі сэнсава блізкі да арыгінала. Расказаны не ў сувязі з тэмай стварэння свету, а ў сувязі з абгрунтаваннем забароны працаваць у нядзелю.

зрабіў>. Гэта ж во за тое мы далжны ў нядзелю сьвяткаваць – гэта Божы дзень. Ён шэсьць дзён гэтак трудзіўся, Бог. Аднімоў жа цьму, каб зрабіць, каб было слонца, каб было што.

І вот так Ён зрабіў у адзін дзень, у панядзелак. І Ён рабіў, і ў Яго палучылася. І кажа:

– І гэта харашо.

Потым Ён у ва ўторак начоў <рабіць>, каб воду ўсю ў рэкі, у мара, каб усю. І цэлы дзень Ён рабіў, рабіў, і палучылася. І кажа:

– І гэта харашо.

І гэтак во і ў сераду... А патом Ён захацеў зрабіць, каб было якое дрэва…

І зрабіў землю. Зрабіў – і паўсходзіла гэта дрэва.

– Вот, – кажа, – і гэта харашо.

І ўсё гэта Ён цэлымі днямі рабіў, і ў суботу. А ў нядзелю ўжо атдыхаў.

І мы сільна, велька грэшым перад Богам, <калі робім у нядзелю>, патаму што Ён назначыў отдых. Мы далжны рабіць цэлую нядзелю, а ў нядзельку ўжэ далжны атдыхаць і славіць Госпада Бога нашага.

### *Парадак стварэння жывых істот*[25]

4

*Зап. у 1999 г. В.І.Басько ад Васілісы Малец, 1891 г. н., прав., в. Васілевічы, Слонімскі р-н, Гродзенская вобл.*

А што Гасподзь Найвышшанькі сатварыў первае? Хадзіў раньшэ Бог па свеці, ні было людзей, зямелька святая ляжала. А яна любіць, каб яе капалі. Бог Найвышшы падумаў: да, німа ні людзей, нікого… Плохо-такі, земелька абіжаецца[26]. І сатварыў коціка, перваго і пусціў яго. Ходзіць коцік, мармыча, адзінокі, як і я адзінока. Цяжэнько яму, ніхто яго ні паласкае, ніхто яго ні пакорміць. Бог Найвышшанькі, злітуйся над ім, і Бог сатварыў яму пятушка. О, той жа пятух, кох, кох – ні друг яму. Пятушок найдзе якую-нібудзь лу́шачку, кліча

[25] Народна-апакрыфічны арыгінальны варыянт стварэння свету (інфармантцы на момант запісу было 108 гадоў, пры слыху і памяці). Тут паслядоўнасць стварэння жывых істот паўстае як своеасаблівы эксперымент і назіранне Творцы, пошук аптымальнай мадэлі развіцця, якой становіцца ў выніку злучэнне стварэнняў у пары, завяршаецца вянцом стварэння – чалавечай парай.

[26] Пар.: Быц. 2:4–5. "Вось паходжанне неба і зямлі пры стварэнні іх у той час, калі Госпад Бог стварыў зямлю і неба, і ўсякі палявы хмызняк, якога яшчэ не было на зямлі, і ўсякую палявую траву, якая яшчэ не расла, бо Госпад Бог не пасылаў дажджа на зямлю, і не было чалавека для апрацоўкі зямлі".

курачку, но німа нікого. Цяжко аднаму пятушку. І зрабіў Бог яму курачку. О, тут жа пятушок ходзіць, рад, кліча курачку. І Бог Найвышшанькі зноў кажа, што ж іх трэба пакарміць. А патом Бог сатварыў Адаму і Еву, ну і тут ўжэ пашло другое жыце, людзі пашлі, сталі старыцца.

### *Стварэнне людзей*[27]

5

*Зап. у 1998 г. ад Ганны Андрэеўны Казловай, 1901 г. н., прав., адук. не мае, в. Андрэеўская Слабада, Шумілінскі р-н, Віцебская вобл.*

<Як> сьвет завёўся: Бог выйшаў, жмэньку ўзяў зямлі, як дунуў, так народ і выйшаў. І ўзяў Ён ту зямлю перяд етым, перяд Ражством. Ну вот. Тады Ісус Хрыстос радзіўся.

### *Стварэнне і канец свету*[28]

6

*Зап. у 1998 г. ад Антона Андрэевіча Савельева, 1912 г. н., прав., 2 кл., в. Полькавічы, Шумілінскі р-н, Віцебская вобл.*

Пра гэта дзядзька расказваў. Гаворыць, сатваріўся сьвет. Васшуміць рака огненная, загудзіць Ангел, Архангел у залатую трубу. А тады васшуміт рака огненная ат Востоку і да Западу. І, гаворыць, канец сьвета быў ба.

Вот цяпер жа ж тожа далжны знаць і па радзіва, і па целевізару, што двухтысячны год пройдзець, а тады апяць канец сьвету будзець, сколькі там гадоў пасля двухтысячнага года. Яшчо даўжон пад пісаніе, па-старіннаму.

Так вот, гаворіць, васшуміць рака огненная ат Востоку і да Западу, і загарітца і вада, і зямля, ўсё. У восем лакцей, гаворіт, будзець гарець, как пасставіш локаць. Усё выгаріць.

А тада Адама і Еву напісаў Сьвятой Дух. Так і завялісь людзі, ета што мы жывём. А то некатарыя гавораць з абезьян! Адам і Ева напісаны на пяску, падняліся людзі і пайшлі. І сколька лет жывём.

---

[27] У дадзеным фрагменце матыў стварэння людзей з "праха зямнога" і дыхання Божага (Быц. 2:7) прадстаўлены ў нетыповым варыянце множнасці, калі ствараецца не адзін першы чалавек, а адразу цэлы народ. Акрамя таго, тут маюцца звычайнае для "народнай Бібліі" храналагічнае зрушэнне падзей (народ выходзіць "перяд Ражством. <...> Тады Ісус Хрыстос радзіўся") і сэнсавая пераклічка "раства" людзей і Раства Хрыстова.

[28] Спалучэнне касмагоніі і эсхаталогіі, тэкст выразна адлюстроўвае цыклічную мадэль успрымання часу і гісторыі, калі канец свету можа быць не аднойчы.

Во дзядзька расказваў начытаны, старынных кнігаў начытаны. І панімаў усё на сьвеце. Дзядзька пасля вайны памёр. Дзевяноста пяць, ілі дзевяноста шэсьць гадоў было яму…

Двухтысячны год атжываем, а тады, сколькі там яшчо пражывём? Гадоў пяць? Ілі сколькі… І ўсякія бунты, паглядзіця, сколькі цяпер народа падаець. Раньшэ ж етава не было – на аўтобусе аварія, крушэніе самалётаў, паяздоў крушэніе палучаецца. Землятрасеніе бываіць, а раньшэ ж етава не было. Дама падрываюць, дама абрываюцца…

*– Так гэта што, канец света недалёка?*

– Такія пашэствія будуць яшчэ большыя, кроме етых, што січас ідзёт. Мой дзядзька так гаварыў, а яно і падходзіць усё.

*– А што пасля канца свету будзе?*

– Згарыць усё, толькі остраў адзін на морі астанецца с людзям. Гдзе-та і апяць будуць людзі жыць, ну там у стораны. Не ўвесь свет разам згарыць, дзе-та астанецца па пісанію остраў. Какія там людзі будуць?

*– І ад іх людзі разыдуцца?*

– А тут Адам і Еву напісаў Сьвятой Дух на пяску, а яны ўсталі.

## Адам і Ева – першыя людзі

### Грэхападзенне[29]

7 А

*Зап. у 1999 г. Т.Б.Варфаламеева ад Валянціны Фалейчык, 1923 г. н., прав., 3 кл., в. Дарагава, Карэлічскі р-н, Гродзенская вобл.*

*– Як свет стаў? Адкуль ён узяўся?*

– Эта ж Бог свет стварыў. Ну, я па начытанаму знаю. Не было ж Зямлі. Бог даў Зямлю. Быў жа ж рай, на небе рай. Усе жылі па ўказанню Божым – святыя. А ў раі сядзіць толькі сад, і дрэва харошыя. Там залатыя яблыка растуць. Ну і быў гэты Адам. І яны абслужвалі гэты сад. Но Бог сказаў:

– З гэтого дрэва нельзя есці! Еслі вы гэта нарушыця, то я вас моцна накажу.

---

[29] Быц. 3:1–24. Усе народнабіблейскія наратывы, прысвечаныя грэхападзенню, пераказваюцца як займальныя гісторыі з першых часоў, багатыя этыялагічнымі наступствамі. Містычны сэнс грэхападзення і наступнай збавіцельнай ахвяры Хрыста, як правіла, застаецца па-за ўвагай сельскіх інфармантаў.

Я вам прасцей буду гаварыць: укусіла Ева гэтого яблыка. І ўкуснае ж было! І падала й Адаму. <…> Жанчына. Скусіла ж Ева Адама. Так і мы, жэншчыны, усе скусваем мужчын. То грэх нам прыродны, ад Бога.

Ну і што ж, Бог сразу пазнаў, што яблычка тыя былі вырваныя, каторыя далжны сядзець. Яны схаваліся пад гэто дрэво. І Бог даў, што гэтыя лісця ўзялі і распусціліся. Яны ўжо грашылі там. І Бог іх ўсі раўно ўгледзеў. І тады іх сагнаў на Землю грэшных. І вот патаму і мы ўсе грэшныя на Зямлі. І так састаіць мір.

7 В

*Зап. у 2007 г. ад Соф'і Браніславаўны Закавіч, 1935 г. н., катал., 3 кл., в. Любань, Вілейскі р-н, Мінская вобл.*

Як Бог сатварыў сьвет... От мы гаворым: з праху паўстаў, у прах абернісся. Ну от, значыць, эта ў раю было. Бог вылепіў із гліны чалавека. Уставіў яму ноздры, вочы, рот, лёхкіе, і здзелаў Ён пару людзей. Першага ўжо Адама сатварыў, а патом ужо стварыў із зямлі, з гліны, Еву. І яны былі ў Бога ў раю. І патом ім Бог сказаў:

– От, хадзіце па гэтаму саду, жывіце, но толька з етага дрэва пладоў не ешце.

А тады расло жыта, рос колас ад зямлі, ну і зярно. А цяпер ужо не, ужо толькі навярху колас.

Ну і тады зьмей саблазьніў іх, штоб яны папробувалі з гэтаго дрэва яблыка. Як яны папробувалі... А яны ж хадзілі голыя, не надзяваліся, цёпла было. А тады яны ўжо понялі стыд, такое, што началі дрэвамі ўкрывацца. Прыйшоў тут да іх Бог.

– Ну што вы, – кажэць, – сатварылі? Вы былі ў раю, а цяпер Я вас ськіну на зямлю. І будзеце трудзіццца і мучыцца на зямле, пакуль ужо век ваш не кончыцца.

І вот яны былі на зямле, трудзіліся, із раю іх ужо Бог выгнаў. Дак у гэтаго Адама было многа дзяцей. Абель вот і Каін быў, многа дзяцей у іх было. Ну і патом яны з гэтага сьвету размнажаліся.

7 С

*Зап. у 2006 г. А.М.Боганева і С.Г.Выскварка ад Андрэя Данілавіча Лапціка, 1922 г. н., прав., 4 кл., в. Палічын, Любанскі р-н, Мінская вобл.*

Эта ад пакойнай бабушкі маей Агапкі. <...> Тожа расказывала. В Едэмскам саду ані былі прэждзе. Бог сатваріў Адама. Бог пасматрэў, што скучная жызьнь этаму Адаму пражываць. Он з его рэбра сатваріў ему жэну, Еву. От ані і пражывалі некатарае ўрэмя. Можа і парадачнае ўрэмя пражылі ў етам саду Эдэмскам. І аднажды сатана спадкусіў. А Бог сказаў ім:

– От с этага дзерава не трогайце пладоў, не кушайце!

А сатана аднажды падабраў такое ўрэмя, када Адама не было, а Еве гаворыць:

– А пачэму жа вы с этага дзерава не кушаеце пладоў? І на земле, о, валяецца…

– Да Гасподзь Бог сказаў, што с этага дзерава нельзя.

– Да ты што! Да ты паспытай!

Яна паслушала, паслушала, і чэрэз сколькі на Адама гаварыць:

– А іх можна есьці. Яны ўкусныя, харошыя.

А кагда і ён пакушаў, яны пачуствавалі ўжо: эге!… Стыд. Ані ж голыя! Сталі прыабрэтаць сабе як бы адзежу: ліст там, протчая такое ўсё, штоб прыкрываць сваю нагату. Бог рассерчаў на ета дзела і выгнал іх рая.

Так жывіця, трудзіцесь да пота. А ты, Ева, будзеш пры смерці дзецей ражаць. От так ваша жызьнь будзе, раз вы не паслушалі Майго запрэту, завета, як Я вам завяшчаў.

### **** (Адкуль Адамаў яблык)*[30]

8 А

*Зап. у 2007 г. ад Фядоры Мартынаўны Кузьміч, 1923 г. н., прав., 4 кл., в. Баландзічы, Іванаўскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Тоды росказувалы, шчо Адам і Ева люды булы сьвятыї. <...> Сам Бог хухнув, з зімлі набрав зімлі і Свого Духа пу-

---

[30] У дужках тут і далей пазначаюцца дадатковыя да асноўнай тэмы грэхападзення этыялагічныя або некаторыя іншыя матывы народна-апакрыфічнага характару (якіх няма ў Бібліі). Кананічныя біблейскія матывы наступстваў грэхападзення – веданне сораму, цяжкая праца і нараджэнне дзяцей у пакутах – у загалоўках тэксту не пазначаюцца.

стыв – став Одам. Ну і пустыв його в рай Господь – іды, ходы по раёвы. Він ходыв по раёвы – скучно. Прыдэ Господь і пытае:

– Одам, Одам...

А він кажэ:

– Господі, мні скучно самому!

Тогді Господь його уснув, уснув він сном міцным, і достав лівое рэбро йому. І хухнув. Взяв пэску і рэбро тое віняв з його, і хухнув. От стала йому Ева.

– От это тобі, – говорыть, – жэна твоя. Жонка твоя будэ – Ева.

Сталы воны вжэ вдвох. Ну і стало добрэ ходыты по раёвы. Бог іх обвів скрызь і кажэ:

– Адам, Ева, з усёго дырэвья йіжтэ это всё, говошчы всі, якы есть – йіжтэ. Но з гэтого – сохрані Божэ вас, нэ йіжтэ!

Ай, як жэ! Ева ходыла, ужэ ж по раёвы, всё ж – а шчэ ж нэдовольная. Всё покоштовала – коб шчэ і гэто покушаты. Пошла вона і вырвала. Вырвала, вкусыла і проглотнула. І дала і Одамовы. Одам як узяв, пэршы раз як укусыв – сразу він удавывсь. <...> І у нас нэма ж гэтого яблычка, а в мужыків есть яблычко – він удавывсь. Ну, тоді вжэ Бог прыйшов до йіх і кажэ:

– Одам, Одам, Ева!

Вжэ ж йім стыдно стало, бо воны ж ходылы голыйі. Тоді воны давай ужэ з лыстя шыты собі одёжку. Пошылы собі одёжку і выйшлы пэрэд Богом.

– Так, Одам. Ты будэш робыты тяжко, а ты, Ева, будэш дітэй рожать тожэ тяжко. А ты, Одам, будэш робыты і будэш діты годоваты. І всё, собірайтэса, і з раю вас, всё.

І тэпэр мы діты родымо і тяжко, і должны мы йіх годоваты і всё. От тэпер батькы нэ годують, алэ должны мы йіх по-Божому годоваты. От такый. <...> Это пэршэ людэ. <...>

А нашчо, еслі дытё воно зародыцця, допустым, і зарэ – воно нехрышчэнэ такее, <і памрэ>. <...> Його ніяк нэ назовэш... Як мальчык – Одам... Ну, як хороныш, посвятыш воду – Одам. І девочку – Ева. От того-то пошла така легенда.

### 8 В

*Зап. у 2008 г. ад Аляксандры Васільеўны Адзесенкавай, 1918–2010, прав., адук. не мае, нар. у в. Стары Шклоў, Шклоўскі р-н, Магілёўская вобл., жыла ў Мінску.*

– А костачка <у горле> ў мужчыны адчаго?

– *Адчаго?*

Гасподзь жа саздал Адама. Ён хадзіў адзін па саду, гуляў. Тады Гасподзь гаворыць:

– Адам, цябе скушна аднаму?

І здзелаў Гасподзь ноч. Вынуў яго рабро, дунуў – стала жэншчына, Ева. Ён іх зав'ёў у сад, у рай. І гаворыць:

– Не шчыпіце з дрэва! Вот з гэстых шчыпіце і кушайце.

А гэта дрэва было зло! А Ева:

– Давай, папробуем із гэстага дрэва!

Укусіла – няўкусные. Яна ўкусіла, папробавала і плюнула. А ў Адама засела ў горле. І вот у мушчын на горле шышка. Патаму што ён не праглынуў гэстага яблыка. А яно было зло.

8 С

*Зап. у 2002 г. ад Валянціны Казакевіч, 1925 г. н., прав., 4 кл., хутар Дракі (каля в. Каты ), Смаргонскі р-н, Гродзенская вобл.*

Во гэта Адам і Ева, я так раскажу. Яны жылі ў раю. То яны ж былі не грэшныя. Яны хадзілі голыя, так як мы адзяёмся. І яны хадзілі па раю, там і яблыкі расьлі. І адна яблына была – пазнання дабра і зла. Ну вот, а знаеце, зьмей гэты сядзеў і скусіў яе. А такія яблыкі харошыя, так ён сядзіць на яблыны, на дрэве, і гавора:

– Кушайця гэтая плады, аны очэнь укусныя.

Кажа Ева:

– Так нам жа ж няльзя іх кушаць.

– Не слухайця Бога, вы скушаеце, вы самі будзеце багамі.

Ўсё. Знаеце, жэншчына ж вабшчэ бывае болей такая скуслівая, як мужчына. І вот тады яна сарвала і ўкусіла, і Адаму дала. І яна праглаціла, а ён не праглаціў. За тое ў мушчыны во горла, у баб жа ж няма так. Вот за тое застраў яблак, што яна саграшыла.

Тады Бог увідзеў, што яны саграшылі, і Ён выгнаў іх з рая. І сказаў так на Адама: "Ты будзеш у поце ліца дабываць хлеб свой!"

8 D

*Зап. у 2004 г. ад Надзеі Фёдараўны Кароль, 1940 г. н., прав., сярэд. спец. адук., в. Гаць, Акцябрскі р-н, Гомельская вобл.*

Ева саблазніла Адама… Ну, кагда Гасподзь паслаў Адама і Еву ў райскі сад і прыказаў: можна са ўсех дзярэўяў кушаць

усе плады, толька с аднаго дзерава нельзя. А Адама саблазніла зьмяя ці Ева… Сарвала тое яблака і дала Адаму. І как раз у этат мамент шоў Гасподзь, і Адам успеў пражаваць, а не сумеў пракаўтнуць, і застраў у горле кусочак. І здзесь абразавалась костачка ў Адама, і ў бальшынстве ў нашых мужыкоў эта костачка сахранілась і па сей дзень.

8 Е

*Зап. у 2004 г. ад Валянціны Іванаўны Ламахі, 1942 г. н., нар. у в. Берлаш, Светлагорскі р-н, прав., 8 кл.; Любоў Васільеўны Швайбы, 1935 г. н., нар. у в. Кляшэвічы, Светлагорскі р-н, прав., 6 кл.; жывуць у в. Слабодка, Акцябрскі р-н, Гомельская вобл.*

Адам і Ева нарадзіліся… Не трэба было плод той есці! Я не знаю, які плод, сліва ці што… А ён узяў, ды не ўправіўся пракаўтнуць. Дак за тое ў яго тут "яблачка" *(паказвае на шыю)*. Ева пракаўтнула, а Адам не *(смяецца)*. Эта былі святыя, а так саграшылі.

******(Адам саграшыў першы[31])***

9

*Зап. у 2007 г. Т.В.Валодзіна ад Валянціны Паўлаўны Пясецкай, 1931 г. н., в. Падрэзы, Чашніцкі р-н, Віцебская вобл.*

*– А пра кадык у мужчын?*

– Адам і Ева сядзелі дзе-та ў саду. І яблына там была. А Ісус Хрыстос[32] сказаў ім:

– Ня ешце яблыка!

А яны ж ня вытрымалі. Ева вытрымала, а Адам не – і ўкусіў. А Ён ім:

– Ну што, ня вытрымаў?

А яно сперачылася яму ў горле. Цяпер і костачка ў яго тут. Раз ён з'еў.

*– А Ева не ела?*

– А Ева ня ела. Вот у яе і няма.

---

[31] Варыянт матыву, што Адам саграшыў першы і справакаваў Еву, эпізадычна сустракаецца паўсюдна ў Беларусі.

[32] У народнабіблейскіх легендах нярэдка эпоха першатварэння звязваецца з Ісусам Хрыстом. А імя Хрыста часта выкарыстоўваецца замест называння Бога.

### *** (*Чаму ў мужчыны на адно рабро меней, чым у жанчыны*)

10

*Зап. у 2005 г. ад У.І.Сухоцкай 1927 г. н., прав., 5 кл., в. Чкалава (Жарабное), Гомельскі р-н, Гомельская вобл.*

Баба мая, шчытай, шчэ ў прыгоне служыла. Баба расказывала, Господь саздаў Адама на свет. Дак яму скушно было. І кажа:

Господзі, мне скушно!

І з ёго рабра... От Вы пошчытайця, што ў мушчыны на адно рабро меней, як у жэншчыны. Дак Ён з яго рабра саздаў яму жану. І яны хадзілі, шчытай, у раю, у саду. І ім Гасподзь сказаў:

– Такое во дзерава, штоб вы не дай Бог з етага дзерава не бралі яблак.

Ну а Ева хадзіла, хадзіла, а там зьмей сядзеў на той яблане. Да кажа:

– Ева, вазьмі эта яблака.

Яна кажа:

– Нам Гасподзь Бог сказаў, шоб не бралі, это яблака зла.

Ён кажа:

– Вазьміця. Эта Бог думае, вы гэта яблака з'ясьце і самі будзеце як богі.

Ну і яна ўзяла, з'ела і Адаму дала. І сталі яны грэшныя. Шчытай, стаў у іх грэх. Панімаеце? Гасподзь кажа:

– Адам! Хадзі сюды!

А ён кажа:

– О Госпадзі, мне стыдна.

У яго стаў грэх.

– А хто, – кажа, – табе саграшыў?

– Ева.

– Ева, нашто ты брала гэта яблака?

– А мяне зьмей празнучыў, сказаў: бяры гэта яблака і зьясі ты будзеш так, як Бог.

І як Адам еў эта яблака, ён як удавіўсь.

### ***(*Чаму мужыкі гарэлку п'юць*)[33]

11

*Зап. у 2002 г. ад Марыі Шукелавіч, 1933 г. н., прав., адук. не мае, в. Чэрнушка, Ашмянскі р-н, Гродзенская вобл.*

[33] Адзінкавая ў беларускай "народнай Біблії" этыялогія "чаму мужыкі п'юць і не слухаюць жонак".

Адам і Эва шлі па полі ці па лесу. <…> Яны йшлі ўдваём, да. І патом захацелася Адаму піць. Ён сарваў яблыка і ўкусіў. А Эва сказала:

– Нельзя.

А ён не паслухаў. Так як і цяпер мужыкі п'юць, не слухаюць жонак. І вот, як ён укусіў, у яго застрала гэта яблака. Зато костачка засталася ў горле.

***(Чаму вуж на жывяце поўзае)*[34]

12

*Зап. у 1999 г. ад Леакадзіі Кудрыцкай, 1923 г. н., катал., в. Талькаўцы, Ваўкавыскі р-н, Гродзенская вобл.*

Усё, усё Пан Бог створыў, усё даў на сьвет. Пан Бог створыў Адама і Эву. І іх пасадзіў у рай. Каб яны не саграшылі, то хадзілі б па раю, і сьвет быў ба не грэшны. Але Пан Бог іх пасадзіў, і даў Адама, а тады Эву. Бо то ж як то – адзін? А там было надто харашэ, дрэва было, яблыкі ўсялякія былі… І Пан Бог сказаў, што каб з гэтага дрэва не бралі, каб з гэтага дрэва не елі яблыка. А вуж залез на тое дрэво… То д'ябал <быў>… І ён залез на гэтае дрэва, і ўзяў, сарваў яблыка і даў Эве, і сказаў:

– Вазьмі, з'еш гэтае яблыко, то будзеш ты ўсё бачыць і ўсё цябе будзе вінно, і ўсей сьвет будзе пад табою.

Ну і Эва ўзяла і гэто яблыко ела, а патом дала Адаму і сказала:

– Гэто ябко з'еш.

А ён сказаў:

– Гэто з заказанэ́го джэва!

А яна:

– Ніц, – кажа, – ніц! Вэ́сьце, бэ́ндзе ўжо крулёваць, усем сьветам абладаць.

Анно, як зьеў Адам гэто яблыко – і адразу стаў голы, стаў на́гі. І тады Пан Езус на яго сказаў:

– А чаму ты на́гі?

А он сказаў Пану Езусу:

– Я зьядлам ябко з тэго джэва заказанэ́го.

[34] У гэтым тэксце ўсе рэплікі ўдзельнікаў дыялогаў вымаўляюцца падкрэслена на польскі лад. Паводле нашыхназіранняў, жыхары Панямоння польскую мову пры расказванні народнай прозы выкарыстоўваюць у двух супрацьлеглых выпадках: для стварэння эфекту "высокага шцілю", як у гэтым тэксце, або, наадварот, для стварэння камічнага эфекту.

А Пан Езус сказаў:
– А чэго ты зьяд?
– Бо мне Эва да́ла.
Так Ён тады на Эву сказаў:
– А чэму ты зьядла ябко?
А яна сказала:
– А мне даў вонж то ябко і пове́дэл, жэ́бэ я зьядла.
То Пан Езус сказаў на вужа:
– Бэндзеш чо́лгаць на бжу́ху! Не бэндзеш на но́гах і прох бэндзеш есьці!
І гэтак вуж поўзае на трэбусе́.

### ***(Чаму ў жанчын грудзі)[35]

13

*Зап. у 2000 г. ад Ванды Машкевіч, 1935 г. н., катал., 3 кл., в. Бабічы, Шчучынскі р-н, Гродзенская вобл.*

Вот я Вам раскажу. Вуж гэта некалі хадзіў па зямлі, як тычка <палка>[36]. І ён скусіў А́дама і Эву – першыя людзі. Ён сказаў:
– З'ешце з гэтаго заказанаго дрэва овошч яблыка. Будзеце знаць тое самае, што Бог.

Жэншчына з'ела – і ў яе грудзі. А мушчына – адамыў яблык на горле. А яго, <вужа>, Бог скараў, каб поўзаў усю жысьць, і ён поўзае.

### ***(Чаму муж старэйшы над жонкай)

14

*Зап. у 2003 г. ад Адама Паўлавіча Шэлеста, 1930 г. н., нар. у в. Гарадная, прав., 2 кл., жыве ў в. Асаўцы, Столінскі р-н, Брэсцкая вобл.*

І вот Одам і Ева, воны чым согрэшылі? Господу Богу не поверылі, нэ послухалі. Ева вырвала яблоко з яблыні і дала Одаму, штоб вон укусыв, попробовав – яке воно? І вон укусыв, і ў каждого мужчыны яблочко тутэка-во. Это вон пода-

---

[35] Адзінкавы, але невыпадковы этыялагічны матыў. Часта ў народных легендах пра Адама і Еву сутнасць грэхападзення тлумачыцца забароненым злучэннем Адама і Евы. З'едзены яблык, які дае жанчыне грудзі, падобныя на яго формай, адсылае да гэтага тлумачэння.

[36] Матыў поўзання змея на жываце кананічны: "І сказаў Госпад Бог змею: за тое, што ты зрабіў гэта, пракляты ты перад усімі скатамі і перад усімі звярамі палявымі; ты будзеш хадзіць на ўлонні тваім, і будзеш есць прах ва ўсе дні жыцця твайго" (Быц. 3:14). Аднак у вусным увасабленні ён дадумваецца, і ўдакладняецца першапачатковы стан змея, які "хадзіў як тычка".

вывса тым яблоком. <...> Ева ёго спокусыла. Нэ надо було ее слухаты, нэ нада було тэе яблуко есты, і не было б у ёго этого яблычка. Согрэшыў. Одам і Ева – грешнікі. І от жоночына мусыты чоловека слухаты. А як жэ мужчыну нэ слухаты? Вон старшы. Так і мужчына ў дому.

### *** (Чаму колас ад зямлі не расце)[37]

15

*Зап. у 2003 г. ад Марыі Аўгусцінаўны Юрудзь, 1937 г. н., катал., 7 кл., в. Падбарэчча, Ляхавіцкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Бог жа ж сказаў, каб у сад не йшлі, той не елі яблык. А яны пайшлі. Дак Адам узяў ўсё-такі і еў гэтае яблыка. Як з'еў, яму засела гэта костачка ў горле. І вот у мужчын у некаторых костачка так тарчыць і цяпер. Із-за гэтага прызнаку, што Адам з'еў і саграшыў.

І сказаў Адам, што гэта Ева вінаватая, што яна сказала. І вот цяпер чаму людзі кажуць: "А, яна вінаватая!" <...> Ева не вінаватая, а ён. Вот поэтому это вот от Адама. Адам сказаў, што эта Ева вінаватая: яна сказала мне з'есці гэта яблыка. <...>

Бог раззлаваўся, што людзі саграшылі – першыя людзі, Адам з Евай, ды пайшоў у зярно, пайшоў у збажыну гэту... Тады расло зярно: колас мо ад зямлі да самага верху, колькі можа сцябло дацягнула. І Бог раззлаваўся, узяў, каб зніш-чыць, і сцябло гэта аднізу адной рукой шмыргануў даверху. Ён думаў, што толькі кот і сабака Яму не саграшылі нічога. І вот аставіў гэты каласок толькі для ката і сабакі. Мы ж вот пітаемся на іх хлебе ж.

– *Так гэта ўсё Адам і Ева?*

– Угу. Першыя людзі.

### *** (Чаму да Спаса яблыкі есці нельга)

16 А

*Зап. у 2001 г. ад Леаніды Пятроўны Папіціч, 1936 г. н., нар. у в. Сташаны, Пінскі р-н, прав., 4 кл., жыве ў в. Вялікае Сяло, Пружанскі р-н, Брэсцкая вобл.*

---

[37] Кантамінацыя з этыялагічнай легендай пра колас, які рос ад зямлі.

Ева Адама скусіла. <...> Ева, Адам – это Божые людзі. Воны розомножалі людзей. І воны нэ зналі ні одёжы, ні есці, ну так во жылі Духом Сьвятым. А там, знаеш, яблынька такая в саду. Такіе яблычка харошэнькіе! І гадзюка там жэ ж. Ну, гэта сатана. І Ева-то не хацела, але ж вона-то соблазніла!

– Возьмі, –кажэ, – вот... Возьмі, спытай, хоч укусі это яблычко.

І Ева взяла гэто яблычко і ўкусіла. На Адама кажэ:

– На, попробуй, яке вкусненькіе!

А той Адам як узяв, да такая смоковіна в тому яблыку! Вон аж удовівса яблыком (*смяецца*). Ну гэто такіе сказкі дзецкіе. І ў ёго і зарэ тырчіць, у мушчыны.

І от зарэ покуль это на Спаса, як посвятіцца яблычко, то верующчые ў Бога не едят, не зрывают до Спаса. Я до Усплення не ем. О гэто за гэтым. Што сатана скусіла яблычком, і это все православные верующчые не едят до Сплення яблычко. Прошлогодніе сухіе ямо, варэнні, а ўжэ вот...

*– А кажуць яшчэ, што ў каго дзіця памёрла?*

– Это мая мама не ела. Полтора года ў мяне братік памёр. <...> Кажэ, ужэ там душы... Гэтые душы, як младенца, напрымер, так воно ж безгрэшное. І там і тут Бог ім раздае яблычка. І гэто дзіцяточко подбегае, а Вон да кажэ: "Твое яблычко сьвіння з'ела!" Бо маці ела да Сплення яблычка. Мая мама не ела. От это я добрэ-добрэ знаю. І я не ем. До Сплення не ем.

## 16 В

*Зап. у 2006 г. А.М.Боганева, Т.В.Валодзіна ад Ульяны Аляксандраўны Еўдакіменка, 1928 г. н., прав., в. Вусце, Чавускі р-н, Магілёўская вобл.*

*– Чаму костачка ў горле ў мужчыны?*

– Нельзя есь яблыкі, а ён, <Адам>, зьеў да Спаса. Вот у яго і перясела ў глотцы. Вот цяперя ва ўсіх мужчын так.

*– А Ева не ела?*

– Не[38].

[38] Тут, у адрозненне ад папярэдняга варыянта, не этыялагічнае тлумачэнне звычаёвай забароны (не есці яблык да Спаса, бо праз яблык адбылося грэхападзенне), а сутнасць грэхападзення тлумачыцца каштаваннем яблык да Спаса. Гэты варыянт перыядычна сустракаецца па Беларусі, пры гэтым інфармантаў мала засмучае, што падзея Перамянення Гасподня (Спаса) адбылася ў значна больш пазнейшую эпоху зямнога жыцця Ісуса Хрыста.

16 С

*Зап. у 2007 г. ад Кацярыны Сяргееўны Рыбачонак, 1920 г. н., прав., 1 кл., в. Старая Слабада, Крупскі р-н, Мінская вобл.*

– Пашлі ў кумы… Ды па-суседску пашлі… А тады пасьвяцілі яблычык, дык… Ці Адам не хацеў, ці Ева… А бацюшка казаў не ўкусіць… А яны ўкусілі, зьелі. І вот за гэтым і пажаніліся. Яблычак зьелі.

*– А ў якія кумы яны пайшлі?*

– Хрысціць у саседа дзіцёнка.

*– А яблык ім можна есці было?*

– Мусіць не можна. А яны зьелі. І тады пажаніліся.

*– Так Адам і Ева першыя людзі ці не?*

– Ну, мусіць жа першыя.

*– Але суседзі ў іх таксама былі...*

– Ну.

*– І кумы?*

– І кумы. Куміліся ж даўней, кумы, ого, радня! Эта ж ат веку…[39]

### *Мужчына – "свянцоная костачка"*

17

*Зап. у 2007 г. ад Соф'і Пятроўны Кузьміч, 1934 г. н., 8 кл., в. Сталюгі, Лепельскі р-н, Віцебская вобл.*

– <Бабушка> расказавала, што Адам і Ева нягрэшныя людзі, жылі ў раю, хадзілі голыя і не стыдзіліся гэтага. Там расло дрэва, запрэтныя яблыкі. Када Ева сарвала запрэтны плод, Гасподзь сагнаў іх. Мы цяпер гаруем праз іх...

*– Ці казалі, што ў Адама такая костачка на шыі?*

– Не, не казала. Эта мая цётка казала: мужчына – свянцоная костачка.

*– А чаго?*

– Наверна, што Бог саздаў, а тады з яго рабра Еву. Вы глядзіця, не абіжайця мужчын, эта ж свянцоная костачка.

### *Чаму жанчына занятая*

18 А

*Зап. у 2001 г. ад Ганны Аляксееўны Дунак, 1913 г. н., нар. у в. Вялікая Ракавіца, прав., адук. не мае, жыве ў в. Кашылава, Брэсцкі р-н, Брэсцкая вобл.*

---

[39] Паняцце пра *першых* людзей у сюжэтах пра Адама і Еву нярэдка сумяшчаецца з наяўнасцю іншых людзей: суседзяў, вяскоўцаў і да т. п.

Жынка грэшніца, а мужык нэгрэшны. Мужык мэньшэ робыть, но тяжэлей. А жонка робыть большэ, но легшэ. Мужык на полэ ідэ, а жонка дома сыдыть з дітьмы. Вот так і получаетца, <бо> Ева вырвала яблыко і з'іла ёго. Так кажуть, і я так кажу.

18 В

*Зап. у 1999 г. ад Ганны Палуйчык, 1906 г. н., прав., адук. не мае, в. Кавалі, Ваўкавыскі р-н, Гродзенская вобл.*

Мушчына ўсюды вольны, а мы як у катарзе жэншчыны! Нам заўсягда работа. Так і самі вінаватыя, што ж зробіш. Вот так Адам і Ева.... Яны былі голы, але нічаго не зналі і не панімалі. А змей скусіў яе. Папытаў:

– А ці праўда, што Бог запраціў вам усе плады есьці?

А яна кажа:

– Нет, зачэм! Усё можна кушаць толька аднаго не.

– Так вы пакушайце, і вы будзеце лепей знаць за Бога! Вам усё будзець – далей некуды.

І яна паслухалась, вырвала, пакушала этава яблачка і дала свайму мужыку. І тут яны агледзеліся: “Мы ж нагі! Куда ж нам дзявацца? Трэба лісточкі сшываць і закрывацца!” І ўсё. Прыйшоў вечар, і Бог ходзіць па раю.

– Адам, Адам, дзе ты? – Маўчыць.

– Ева, Ева, дзе ты? – Маўчаць.

Да трох раз. Трэці раз Адам кажа:

– Я наг.

А Бог:

– Хто гаварыў такое? Не ўкушалі вы з дрэва?

– Госпадзі, жана ўкусіла і мяне саблазніла.

От відзіце, значыць жэншчына перша саграшыла. І трэба жыць. І слава Цябе, Госпадзі! Выйсця йначага няма.

****** (Чаму людзі ў адзёжы ходзяць)***

19 А

*Зап. у 2001 г. ад Варвары Лаўрэнцьеўны Чатырбок, 1912 г. н., прав., адук. не мае, в. Аранчыцы, Пружанскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Это говорылі Адаму і Еве, шоб воны того плода нэ кушалі. А воны всё равно тое яблоко покушалі. І воны... То <...> воны голые ходілі, а то вжэ в одёжы сталі все люді ходіть.

19 В

*Зап. у 2007 г. Т.В.Валодзіна ад Антаніны Дзмітрыеўны Казакевіч, 1936 г. н., в. Гарнавешчанне, Талачынскі р-н, Віцебская вобл.*

*– А што ў мужчын такая костка тут на шыі?*

– Я і сама ўдзіўляюся. Неяк Адам сказаў Еве не кусаць яблык, а яна ўзяла ды ўкуснула. Яны голыя хадзілі. А тады сталі адзежу. А цяпера апяць голыя ходзюць. Каб пупы голыя, эта ж такі пазор! Не хадзі, дзяцёнак, так, дужа стыдна.

### *** (Чаму гады па свеце распаўсюдзіліся) [40]

20

*Зап. у 2010 г. ад Паўліны Навумаўны Ільюшчыц, 1925 г. н., прав., 2 кл., в. Рог, Салігорскі р-н, Мінская вобл.*

Маці росказувала, што Бог як пушоў угэ туды да на высоту… Одама і Еву поселіў у саду. Одного ў однум саду, а другога ў другом саду. І так прыказаў, штоб друг од друга… Яблыка ёны штоб елі, а друг од друга, штоб не бралі. Сам Одам должон у своём саду есці, а Ева ў своём. Ну вот ёны там трохі побулі. А далей эта Ева:

– Одам, Одам, ты у менэ яблычка попробуй!

А Бог жа прыказаў не есці нічыіх.

А ён каэ:

– Бог мне не велеў!

Ну, ведомо, як бабы, як прыстане. Як прыстала, як прыстала, так і… А ён узяў да раз укусіў. Як укусіў, ды гэта як у которых кажуць, што гэта вот эты горбік, да і ўдовіўса тым яблыком. Да. Дак гэта за тым у мужчын тэ тый горбік.

*– Дык у іх розныя сады былі?*

– Да. У яе свуй, а яго свуй…

*– Яны саграшылі тым, што Адам з Евінага сада яблык папрабаваў?*

– Да. Попробуваў, і затым Бог наказаў, за гэтае, што попробуваў.

---

[40] Кантамінацыя народнабіблейскага сюжэта пра грэхападзенне першых людзей і этыялагічнай легенды пра бусла. Народнабіблейскі варыянт пра два асобныя сады ў Адама і Евы – адзінкавы. У дадзеным сюжэце сад празрыста суадносіцца з целам, таму перасячэнне Адамам граніц саду Евы мае выразную эратычную канатацыю, чым і тлумачыцца тут сутнасць грэхападзення.

І Ён быў пособіраў вот этыя ўсякія звяры-поўзуны ў мешок <шчэ да таго, як Адам і Ева саграшылі>. Это ўсе було отдзельно. А за гэта гэ заеўса Бог <за грэх> – да поўпускаў. Да каа:

– Вот, ты не будзеш у саду жыць да яблыка толька есьці. Будзеш роботаць, як чорны вул, і етых гадоў убіваць. За тэ, што нарушыў. <…> Дак будзеце <выпушчаных гадаў> убіваць, а бусел, штоб іх еў!

Гэто Адам так нарушыў. Да каб ён так не зробіў, <…> даў бы Бог, людзі б так не горовалі.

21

*Зап. у 2004 г. ад Таісы Аляксандраўны Мастыкінай, 1930 г. н., прав., 3 кл., в. Парэчча, Акцябрскі р-н, Гомельская вобл.*

Ева ж укусіла і пазнала стыд. Стыдна, яны ж голыя былі. ... Бог саздаў Адама і Еву, хадзілі ў Яго яны там на небе ці ў раю. І вот Ён паказаў дзерава і сказаў:

– Глядзіця, штоб з етага дзерава плода ні пробувалі.

Ну а Ева любапытна, хочацца ей папасьць туда: мо ён сладкі, мо горкі, мо п’яніць будзе, а мо ета і наркаман... Хваць етае яблыка – і ўкусіла. Праглынула яблыка, паглядзела на Адама, стыдно ёй стало, што яна ўжо стала закрывацца. Яна і Адаму:

– Адам, і ты ўкусі.

І вот еты Адам, шчэ і не дайшло яно, што ён адкусіў, і застрало тут у горле.

– *А Ева сама падыйшла да дрэва, ці яе спакусіў хто?*

– Сама. Я чула, сама.

– *Змея там не было?*

– Нічого, сама яна падыйшла. Шчэ мо і зьмея не спускаў Бог, у мяшку ж былі, буслу даў...[41]

### *Грэх Адама і Евы (зрывалі яблыкі)*

22

*Зап. у 2007 г. ад Марыі Уладзіміраўны Сасноўскай, 1932 г. н., 7 кл., в. Ухвала, Крупскі р-н, Мінская вобл.*

– *<А чым Адам і Ева саграшылі?>*

– Што яблыкі сымалі елі, а не нада была этыя плады сымаць, а яны сымалі.

---

[41] Пераклікаецца з папярэднім тэкстам: у раю да грэхападзення ўсе гады і шкодныя насякомыя былі ў мяшку.

### *Грэх Адама і Евы (нарадзілі дзіця)*

23

*Зап. у 2007 г. ад Соф'і Васільеўны Чуліцкай, 1928 г. н., прав., 4 кл., в. Дукора, Пухавіцкі р-н, Мінская вобл.*

– *Хто такія Адам і Ева?*

– Адам, па Бібліі пішэцца, свяшчэннік. А Ева – Міколы Чудатворца маці. Ну і еты Адам палюбіў ету Еву. Ну і яны сышліся і нарадзіўся ў іх Мікалай... <...> Ну і што вы думаеце, іх жа паказьнілі Адама і Еву, паказьніў Бог.

– *За што?*

– За то, што яны зграшылі. Што нарадзіўся ў іх сын.

– *А што, нельга было ім?*

– Нельзя было ім зыхозіцца ўмесьці.

– *Чаму?*

– Ну, эта ж Божы закон. Ну, а Евінага сына, етага Мікалая Чудатворца васкрэсіў Бог і зрабіў Сваім памочнікам. І цяпер жа што ні чуць: "Міколка-Чудатворца, зрабі чуда, дапамажы!" Людзям дапамагае. Ісуса Хрыста памочнік, первая рука – эта Мікола.

– *А ў Адама і Евы былі яшчэ дзеці?*

– Не было ў іх болей дзяцей. Ужо Ісус Хрыстос уваскрэс і сышоў на землю, Ён жа сышоў на землю зь нябес, і ўжо пакарыў іх на сьмертную казьнь, Адама і Еву.

– *Пакараў?*

– Да, пакараў. Яны ж да Хрыста жылі.

### *Першыя людзі – з малпаў*[42]

24

*Зап. у 2007 г. А.М.Боганева і Т.В.Валодзіна ад Таццяны Яфімаўны Вячорка, 1935 г. н., 4 кл.; Евы Іванаўны Соц, 1938 г. н., 7 кл.; Любоў Паўлаўны Германовіч, 1938 г. н., прав., 6 кл., в. Вулька-2, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

– Людзі паявіліса з базян.

– *Гэта вы адкуль ведаеце? Са школы?*

---

[42] Матыў паходжання першых людзей ад малпаў не адзінкавы ў сучасных запісах у беларускім Палессі [1, с. 3] . Ён можа быць навеяны дарвінаўскай тэорыяй эвалюцыі, але можа быць і зусім традыцыйным, тым больш на гэта спасылаюцца ўсе тры інфарманткі. Падобныя матывы маюцца ў балгарскай "народнай Бібліі" [2, с. 5] і на рускай Поўначы [3, с. 5].

– Бувало гэтак росказуваюць. Росказвалі, шо булі базяны, а людзей не було. Ну да гэ базяны розвэліса, а воны гэтакі ж: і рукі і ліцо, токі онно кошлатые, а ўсё ж гэтак. Так кагуць, людзі з базян появіліса... Одам і Ева появіліса.

– *Адам і Ева з абязьян паявіліся?*

– Ну да. А от Адама сьвет стаў. <...>

– *Гэта не Бог стварыў людзей?*

— <...> Мо і Бог.

— Старые говорaць, і мы говорым.

– *А што, старыя гаварылі, што Адам і Ева з базян?*

– Ну, жызьня пошла з гэтых двоіх.

– *А чым Адам і Ева саграшылі?*

– А яблык з'елі. Ім жа Бог сказав, коб воны того яблыка не елі, а воны ж укусілі. І согрэшылі.

– Одам жэ удавівса, бо ў ёго ж тут на шыі...

– *А ў Евы што ад таго?*

– Нічого. Все добро.

– *А хто іх спакусіў?*

– Ну там нехто зь іх.

– *Не вуж, змей?*

– О не.

– Наверно воны самы́е. Я по́няла так. Шо воны самые. Знайшлі ёго...

– Багато яблок було. І ім яблыка хоцелос мо з'есці, ўкусіць.

– А прыказуваў Бог, шоб не кусалі.

– Гэто говорылі, а воно правда, неправда, хто знае? <...>

– *А дзеці ў Адама і Евы былі?*

– Ну, конечно, появіліса. То ж воны Богу і нагрэшылі. Шо воны некого платочка, чі шо, сьціралі... А сушыць-то не було дзе. Ну, я не помню, сушылі як.

– Одам... Ужэ воны согрэшылі вдвох.

– *А што ж за платочак яны сцiралі?*

– Ну, носовы платочок. Когда воны согрэшылі, то воно і пошло.

– *І што, яны хацелі скрыць, што саграшылі?*

– Наверно ж! <...>

Когда ў іх дзеці булі, і ў іхніх дзецей далей дзеці, да розов'іўся світ і пошлі людзі.

### ***(Скура як пазногці)[43]

25 А

*Зап. у 2003 г. ад Надзеі Пятроўны Хвясечка, 1926 г. н., прав., 2 кл., в. Мачуль, Столінскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Ну воны ж ходзілі голые, Одам і Ева, бо воны булі в рае. Воны не одзетые булі в гэту одежду. Да в іх була одежда, бы ногці, да. А як воны согрэшылі, то Господзь іх выгнаў з раю і сказаў, што ідзеце і добівайцеса вы своім трудом, своею сілою ўжэ пітацца. І ужэ ім стало стыдно – голые, да ўжэ воны сталі в одежду одевацца. А воны раньшэ не булі одетые в одежу, у іх одежа раньшэ була <бы ногці>.

25 В

*Зап. у 2006 г. А.М.Боганева і Т.В.Валодзіна ад Маі Рыгораўны Мацiеўскай, 1930 г. н., прав., 3 кл., в. Сокарава, Бешанковіцкі р-н, Віцебская вобл.*

Даўней людзі былі, як вот гэта ногці, усё такоя цела было. Хадзілі голыя. А тады яны саграшылі, яблык з'елі з яблыны. І сталі як мы цяпер надзівацца.

### Адкуль зёлкі буркун і тоя[44]

26

*Зап. у 2004 г. ад Фядоры Васільеўны Маркевіч, 1935 г. н., прав., адук. не мае, в. Тонеж, Лельчыцкі р-н, Гомельская вобл.*

Було тое, як начынаўса сьвет, обснуваўса, і вот ён праславіўса – буркун і тоя. Буркун і тоя – Одамаво зілье. Токо спасав дзецей этым зільем. От у кого малэнько дзіцятко, пусве-

---

[43] З першымі людзьмі звязана павер'е, што да грэхападзення скура ў іх была як пазногці, і яны не ведалі ні холаду, ні спякоты. Матыў пра "скуру як пазногці" з'яўляецца традыцыйным не толькі для беларускай, але і для ўкраінскай, карпацкай, паўночнарускай, польскай, літоўскай, балгарскай "народных Біблій" [4, с. 239–241], паралелі з гэтым матывам маюцца таксама ў яўрэйскіх крыніцах [5, с. 125–126]. Зараз матыў пра "рагавое цела" першых людзей сустракаецца ўсё больш рэдка, хоць паказальна, што ён увогуле сустракаецца ў сучасных запісах.

[44] Зёлкі буркун і тоя лічацца моцным абярэгам ад нячыстай сілы ў некаторых месцах Цэнтральнага Палесся: на Тураўшчыне (Жыткавіцкі р-н), у Лельчыцкім, Ельскім раёнах. Звычайны распаўсюджаны наратыў наконт буркуна і тоі – былічкі пра памёрлага жаніха, у вобразе якога да дзяўчыны з'яўляўся нячысты. Дзяўчына пачынае "сохнуць", бацькі ўплятаюць буркун і тою ў касу дзяўчыны, якая бачыць нячыстага ў яго сапраўдным абліччы і ратуецца ад смерці. Нячысты, адыходзячы ад дзяўчыны, вымаўляе звычайна такую сакраментальную фразу: "Каб не буркун ды тоя, то была б дзеўка моя".

цяць тою і буркуна, от пуд голоўку пулужы буркуна́, ды онэ будэ спаты.

*– А дзе яно расло, Адамава зелле?*

Онэ росло ў лясу, його найшлі ў лясу Одам і Ева і прынясьлі ўжо дадому, і начaлі його ўжо розмножаць.

## Выгнанне з раю

### *Колькі жылі Адам і Ева*

27

*Зап. у 2008 г. ад Аляксандры Васільеўны Адзесенкавай, 1918–2010, прав., адук. не мае, нар. у в. Стары Шклоў, Шклоўскі р-н, Магілёўская вобл., жыла ў Мінску.*

І прагнаў Гасподзь Адама з Евай за непаслушанье.

– І вот табе, Адам, зямлю рабіць, а табе, Ева, дзяцей ражаць у балезьні і ў стыду. <…> І от Адам жыў дзевяцьсот гадоў[45]. Дзвяцьсот гадоў! Чуць не тысячу. А Ева жыла трыста гадоў. Дак вот і Мацер Божую радзіла Ганна ў дзевяноста гадоў.

### *Чаму паненкі (аір) на Тройцу ў хатах сцеляць*[46]

28

*Зап. у 2008 г. ад Кацярыны Мікалаеўны Мазько, 1932 г. н., прав., 2 кл., в. Закалле, Іванаўскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Сотворыв Бог чоловіка. Ну, сам чоловік – это ж нэ чоловік. Трэба до його даты жэншчыну. Сотворыв жэншчыну, сотворыв нэбо і зэмню, і воду, – всё. Ну і посэлыв іх у раю. І воны в раю булы много-много літ. Ну і потом нашласа подкуса – это называеца сатана. І прынэсла ім яблыко. А яблык шэ до Спаса ныхто нэ йів. Ну, Ева кажэ :

– Ны йіж гэтого яблыка!

А вын всё равно кажэ:

– А шо ж тут! Прынэслы і вжэ ны йісты!

І укусыв того яблыка, і <...> він його нэ проклыкнув. І получылоса в його в горлы яблычко.

---

[45] Паводле Бібліі. Адам жыў 930 гадоў (Быц. 5:5). Наконт Евы біблейскіх звестак няма.

[46] Этыялогія звычаю ўсцілаць падлогі хат аірам (дыял. – паненкамі) на Тройцу. Паненкі паслужылі першым адзеннем першым людзям пасля іх грэхападзення і выгнання з раю.

Ну от, согрэшылы воны, і іх Бог выгнав з раю, і з раю іх выгнав голымы, такыйі, як маты народыла. Ішлы воны, ішлы по світу: шо ж, нас жэ ж побачать люды, будуть утыкаты од нас, шо гэтак жэ ж зогрэшылы міцно. Ага. А гэтак жэ ж ростуть лугы, а в лугу ростуть паненкы́.

– О, – Ева кажэ, – спасэмоса. Паненкы ростуть, а я з гэтых паненок зроблю собі одёжу.

І воны зробылы собі такыйі <адзенні>, шо позакрывалы все тіло тымы паненкамы. Воны шырокы такіе, і можно з іх шо хоч зробыты. І вжэ пошлы воны до людэй, сталы з людьмы буты, бо вжэ іх з раю выгналы. І воны сталы з людьмы буты, шо прыкрылы свое тіло.

Ну і гэты паненкы, як ужэ Трійца, як субота вжэ, то йіх шукаймо, дэ б воны ны булы. І носымо, шоб воны булы на дворі розосланы, в хаті разосланы, і всюдыю... Это бэрэзына́, клэн і паненкы.

Потому шо вжэ Одам, Ева ходять по світу, і воны вжэ прыдуть, побачать. Ужэ ім нэ страшно, вжэ і люды занялыся этым ділом, шо вжэ панэнкы мають. І нэ страшно, хоч і голы попадуть хто, то воны прыкрыють свое тіло.

*– Так гэта для того носяць паненкі на Тройцу?*

– Да, для того носять паненкы, шо прыкрывалысь Одам і Ева этымы паненкамы. Грішнэ тіло прыкрывалы.

*– А што, Адам і Ева і зараз ходзяць па свету?*

– Ну такы ж воны ходять! І еслі воны бэссмэртны, то воны ж ходять по світы. Воны ж рады гэтым украшэннем. Воны радуюцца, хто гэты обычай дэржыть. Одам і Ева – воны ж булы міцно святые люды. І воны ж молылыся за всёй мір. Ну а прэгрэшылы, то воны вжэ прошчэння у Бога попросылы, і іх жэ ж Біг содэ́ржыв, шо воны бессмэртны. Ну і ходять, і на гэтый обычай дывляцца, і мы сполняймо. Потому шо мы хрыстіяны.

*– Але ж мы іх не бачым?*

То воны ж невідімы. Йіх і нэ должны бачыты.

***Адкуль жаваранак***

29

*Зап. у 2001 г. ад Ніны Уладзіміраўны Новік, 1919 г. н., прав., 5 кл., в. Варанілавічы, Пружанскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Як Адам і Ева саграшылі, іх з раю Бог выгнаў. А тады што было есці? Бог ім даў зярна, каб яны пасеялі. Адам пасеяў, а Ева ўжэ дома была, дзяцей ражала. А ён жыта сеяў. А яму было скушно-скушно. На сьвеце адзін ён, адзін чалавек на сьвеце – Адам.

А Бог так даў, каб ён узяў горстку зямлі, выкінуў ўгоры – і сталі вераб'і і пцічкі гэтые. Ці жаваранкі, як-та іх называлі, Бог іх знае. І вот стаў яму жаваранак, і яму стала весялей. Ён сеяў гэто жыто, і сталі так жыць, і гэто як былі ў іх дзеці і ўсё на сьвеці. Тут трэба ўсё знаць і ведаць.

*– Так гэта з горсткі зямлі жаваранак ці верабей зрабіўся?*

– Кажэцца, верабей... Не, жаваранка. Выкінуў угору, каб яму была весялей. Ён шчабятаў-шчабятаў над ім... Мусі, жаваранак. І што дзе Адам ні рабіў, ён за ім ўсё лятаў во так павярху... Канешна, жаваранак. Гэта першая пціца.

***Плач дзяцей Адама (Чаму чалавек адзін раз памірае)***

30 А

*Зап. у 2001 г. ад Надзеі Дзям'янаўны Крысюк, 1928 г. н., прав., сярэд. спец. адук., в. Пешкі, Бярозаўскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Я чула, шчо вмэр Адам. А деты так плакалі на могылэ ёго, зэмню дралі, і Господь сказав так:

– Адаме, Адаме, выйды вонь із гроба! Вэльмі твое деткі плачут.

А вон отозвався:

– Господі, а чы я буду шчэ в дру́гі раз уміраты?

А Господь сказав:

– А як жэ!

І Адам сказав:

– Я нэ встану.

А еслі б Адам устав бы, то по два ра́зы люды б помірали.

30 В

*Зап. у 2006 г. ад Паўліны Навумаўны Ільюшчыц, 1925 г. р., прав., 2 кл., в. Рог, Салігорскі р-н, Мінская вобл.*

Па Адаму так дочкі плакалі, што косы ў землю паўлазілі, штоб ён устаў. А ён спросіў:

– А шчэ ўмірацьме?

А Бог сказаў:

– Да.

І вот каб ён устаў, так людзі б усе ўставалі. А ён сказаў:

– Каб ізноў так мучыцца? То я не буду. – І уснуў.

А дочкі голосілі, голосілі, пока косы не поўрасталі ў землю.

### **** (Адкуль зязюля)*

31

*Зап. у 2002 г. Т.В.Валодзіна ад Марыі Міхайлаўны Сагановіч, 1927 г. н., нар. у в. Аброва, Івацэвіцкі р-н, Брэсцкая вобл., жыве ў в. Лосева, Гродзенскі р-н, Гродзенская вобл.*

Неколі пам'ёр святы Одам. Быў святы Одам с Богом, ходыў і пом'ёр. А Господ кажэ:

– Одам, устань, бо твое дочкі плачуть, ужэ! Бочку слёз наплакалы, устань.

А вон кажэ:

– Ой, Господу, чы ж я буду уміраты шчэ раз?

А вон кажэ:

– Будэш, бо свет нэ здэржыт людэй, як нэ будут умыраты.

А вон кажэ:

– Ны встану, як шчэ раз умыраты. Хай шчэ раз бочку наплачут, тада встану. Плакалы воны, плакалы, дай полетэлі зозулямі.

### *Пра Адама і Еву пасля патопу*

32

*Зап. у 2004 г. ад Анастасіі Уладзіміраўны Астаповіч, 1931 г. н., прав., 2 кл. в. Дубічы, Лельчыцкі р-н, Гомельская вобл.*

У Одама і в Евы, у Одамовые маце... Это ёму потоп... Да дзеткі, все это людзі потопіліса, осталіса оны вдвох. Яны пожэніліса, так як своі всё равно. Яны народзілі дзяцей – двенаццаць дзяцей. А стало всё это размножацца, як брат з сэстрой ожэнівса. А чого не разрэшаюць жаніцца дзецям своім? Дажэ і трэцяе поколенне ўрэдно. Дзеці ўроды получаюцца. Колісь росказувалі нашыя дзеды... А потым оны пожанілі этых дзяцей, і этыя дзеці сталі роджаць дзеці. А як Вон дав ім... Бог дав Одаму і Еве яблучко і сказав:

– Не трогай это яблучко! Шоб не елі.

Так Ева ўхопіла, шо смачне таке, з'ела. А Одам як узяв, то ў яго така костка ўлезла сюды ў горло. І яна стырчыць от это в горле.

І от оны, этыя дзеці, породжалі, пожанілі іх, а самі помэрлі. Ужэ годы подышлі. Закопалі і похоронілі іх. Оны плачуць. Ужэ поўростали косы ў зэмлю. Бог прыйшоў:

– Одам і Ева, ўстаньце, бо вашыя дзеці вельмі плачуць. І іх дажа коскі ў землю ўрослі.

А Одам Ева сказала:

– А мы будом больш поміраць?

А Он сказаў:

– Да. Без етого неможна.

А ён кажа:

– То дай нашым дзецям страх, шоб оні больш бояліса нас, на кладбішчэ не йшлі, по нас не плакалі. Ўставаць не будом, бо сільно важко ўміраць.

О так росказувалі нашыя бабы і дзеды.

## Метамарфозы

### *Адам і Ева як выявы на месяцы*

33

*Зап. у 1999 г. ад Ірыны Севасцьян, 1938 г. н., прав., 4 кл., в. Нацкава, Мастоўскі р-н, Гродзенская вобл.*

На месячыку стаяць, то кажуць: Адам і Ева. Яны ўжо сахраняюць месячык, каб асвяшчаў, і каб было відно.

### *Буслы з Адама і Евы*

34

*Зап. у 2000 г. ад Ядвігі Серады 1914 г. н., катал., адук. не мае, в. Погіры, Дзятлаўскі р-н, Гродзенская вобл.*

<Бог Адама і Еву> накараў, спусьціў іх на землю. І назьбіраў Бог два мяхі гадства ўсякага – вужэ і ўсе пазьбіраў. І <даў> два мяхі, і сказаў ім не разьвязываць, пілнаваць. А яны паінцярасаваліся палядзець, што тамака. Разьвязалі. Як разьвязалі, так тыя вужэ і жабы ўсе пайшлі. <…> Вужоў не было б, калі б яны не разьвязалі і пусьцілі. І Бог Еву зрабіў бусьліхаю, а Адаму буслам. І сказаў:

– Зьбірайця.

– А дзе ж яны пазьбіраюць усех!

– *Так што, першыя буслы прама з Адама і Евы?*

– З Адама і Евы. Бог паставіў буслямі і сказаў: "Зьбірайця!" І вот і вужа возьме бусел.

## Каін і Авель[47]

### *Плямы на месяцы*

35 A

*Зап. у 2003 г. ад Надзеі Пятроўны Хвясечка, 1926 г. н., прав., 2 кл., в. Мачуль, Столінскі р-н, Брэсцкая вобл.*

*– А на месяцы плямы – што гэта?*

– Это два браты – Каін і Абель. То Каін Абеля забіў.

*– А за што?*

– Наверно, я Вам не докажу. Ці Каін жонку хоцеў, і за тую жонку воны... Забіў брат брата. Каін Абеля забіў.

35 B

*Зап. у 2004 г. ад Таісы Аляксандраўны Мастыкінай, 1930 г. н., прав., 3 кл., в. Парэчча, Акцябрскі р-н, Гомельская вобл.*

*– А дзеці ў Адама і Евы былі?*

– Ну і дзеці пайшлі, і людзі…

*– А што за дзеці, як іх звалі?*

– Ну, дзеці як дзеці… <…> Кавель і Явель – яны на луне. От прыгледзьцеся добра, яны там. Адзін другога ўбіў. І вот атражэньне на луне. Явель і Кавель.

*– А чаму Каін Авеля ўбіў?*

– А я не знаю.

*– А на луне...*

– Атражэньне. От яна кажэцца белая, а папробуйце глядзець праз ачкі, якія цёмныя. Адзін ляжыць, а другой стаіць. ... Атражэньне якое-то там е. Георгій Пабеданосец. Эта яго просіш, каб сахраняў маю худобку і супастату з'ядаць не даваў...

35 C

*Зап у 2000 г ад Надзеі Купрыяновіч, 1928 г. н., прав., адук. не мае, в. Руда Яворская, Дзятлаўскі р-н, Гродзенская вобл.*

Гэта мама расказывала, яна была граматна, ўсё. Расказывала, што вот на месяцы… Два было браты – Каін і Явель. Адзін Богу ўсё прыносіў, і Бог ад яго прымаў. А другі што-та быў неладны. Адзін еты панёс – Бог прыняў, а другі панёс – не прыняў. Так той <Каін Авеля> на вілах пракалоў. Вот там жа ж на месяцы можна ўгледзець.

---

[47] Быц. 2:1–16.

35 D

*Зап. у 2007 г. Т.В.Валодзіна і У.А.Лобач ад Івана Яфімавіча Андрэева, 1930 г. н., в. Хадорына, Віцебскі р-н, Віцебская вобл.*

*– А ці гаварылі што на месяцы нейкія пятны відаць?*

– Гаварылі.

*– А што за яны? Можа гісторыі якія расказвалі?*

– Гэта наўродзе чалавечыя целы відаць. Вот адна ўніз, другая ўверх. Гэта сядзіць Праўда і Крыўда.

*– Праўда і Крыўда? А хто ўвярху, а хто ўнізу?*

– Увярху – Праўда, а ўнізу – Крыўда.

## Вялікі патоп[48]

36 A

*Зап. у 2004 г. ад Ганны Сямёнаўны Астаповіч, 1934 г. н., прав., 4 кл., в. Дубічы, Лельчыцкі р-н, Гомельская вобл.*

А про потоп говорылі, шо як затоп быв... <...> Некі Ной був. Ну, а вон став браць на лодочку... Лодку зробілі такую. Вон <...> у Бога достойны быв. Вон робів, робів – зробів таке веліке вясло. І вон по 'дной брав пціцкі, там шо-небудзь по одном брав, шоб не затопілася эта яго лодка. І этых людзей по скоко там взяв. Як сталі воны потопа́ць, то которые осталіса в лодке, то тыя осталіса, а некоторыя затопіліса. А потом вжэ вон сталі размножаць сьвет, і пошло як от Адама і Евы. Там іх <пасля патопу> мала доля остала́са.

36 B

*Зап. у 2007 г. Т.В.Валодзіна ад Н.М.Шушкевіч, 1923 г. н., нар. у в. Мар'іна, Чашніцкі р-н, жыве ў в. Слабада, Лепельскі р-н, Віцебская вобл.*

*– А пра Ноеў патоп?*

– Як чула, як быў Ноеў патоп, дык Бог сабраў усіх жывотных на карабль, дзе якая казяўка поўзаіць. Дык Ной сабраў і здзелаў каўчаг, і на ім плаваў, а тады на гарэ, на якой гарэ – Арарат – астанавіўся. І выпусціў усіх жывотных з каўчага і сказаў:

– Быў свет, і да будзет свет![49]

---

[48] Быц. гл. 6–8.

[49] Вялікі патоп часта звязваецца ў "народнай Бібліі" і з пачаткам свету (пасля патопу становіцца новы свет), і з канцом свету (як быў знішчаны дапатопны свет, так будзе канец сённяшняга свету, толькі не ад вады, а ад агню).

### *Вялікі патоп і канец свету*

37 А

*Зап. у 2004 г. в. ад Кацярыны Міхайлаўны Курачай, 1932 г. н., прав., в. Пружынішчы, Акцябрскі р-н, Гомельская вобл.*

Ну, патоп быў, так эта ж і вам ізьвесна. Як Ной… Бог яму сказаў з першага дня, каб ён дзелаў човен, каўчэг. Ну, ён дзелаў, смалой усё залівав з першага дня і масьціў, а людзі смяяліся:

– Ну, што ты дзелаеш? Для чаго?

А ён сказаў:

– Мне Богам дадзена.

Ну вот і сталі даждзі іці, даждзі і даждзі. А ён сдзелаў эты човен, каўчэг, і ён стаяў на зямлі. А потым як стала вада падымацца, стаў і каўчэг падымацца. І пусьціў па пары кажнай пціцы, кажнай жывотнай усякай, зьвярэй. Ну і сталі людзі бегчы, як стала тапіць – сталі людзі прасіціся:

– Ну, аткрой, пусьці!

Ной кажа:

– Не мною дзверы запертыя.

І падняўся дотуль, што не відна ні леса, нічога, дрэва не віднак было. А каўчэг эты ўсё плаваў, і ён із сямьёю сваею. А тады стаў ужэ… Захацеў узнаць, ці падае вада. Выпусьціў пару галубей. Галубчыкі лятaлі, лятaлі, няма дзе сесьці было, яны абратна прыляцелі. Значыць нідзе няма зямлі, усё патоплена шчэ. Потым стала вада асядаць ужэ. Галубчыкі выпусьцілі тады і ўжэ яны не прыляцелі, пазналі яны, што вада ападае.

А кажуць недзе ж яго экспедыцыя абнаружыла, ён есьцека дзе-та замарожаны еты каўчэг, а ці праўда, ці не – хто ведае. І апусьціўся ўжэ каўчэг, і Бог сказаў, што больш патопа не будзе, патаму што сільна ўвесь народ патапіла і пашла разная ўжэ вонь. І сказаў, што цяперака ўсех будзе агнём, усех спаліць агнём.

37 В

*Зап. у 2006 г. А.М.Боганева, Т.В.Валодзіна ад Праскоўі Андрэеўны Вінагаевай, 1928 г. н., прав., в. Капані, Чавускі р-н, Магілёўская вобл.*

Дож ішоў сорак дней і сорак начэй. А Бог пастроіў каўчэг. 300 метарў шырінь і 15 метраў высаты. І смалой абліты і

знутрі і снаружы. Адзін певень пабедзіць усіх. Астанецца адзін белы певень. І будзець рукавадзіць. Эта Амеріка. Там было па сем пар: і гадаў, і птушак – усіх. Птушкі лятаюць, лятаюць. Большы патопа ня будзя, а мы згарім агнём. А то людзі крепка крічалі. Спасаць нада. А як будзем гарець, то ніхто і ня крікня.

### 37 С

*Зап. у 2007 г. ад Соф'і Браніславаўны Закавіч, 1935 г. н., катал., 3 кл., в. Любань, Вілейскі р-н, Мінская вобл.*

– Бог захацеў людзей наказаць патопам.

*– А за што?*

– А я не знаю за што. Вобшчэм уністожыць сьвет захацеў. Так вот, у нас будзець уністажэнне сьвету, кара ад Бога, агнем. Не вадой. А Ён наказаў тады патопам. І тады пазваў Ён Ноя, яўрэй такі, жыд быў, і сказаў строіць каўчэг. <…>

– А як пастроіш, тады прыйдзеш да Мяне і скажаш, што ўжэ пастроіў.

<Калі Ной пабудаваў каўчэг, Бог сказаў яму>:

– Ну і цяпер бяры па пары: па пары пціц, пару скаціны якой, пару галубей, пару людзей якіх-нібудзь… Усяго па пары бяры.

І ён усё сабраў у свой каўчэг, а тады сорак дней і сорак начэй ліў дошч. І дошч так ліў, так ліў, што гэты каўчэг паплыў сам. Па вадзе, па моры. І Ён сказаў яму так, гэтаму Ною:

– Гэту пару галубей выпускай. Як яны вылятуць і назад вернуцца, то не выхадзіце шчэ. А як ужо пусьціце пару галубоў гэтых, і яны не прылятуць, тады і вы можаце выйці, вы ўжо акажэцеся на сушэ.

І вот ён адзін раз выпусьціў – вярнуліся голубы. Плавалі сколька дней яны там – не знаю, нязвесна. Многа дней яны плавалі. Патом выпусьціў шчэ раз галубей, і галубы ўжо не вярнуліся. Як не вярнуліся, то як сказаў Бог – ужо на сушы.

*– А з жывёл ніхто дзірку не прагрыз, калі каўчэг плаваў?*

Не. Не-не. А толька, калі ён плаваў, прыплыў пад некі абрыў, падмойны абрыў, і там астанавіўся у гэтым абрыве. І ўсе павыходзілі, павылазілі з гэтага каўчэга і сталі жыць на зямле. Ужо стала сухата.

А Бог, як паглядзеў, якія мукі Ён людзям саздаў, сказаў:

– Я так болей людзей наказываць не буду. Толька буду наказываць агнём.

Дык палядзіце, многа ж людзей гараць. Многа пагібаець людзей, усякія случаі.

**** (Чаму ў бусла ногі чырвоныя)***

38

*Зап. у 2004 г. ад Марыі Анісімаўны Кругловай, 1926 г. н., прав., в. Харомцы, Акцябрскі р-н, Гомельская вобл.*

Кагда сьвет саздаваўся, Бог перва так рэшыў: перва Ён саздаў землю. Патом саздаў траву на зямлі. Патом саздаў ноч, патом дзень, патом свет саздаў. І рашыў, што нада здзелаць яшчэ і чалавека. І здзелаў Адама і Еву. І сказаў ім так штоб жылі, пакуль яны не саблазніліся. Ну, а патом, усе ж ужэ знаюць, што эты сьвет пагіб – Адама і Евы. Мы ж ужэ Ноевы, мы ж не Адама і Евы. Мы ўжэ людзі другога, Ноева.

*– Не Адамавы?*

Нет, наша пакаленьне ўжэ не Адамавае. Адамавае і Евы яно ўсё прапала, патапілася ж тады. Ён жа сказаў етаму Ною, штоб дзелаў каўчог, штоб пасяліў сваіх пціц набраў, сваіх сынавей, жонак, нявестак, дачок, штоб размнажыўся сьвет. І пайшоў другі сьвет ат этага. <…>

А мы ўжо Ноевы. Ён быў дастойны у Бога чалавек, ён быў очэнь дастоен, што Бог яму сказаў, што будзе патоп, сорак дней і начэй будзе ліць дошч, увесь сьвет патоне. Ну і вот сказаў, што вот, здзелай каўчог. І ён жа ж патом, кагда ўціх дошч, ужэ ж ён стаў выпускаць пціц. Выпусьціў адну пару – тая не пryляцела. Другую – тая не прыляцела. А тады і бусла выпусьціў. А бусел прыляцеў з краснымі нагамі, ўжэ па калена ў крыві. Вот паэтаму ён ходзіць, і ў яго красныя ногі.

*– А што за кроў была?*

– Чалавечаская. Людзі ж пагіблі, ўвесь свет пагіб. Усе пагіблі, толькі асталіся тыя, хто быў у каўчогу. І вот бусел як выйшаў, так прыйшоў па калена ў крыві. Ён тады і сказаў:

– Значыць ужэ вада спадае.

А патом ішчэ пусьціў, і толькі ўжэ ў гразі прышлі каторыя пціцы. І пайшоў сьвет ужэ. Яны сталі ўжо ражаць дзяцей сваіх, сталі гадаваць, і ўсё і пайшло, і пайшло, і пайшло.

## *Як Ной птушак выпускаў шукаць зямлю*[50]

39 A

*Зап. у 2006 г. ад Надзеі Якаўлеўны Новік, 1929 г. н., прав., 4 кл., в. Паварчыцы, Салігорскі р-н, Мінская вобл.*

Людзі ж тыя пагіблі, а ён зрабіў сабе, Ной, каўчэг. А тады там жонка яго, дзеці, і ўзяў сабе птушак некалькі ён. І от тады як патоп быў, ён выпускаў птушку. А яна назад прылятала. А патом другі раз выпусьціў – ужо тая птушка прыляцела і ў дзюбе прынясла галінку. Так от тады ўзналі, што вада апусьцілася.

*– А якіх птушак ён браў?*

– Голубаў.

39 B

*Зап. у 2006 г. А.М.Боганева і С.Г.Выскварка ад Андрэя Данілавіча Лапціка, 1922 г. н., прав., 4 кл., в. Палічын, Любанскі р-н, Мінская вобл.*

*– А пра патоп расказывалі ў вас?*

– Каўчэг. Ноеў каўчэг. Была такая абстаноўка. Какіе-то там аньгелы ілі Сам Гасподзь Бог сказаў этаму Ною пра такое дзела. І от ён строіў такі каўчэг, как бы карабль пад прыкрыціем. Усякіх жывотных туды затасківалі і пціц па пары… І када началісь сорак сутак даждзі такіе праліўные, этат карабль на сушы стаяў, а то ўсё, усплыў. І ўсё усплыла. І папылыў і плаваў дліцельнае ўрэмя. І тада ён выпускаў галубей у разведку, мо то на двенаццатые ці якія суткі. Прынесьлі па галінке голубе, атламалі з дзерава, значыць, о. І то, Ной расчытаў, што гэта галінкі з самай вярхушкі дзерэўяў, ён па расках апрэдзеліў. А чэрэз некатарае ўрэмя этат карабль, каўчэг, дасьціг, как гаварыцца, сушы. А эта была гара Арарат. На гарэ Арарат ён уродзе бы асеў[51]. Эта ўсё дліцельнае ўрэмя, пака вада сашла.

39 C

*Зап. у 2007 г. Т.В.Валодзіна ад Ганны Сцяпанаўны Маляўка, 1930 г. н., в. Завадзіна, Лепельскі р-н, Віцебская вобл.*

---

[50] Кананічны матыў (Быц. 8:6–12). Ной выпускаў ворана і голуба, каб даведацца, ці сыйшла вада. Першы раз воран і голуб вярнуліся, другі раз голуб прынёс маслічны ліст, трэці раз не вярнуўся, і Ной даведаўся, што каўчэг можа завяршыць плаванне. У беларускай "народнай Біблії" акрамя галубоў фігуруюць бусел (тэкст 38 у гэтым выданні) і зязюля (39 С).

[51] Кананічны матыў: "І спыніўся каўчэг <…> на гарах арарацкіх" (Быц. 8:4).

Кукушка сваіх дзяцей раскідаіць, раскідаіць па чужых – ей некалі гадаваць!

*– Чым жа яна так занятая, што ёй некалі?*

– Баба мая расказавала, быў патоп нейкі некалі. Адзін карабаль толькі выжыў. Я ў школу хадзіла, была кніжка, і дажа такая карцінка: усюдах вада, а адзін старычок залез, толькі шапка відаць. Баба мая расказавала, дзе дзелалі той карабаль. Яго дзелалі з бярвення і бралі і карову, і быка, і бабу, і мужчыну, і птушку – каб самец і самка – і ўсё гэта каб засталося.

*– І што кукушка?*

– Во як баба казала. Узялі галубка – і самку і самца, галубка і галубку. А той карабаль то́нуў, ужо дажа да палавіны вада захлынула, усё б патанула. А выпусцілі кукушку і галубка, і галубушку і прывязалі к ім бумажку. Баба мне і казала. Сколькі дней іх не было – я табе не скажу, забылася, можа, большы месяца. Усе думалі, што яны пато́нулі. А ён, <галубок>, нашоў поля, дзе німа патопа, сеў тамака і людзі тую бумажку ўзялі і пачыталі. І яму прывязалі другую, і ён паляцеў на карабаль. А там ужо плакалі, крычалі ратунку. Ці галуб адзін прыляцеў, ці галубка, адзін нехта замарыўся і ні даляцеў, а кукушка прыляцела. Да, галуба з галубкай паслалі і кукушку. Яны больш месяца лcraталі. То лятаюць-лятаюць і явюцца, а то як паляцелі – і няма. Ну ўсё, думаюць, пагіблі. Аж яны нашлі чыстую <зямлю>! Тады ўсе сталі рады, знаі ў які бок грабсці, і стала вада меншаць. Усё было возерам. А патоп быў, праўда.

***Каго Ной не ўзяў у каўчэг***

40

*Зап. у 2007 г. А.М.Боганева і Т.В.Валодзіна ад Марыі Якаўлеўны Філіпчык, 1948 г. н., прав., в. Вулька-1, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Ной строіў ковчэга, да ўсі смэяліса з Ноя.

– Вы, – казаў, – людзі, стройце ковчэг, бо скоро потоп будзе.

А людзі нэ слухалі. Ной построів ковчэг, всёго по пары взяў. І жонку свою взяв, і дзецей, і братоў, і сесцёр. А одна дочка нэ послухала і нэ захоціла з імі іці в той ковчэг. І маці хоціла вэрнуцца, взяць ейі, а бацько, той Ной, ее нэ пусьців. І ужэ ж ковчэг отплыў.

І вот после потопа пошлі од Ноя все людзі, і вся твар пошла. Всёго по пары взяв на ковчэг. Ноева одна дачка не пойшла і сын одзін. Не верылі і не хоцелі помогаць строіць, і іх Ной не пусціў. А маці ж хоціла забраць своіх дзецей, а бацько не дав. І воны осталіса, і воны потоплі. А тые всі осталіс, хто зайшов в той ковчэг.

## *Вуж ратуе каўчэг*[52]

41

*Зап. у 2004 г. ад Браніславы Мікалаеўны Сасноўскай, 1918 г. н., катал., адук. не мае, в. Жмурна, Лельчыцкі р-н, Гомельская вобл.*

Шо росказувалі... Свадьбі булі перад етым потопам... Да вода подходзіла, да людзі все свадьбы танцовалі – на хаце, на крышэ, пуд крышэй там... Дотуль танцовалі, покуль іх там позмывало. Не верылі, шо будэ потоп[53]. ... Это казалі, шо Бог зобрав... Оной зобрав... А вон робів ковчэг сорок дней і сорок ночэй. Эты Оной. Все строівса од потопу, а люді етого не прізнавалі. Да гулі ўстраівалі, да свадьбы ўстраіваліся. А вон узяв у кожного... з кожнай жывёлі взяв туды в свой той корабель. І вужа взяв туды в корабель.

Ну і вжэ злы зробів дзірку в кораблі. Стала вода бегці. А вуж заткнув ту дзірку. Заткнув, шоб люді не потопіліса. Это росказувалі.

*– А казалі ў вас, шо вужа можна забіваці?*

– Казалі: вужа не трэба біць, а толькі гадзюк.

## *Чаму змеі распаўсюдзіліся*[54]

42

*Зап. у 2006 г. А.М.Боганева і Т.В.Валодзіна ад Соф'і Пятроўны Кузьміч, 1934 г. н., прав., 8 кл., в. Сталюгі, Лепельскі р-н, Віцебская вобл.*

Эта мама расказавала пра змей, што быў патоп, і тады іх жа ўсякага зверу ўзялі ў каўчэг, і бусла, усё. Чаго ён усіх есь?

---

[52] Матыў "вуж як выратавальнік каўчэга" мае кніжна-апакрыфічныя паралелі, распаўсюджаны ва ўсходніх славян, вядомы таксама ў Македоніі [4, с. 269–274]. На сучасным этапе сустракаецца рэдка, усе запісы варыянтаў легенды з гэтым матывам зроблены на Усходнім Палессі.

[53] Матывы буянай весялосці, вяселляў, танцаў на пачатку патопу, баля ў час, калі вада залівала зямлю і дамы, часта сустракаюцца па ўсім Усходнім Палессі.

[54] Відавочная паралель з этыялагічным легендарным сюжэтам "адкуль бусел".

Ён жа і жаб усіх возьмецць, і змей... І вот, як яны там вываліліся з каўчэга, цэлы мяшок, і ён ухапіў змяю. І яе не праглынуў, а ўхапіў жывую, панёс, <выпусціў>, і сталі змеі размнажацца. І бусел іх во есь, больша ж ніхто ня есь. Я і сама відзіла, як ён яе б'ець аб зямлю, а яна круціцца, а тады во тут у яго шавеліцца.

– *Гэта ад патопу?*

– Ад патопу.

– *А каб ня вывалілася, змеяў бы не было?*

– Не было б, а хай на іх…

### *Адкуль буслы*[55]

43

*Зап. у 2007 г. Т.В.Валодзіна ад Веры Міхайлаўны Скубановіч, 1941 г. н., в. Іванск, Чашніцкі р-н, Віцебская вобл.*

Некалі быў патоп. Можа быў, можа ня быў... Дзелалі нейкі каўчаг. А Бог паслаў туды два чалавекі. Сказаў:

– Збярыця ўсякіх насякомых па пары, штоб ён і яна.

Сабралі два мяшкі і паставілі, паставілі гэтыя мяшкі. А там і змеі, і лягушкі, і камары, і мошкі, і ўсякія мандавошкі. І сказалі этаму:

– Нясіця на каўчаг.

А прышлі другія і кажуць:

– А што тут у этых мішках? Усё шавеліцца. А што несці?

Яны тады ўзялі і тыя мяшкі развязалі, а этыя вужакі як павыпаўзлі ўсе! Спужаліся яны і ўцікаць. А Бог сказаў:

– Вот цяпер вы і будзіця буцянамі.

Эта таго чалавека, яго і яе, здзелаў буцянамі.

### *Чаму сабакі і каты адзін аднога не любяць*[56]

44

*Зап. у 2007 г. ад Дануты Віктараўны Місіевіч, 1941 г. н., прав., 11 кл., в. Рэдзігерава, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Мама росказувала, што от, неколі, було жыто: от землі до верха колос був. Як Бог по землі ходів, то было жыто – от ніза до верха був колос, о.

---

[55] Легенда пра паходжанне бусла (небіблейская) настолькі папулярная і распаўсюджаная ў Беларусі, што дзеля павышэння статусу апавядання нярэдка прымяркоўваецца і да значных біблейскіх падзей.

[56] Арыгінальны, адзінкавы для беларускай "народнай Біблії" варыянт – кантамінацыя з этыялагічнай легендай "Чаму колас ад зямлі не расце".

А потом, як жэ ж стало наводненне гэто, то одну ж-но колосіночку... Як от був потоп. Это так маці росказувала, був потоп. Так толькі одну колосінку заховав Бог, шоб жэ ж потом розвесці гэтое жыто.

А остався жэ ж собака і кот. І вот трэба було до Бога занесці эту колосінку, шоб жэ Бог жыто посіяв по землі. Ну а трэба було чэрэз воду, чэрэз морэ, кругом жэ ж був потоп. Кот з собакою рэшылі, шо занэсуць этого колоска. <...>

Зразу собака нёс колосінку. І вот ужэ трохі до берэга доплываць – а кот на сьпі*не* седзеў, ён жэ ж не плавае, кот, это собака плавае – і собака несе колосінку этую. І вот ужэ до берэжка доплываць, і собака выбівса з усіх сіл. І вон кажэ на кота:

– Схопі гэту колосінку, коб вона не замокла. – Бо собака ж плыве, голова ўгору <...>, коб жэ ж не згубіць. – І я от зараз выплыву, бо ужэ ж мокры, і ты прыгай з мене на берэг. Я выплыву, і пойдзем разом до Бога.

А кот жэ ж не дурны. Вон жэ ж взяв колосінку, да прыгнув, да і побег скорэй впэрод. Да забег до Бога да кажэ:

– От я спас гэто зерно, спас гэту колосінку.

А собака пока стрэпенувса, пока гэту воду збів, да сіл выбівса, да помаленечку <ідзе>, думае, кот жэ скажэ, што мы ўдвох...

А Бог розгневавса на собаку, да палку, да по собацы:

– Ты сякі-такі, кот одзін нёс колосінку, а ты не!

А собака як разозлівса <на кота>:

– Ах жэ ж ты скоціна! Я ж нёс колосінку! А ты такі подліза, ты побег до бе́рэжка, я цебе дов'ёз на пле́чах, а ты скочыв з мене, да за колосінку... Правільно, ты ж на плечах сядзеў, а я гроб лапамі, морэ нёс!

Да як началі дзерцісь, так і по сёй дзень дзеруцца.

*– А што гэта за патоп?*

– Ну як, як то маці росказувала... Ну був жэ потоп і Ноев той ковчэг. Мало ж людзей спаслося. Да земля вся покрыласа водою... Ну і колосінку эту спасьлі. Ну і вот: собаку і кота бралі, коб жэ ж потом... Усё по одному: голубка бралі... Ну і так вот вона і росказувала. "Вот, – кажэ, – хлеб і соль – гэто сьвятое. Не можна ёго кідаць..."

## Сыны Ноя

### *Адкуль хамы*[57]

45

*Зап. у 2006 г. ад Вольгі Паўлаўны Хвецько, 1932 г. н., прав., 4 кл., в. Сейлавічы, Нясвіжскі р-н, Мінская вобл.*

Расказывалі гэдак. Што бацька лёг спаць, а ён напіўся, ці што ён там зрабіў, і спусьціў штаны, і ляжаў голы. Вот гэты падыйшоў адзін, <Хам> і: “Ха-ха-ха!” – і паказвае ўсім, што ўжэ бацька гэдакі. Вот ён саграшыў перад бацькам, а другі прыйшоў і накрыў яго. Вот гэтага ён пашкадаваў, а той – хам. Вот хам, і сёня – хамы́. Ён за-за гэтага хам, што нядобра зрабіў, насьмяяўсь. Вот хто сёння насьміхаецца, хто кепско робіць, – той хам. Вот затым называюць хамы.

– *Гэта нашчадак таго, хто над бацькай насьмяяўся?*

– Ну да.

– *Гэта ад яго пайшлі хамы?*

– Гэта ад яго пайшлі. Вот ад тога пайшлі хамы.

### *Адкуль народы розных рас*[58]

46

*Зап. у 2008 г. ад Аляксандры Васільеўны Адзесенкавай, 1918–2010, прав., адук. не мае, нар. у в. Стары Шклоў, Шклоўскі р-н, Магілёўская вобл., жыла ў Мінску.*

Нас жыды называлі хамы. А Вы не знаеце, пачаму назвалі “хам”? Патаму што мы ат Хама́. Ат Хама́ мы.

У Ноя было сыноў многа. І вот гэсты сын, кагда яны прыехалі з каўчэга, зьлезьлі, і ён <Ной>, бедны, стаміўся і лёг. А гэсты сын яго абсьмяяў, што вот гэстыя негры, бацьку абсьмяяў. А Хама́ накінуў на яго накідку. І Ной гаворыць:

– Хама́, твая будзець дужа цэнная прырода. Красівыя ўсе будуць, стройныя ўсе будуць. Такое будзець пакаленье.

А на таго сына, што сьмяяўся, я забыла, як яго:

– А твая дужа будзець некрасівая прырода.

І вот негры, кітайцы – гэта яго. А мы ат Хама́. Эта рэдка хто знаець. І жыды нас называлі: “Хам, хамка”. А яны ат Юды.

---

[57] Кананічны матыў граху сына Ноя Хама, які пасмяяўся з бацькі і быў ім пракляты (Быц. 9:20–27), трансфармуецца ў этыялагічны матыў “адкуль хамы” (у сэнсе грубіяны).

[58] Арыгінальная трактоўка кананічнага матыву: Хам ператвараецца ў Хаму і становіцца (замест Іафета) родапачынальнікам “дужа цэннай прыроды” еўрапейцаў.

## Вавілонская вежа[59]

### *Як Бог мовы змяшаў*

47 A

*Зап. у 2007 г. А.М.Боганева і Т.В.Валодзіна ад Марыі Якаўлеўны Філіпчык, 1948 г. н., прав., в. Вулька-1, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Всі народы говорылі на одном языку. А потом строілі, строілі <вежу да неба, хацелі да Бога дабрацца>. А тогді Бог взяв, помэшав всі, і разные языкі дав. І вот мы цепер всі говорым на разных языках. А сразу ж всі говорылі на одным языку. Був одзін язык. І ту башню ўжэ ж не построілі. Той кажэ:

– Подай кірпічыну! – а ёму шчо другее, бо ўжэ ж не зналі одзін одного, шо говорыць.

І так і не построілі ту башню. До Бога, на небо строілі башню.

47 B

*Зап. у 2003 г. ад Кацярыны Іванаўны Чарнаокай, 1941 г. н., прав., в. Сінкевічы, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Неколі Бог зьмяшаў языкі: да той козав тэ подай, то тэ подавалі, так, то й тэ подавай – дый не зробілі башню.

– *Дык яны хацелі быць вышэй за Бога?*

– Да, хоцелі ж на небо зробіць башню такую, уверх залезьці, достаць Бога, побачыць; а Бог жэ ж не дав йім зробіць, да змешав языкі. Ды як той тэ, кажэ: "Подай", – дык той тэ подае, а той тэ, то той тэ – і не зробілі башню. У нас была ў кнішцы вона, я бачыла дажэ, і дзе та кнішка, это была Біблія, мабыць…

47 C

*Зап. В.І.Басько ў 1997 г. ад Уліты Высоцкай, 1903 г. н., прав., в. Міхалінава, Лёзненскі р-н, Віцебская вобл.*

Мы ж ад яўреяў прайзашлі, усе зналі яўрейскі язык. І кагда сталі строіць Вавілонскае столпотвореніе, вот тут Бог-такі і змешаў людзёў: нада кірпіч, а яны падаюць ваду; нада гліна, а яны падаюць кірпіч – так і разашліcь людзі, Вавілонскае столпотвореніе не пастроілі. А думалі столб пастроіць да самага неба, а ня вышла так. І вот сталі разные языкі: і рускі, і кітайскі, і многа…

[59] Быт. 11:3–9.

### *Як Бог не даваў людзям дастаць неба*

48 А

*Зап. у 2004 г. ад Надзеі Фёдараўны Кароль, 1940 г. н., прав., сярэд. спец. адук., в. Гаць, Акцябрскі р-н, Гомельская вобл.*

Сколька зробяць за дзень, яна ўваходзіла ў зямлю. Сколька там збудуюць, там на метр ці большэ – ана апяць… Так Гасподзь абрашчаў труд чалавечаскі…

48 В

*Зап. у 2006 г. ад Паўліны Навумаўны Ільюшчыц, 1925 г. р., прав., 2 кл., в Рог, Салігорскі р-н, Мінская вобл.*

– Росказувалі, што яслі ўсе робілі. Робілі-робілі – да і не добраліса до неба.

*– А што за яслі?*

– Ну, лезці на небо. Лесніцы такіе. Все робілі, несколькі годоў робілі – хоцелі на небо добрацца. І так не добраліса. Робілі-робілі, лезлі-лезлі… Зробяць, аж ноч перэночуюць – і зноў… Угэ думаюць: "О то-то, залезем!"

*— Яны за ноч тыя яслі меньшыя станавіліся?*

— Да, да.

### *Пра Вавілонскую вежу і касманаўтаў*

49

*Зап. у 2003 г. ад Васіля Рыгоравіча Петрусевіча, 1924 г. н., прав., 8 кл., в. Цераблічы, Столінскі р-н, Брэсцкая вобл.*

– Хоцелі побачыць, што там дзелаецца на небесах. Будовалі <...> вежу, з дзерэва, но вот не получылося. Сам Господзь закрыў это, да. <...> Трэба даваць дзерэво, а даюць кірпіч. Змешаў Бог языкі людзям, і зосталося так.

*– А яны да неба хацелі дастаць?*

– До неба, так, як Гагарын, тожэ ж хоцелі до Бога достаць. <...> Комароў, <таксама> хоцеў достаць, Бога ўзяць за бороду... Да, лецеў, штоб узяць за бороду Бога. Аж Господзь даў, што вон упаў да ўбіўса. Да і росказваюць, а я чую. Во, кажэ, узяў Бога за бороду!

*– Эта касманаўт, які убіўся?*

– Да, да-да. Комароў. <...>

*– Так касманаўты нашы хацелі да Бога дастаць?*

– Да, но Господзь не допусціў. І я говорю: я зарэз нікому, дзіця, не веру. Я верю одному Господу Богу і Мацері Гос-

подней. Я встаю – я перэмолюса. І лёг – я перэмолюса. Мой і дзед, і бацько буў, мы рэлігію понімаем...

## Аўраам і Ісаак. Ахвярапрынашэнне Ісаака[60]

50

*Зап. у 2003 г. ад Надзеі Сцяпанаўны Валынчык, 1938 г. н., прав., 3 кл., в. Кажан-Гарадок, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

От у одного тожэ нэ було детей, вон молів Бога... Вон ужэ быв дажэ в цэркві, бацюшком. <Бог сказаў яму>, што ў цебе родзіцца сын, а он не верыв, покуль не родівса. А обэшчав Богу, шо я отдам ёго в жэртву! І от он вырос такім пацаном, і вжэ вон ёго на гору, і вжэ того сына отдавав заколоць, спаліць ёго в жэртву Богу. А Бог жэ не схоцев. Воны вжэ того сына колоць – і закололіі – о́вца. Прэврацілась, зробілась овца і згорела, а той сын жыв. От поэтому она тожэ сьвятая[61].

# ЗЫХОД

## Майсей. Зыход яўрэяў з Егіпта[62]

### *Нараджэннне і выратаванне Майсея*[63]

51

*Зап. у 2007 г. ад Соф'і Браніславаўны Закавіч, 1935 г. н., катал., 3 кл., в. Любань, Вілейскі р-н, Мінская вобл.*

А маці <Майсея> <…> тры месяцы яго дзяржала. А далей ужо няма куды дзяржаць, дзіця расьцець жа ж ужэ… Гэта я не пра Хрыста, пра Майсея кажу, у іх жа бог Майсей. Усіх выразалі, а яна хавала да трох месяцаў. І прышла, і спляла карзіначку з трасьніка, абліла смалой. А ў гэта возера хадзіла царская дачка купацца. Дак маці Майсея паставіла ў камыш ету калысачку, а сама ўжо схавалася, а прыходзіць царская дзяўчына купацца сюды. А матка выйшла, ды кажа:

– Вазьміця етага хлопчыка!

---

[60] Быц. 22:1–19.

[61] Пераказ біблейскага тэксту набывае фальклорную канцоўку – этыялагічны вывад, чаму авечка святая. І ў адрозненне ад кананічнага тэксту, у якім авен аказваецца ззаду Аўраама, у народнабіблейскім варыянце, згодна агульнай фальклорнай логіцы метамарфоз, сын ператвараецца ў авечку.

[62] Зых., гл. 1–40.

[63] Зых. 2:1–10.

Дак яна як падыйшла да гэтай калысачкі, як увідзіла Майсея – хап, і да сябе прытуліла. І кажэць:

– А мой жа ж ты!

І вот яго назвалі Майсей. "А мой жа ж ты!"[64] Узялі гэта дзіця, гадавалі, усё такое. А ён палюбіў Бога. А Бог яго. Палюбіў надта Бог яго. А ён Бога надта палюбіў.

### *Як Бог даў праз Маісея 10 запаведзей*
52

*Зап. у 2007 г. ад Соф'і Браніславаўны Закавіч, 1935 г. н., катал., 3 кл., в. Любань, Вілейскі р-н, Мінская вобл.*

Ну што ж, а патом ён <Майсей> выгадаваўся, і стала надта трудно, цяжко юдзеям жыць. І захацелі яны... А Майсей ужэ дарос. І вот дзесяць запаведзь Вы знаеце? Эці дзесяць запаведзей ніхто не прымаў. Бог хадзіў, хадзіў, каб хто прыняў – ніхто не прымаў. А Майсей прыняў. У нас і ў малітве яны ёсь, і ў праваслаўных... На гарэ, на пліце... У мяне дажа жыдоўка ёсь, я з жыдоўкай дружыла, так яна мне многа чаго расказывала. Дак ён на гарэ Сінайскай, на пліце, запісаў гэтых дзесянцёра. Прыняў ад Бога. І Бог яго палюбіў, і даў яму сілу і ўласьць усем уладзець.

### *Пераход яўрэяў праз мора*[65] *(Адкуль фараоны*[66]*)*
53 А

*Зап. у 2007 г. ад Соф'і Браніславаўны Закавіч, 1935 г. н., катал., 3 кл., в. Любань, Вілейскі р-н, Мінская вобл.*

А было юдзеям цяжко, трудно жыць. І тады Бог сказаў Майсею:

– Бяры гэтых сваіх людзей із Ягіпта і пераводзь на другую сторану мора.

---

[64] У кананічным тэксце: "і назвала яго: Майсей, таму што, – казала Яна, – я з вады выняла Яго" (Зых. 2:10).

[65] Зых. 14:1–31.

[66] Фараоны – людзі-рыбы, назва якіх паходзіць, згодна этыялагічным легендам, з "фараонаў"-егіпцян, якія гналіся за яўрэямі праз Чэрмнае мора. Гэты матыў мае апакрыфічнае паходжанне са старажытнарускага пісьмовага помніка "Казанне пра пераход Чармнога мора" [4, с. 293]. Расказы пра фараонаў (легенды і былічкі) распаўсюджаны на рускай Поўначы [6, с. 96, 36: № 186–191], маюцца фіксацыі на Украіне і ў Беларусі. На сучасным этапе легенды і былічкі пра фараонаў сустракаюцца рэдка, часцей інфарманты толькі пазначаюць, што слова ім знаёмае (з указаннем на традыцыю як крыніцу звестак – "ад бацькоў"), але ні значэння (персанажа), ні легенды ўжо не памятаюць.

І даў Бог яму валшэбны посах, каб ужо ж перав'ёў людзей. І вот ён пераводзіць людзей за сабой. А як узнаў гэта Ірад, ён стаў шчэ болей з людзей зьдзявацца. І Майсей кажа да Бога:

– Няма рады, няма жыцця, так ён здзяваецца!

Так далі яму посах. І прыйшоў Ён да гэтага мора, сюды-туды махануў – мора расхінулася. Расхінулася, і ён пасрэдзі вады, па сцежке сухой, перав'ёў свой народ на тую сторану. А патом ён жа ж агледзеўся, што ён на берагу, а за ім гоняцца фараоны. Дык вот жа ж і ёсь эта рыба: жэнская галава і рыба. Эта ж есь, жэнская галава і тулава рыбы.

*– Так, а хто яны такія, фараоны?*

– Фараонамі сталі людзі, якія гналіся за Майсеем. <...> А ён жа свой народ пав'ёў у Египет. Людзі перавярнуліся ў рыбы, панімаеце?

*– А дзе зараз фараоны жывуць?*

– У рэках жывуць.

*– У любой рэчцы?*

– Не, не. Можа дзе там дзе-нібудзь.

*– А іх бачыў хто-небудзь?*

– А чаго ж не бачылі?

*– Галава ў іх чалавечая?*

– Да, і воласы такія длінныя. Жэншчыны, мушчыны. І тут во рыб'я хвост, усё такое… А галава чалавечаская.

*– А яны співаюць, фараоны?*

– Можа быць яны і сьпяваюць. Можа быць маракі і чуюць гэтыя галасы, але я да гэтага шчэ не дачытала. Да, фараоны – гэта людзі. Можа яны там пішчаць, можа яны там візжаць у гэтым моры, хто іх ведаець, можа на караблі іх чуюць. Ну, канешна, галасы там у іх некія ёсьць. Фараоны – гэта людзі, з людзей фараоны.

### 53 В[67]

*Зап. у 1998 г. ад Антона Андрэевіча Савельева, 1912 г. н., прав, 2 кл., в. Полькавічы, Шумілінскі р-н, Віцебская вобл.*

Дзядзька расказваў пра мора. Так ён казаў: "Ноччу, як мы плаваем, рыба кузоўка маленькая, так яна, – гаворыць, – як аткрыюцца вокны, ноччу налятаець, што шухлей выг'рябаюць. Дак так ляціць, і ляціць, і ляціць, з вады паднімаецца. А тады апяць у ваду".

[67] Тэкст прадстаўляе сабой спалучэнне былічкі і этыялагічнай легенды.

Так ён казаў. Плавалі на морі там фаравоны. Выйдуць далёка, за два кілометры слыхаць... Как запяюць, такія жаласныя яны... Рыбій хвост, а рукі, ногі – жэншчына, сіські.

Так у музеі ж былі, матка ж хадзіла з бацькам у Віцебске ў старыя г'ады. У музеі было: фаравон у вадзе плаваў.

Так... салдаты заслухваюцца тады. Жаласныя дужа песьні, і па вадзе раздаюцца красіва. І страляюць тады, каб яны хаваліся етыя фаравоны ў ваду. Так, а цяпер, дзе яны падзеліся? У старыя г'ады былі.

Гаворать, Майсей перавадзіў свайіх людзей чэраз мора... А етыя, каторыя гналіся, хацелі йіх не пусціць. І яны ў вадзе, а здзелалі йіх жывым. І плаваюць, і во ў музейі яны. ...Эта фаравоны гналіся за йімі, а той Майсей свайіх людзей пав'ёў чэраз Дзьвіну!

### **** (Адкуль русалкі)*[68]

53 С

*Зап. В.І.Басько ў 2000 г. ад Веры Бобрык, 1920 г. н., в. Мяшэтнікі, Мастоўскі р-н, Гродзенская вобл.*

Русалкі эта, гаварылі, што некалі выводзіў Маісей яўрэяў з Егіпта. Цераз Чорна мора трэба было вясці. А яму Бог даў такі жэзл, ён ім махнуў – так ета мора расшырылась, і яны <яўрэі> перайшлі па сухому дну. А егіпцяне эксплуаціравалі надта жыдоў і пашкадавалі, што яны ж на іх рабілі. Дак яны, <егіпцяне>, на калясніцы гналіся за імі. Маісей яўрэяў перавёў, а егіпцяне як уехалі за імі праз гэта мора, Маісей зноў жэзлам махнуў, і мора зышлося зноў, і патапіліса егіпцяне. Вот, гаворать, што эта і есь русалкі етыя, што патапіліса.

## Маісей і яўрэі ў пустыні[69]

54

*Зап. у 2007 г. ад Соф'і Баніславаўны Закавіч, 1935 г. н., катал., 3 кл., в. Любань, Вілейскі р-н, Мінская вобл.*

Калі ён перайшоў на тую сторану, надта ж было трудно, надта ж было цяжко людзям, што яны не маглі ніяк жыць.

---

[68] Персанаж тут названы русалкай, але сюжэт легенды абсалютна супадае з легендамі пра фараонаў, таму яго можна лічыць адной з разнавіднасцей гэтага тыпу легенд.

[69] Зых., гл. 15–40.

Началі ўжо раптаць на етага Майсея, началі наракаць, што голад, мора, не можна пераҗыць. І вада салёная, вады няма як піць. І Бог яму каэць:

– Вот там і там есь крыніца, і над ім расьцець дрэва. Апусьціце гэта дрэва ў крыніцу, яно выцягне гэту горыч, і будзець вам вада[70].

Добра. Яны так ужо зрабілі, ваду ўжо п'юць, а галодныя-галодныя! Тады ўжо Бог начаў пасылаць Майсею пціцу, пташак, і яны жылі пташкамі. А піталіся яны манкай. Манка з неба сыпалася. І яны пяклі на берагу гэту манку на вадзе, без солі. І ад гэтага яны ўжо жылі[71].

### *Хто ў Бога хлеб выпрасіў*[72]

55

*Зап. у 2001 г. ад Кацярыны Емяльянаўны Дземідзенка, 1931 г. н., прав., 2 кл., в. Дывін, Кобрынскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Ну, був голод, так кажуть: трэба даваты собацы хліба! Трэба даваты котовы хліба! Він у Бога хліб выпросыв. Колыся ж хліба нэ було, манку Бог з нэба еврэям даваў. Дэсь там воны йшлы, як Мойсэй выводыв з Егіпта. Это ж сорок літ. Хліба нэ набэрэшся на кажны раз, то ж манку з нэба сыпав. Ну а кіт, собака выпросылы хліба.

## ТРЭЦЯЯ КНІГА ЦАРСТВАЎ

### Прамудры Саламон

56

*Зап. Т.І.Кухаронак у 2006 г. ад Тацяны Навумаўны Хаміцэвіч, 1920 г. н., прав., 4 кл., в. Рог, Салігорскі р-н, Мінская вобл.*

Шчэ прадзед расказваў. Ніхто ня мог ацаніць залатой каляскі, сколькі ні ззываў – ніхто ня мог ацаніць. Ён і зайшоў к аднаму, к етаму Салімону Прамудраму, а ён кажа: "Як тры дні ня паясі, дак за лусту хлеба аддасі". Ета праўда. Ён і

---

[70] Кананічны матыў: [Майсей] закрычаў да Госпада, і Госпад паказаў яму дрэва, і ён кінуў яго ў валу, і вада зрабілася салодкаю (Зых.15:25).

[71] Кананічны матыў пра манну нябесную, якой сілкаваліся яўрэі 40 гадоў у пустыні (Зых.16:4–31), з фальклорным удакладненнем, што пяклі хлеб на вадзе і без солі.

[72] Алюзія на этыялагічны небіблейскі сюжэт "чаму колас ад зямлі не расце".

сагласіўса. Чалавек галодны, памірая, да і за буханку хлеба продасі. Вот табе і ацаніў. За ета яго Прамудрым і празвалі етага Салімона.

## Ілля-прарок[73]

### *Хто такі Ілля-прарок*

57 А

*Зап. у 2003 г. В.І.Басько ад Марыі Куратнік, 1926 г. н., прав., в. Амяльная, Івацэвіцкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Ілля – вэлыкі пророк. Была вэліка вэльмі засуха, а ў Ілля ключэ былі пад абло́кэй. І от вэн облака своімі ключамі одомкнуў, і пошов дождж.

57 В

*Зап. у 2004 г. ад Анастасіі Уладзіміраўны Астаповіч, 1931 г. н., прав., 2 кл. в. Дубічы, Лельчыцкі р-н, Гомельская вобл.*

*– А хто такі Ілля-прарок?*

– Лля пророк? Это Петро і Паўл*о*. От это Господні, Ілля – Господніе слугі. Господніе этыя, которые... Бог велеў, шоб воны ходзілі і людзям помоч оказвалі. Это эты Лья і Пятро, і Паўло[74].

### *Адкуль сузор'е Вялікая мядзведзіца*

58

*Зап. у 1998 г. ад Зоі Станіславаўны Аглушэвіч, 1928 г. н., катал., г. п. Обаль, Шумілінскі р-н, Віцебская вобл.*

Вот, калі тры звязды і яшчэ чатыры, – мне мама казала, – то святый Ілья ехаў на тройке, а коні збіліся і пабеглі. Не змог іх удзяржаць. І вот тры кані сталі тры звязды, адзін за адным. І чатыры калесы, як воз. Эта так і асталася на небе, і відаць: чатыры калясы – воз гэты і тры кані. Так коні збіліся і асталіся на небе.

---

[73] 3-я–4-я кн. Царстваў. Практычна ўсе сюжэты пра Іллю-прарока народна-апакрыфічныя. Сувязь Іллі-прарока з громам, навальніцай, дажджом, урадлівасцю характэрна для фальклорнай інтэрпрэтацыі вобраза ва ўсходніх і паўднёвых славян (балгар, сербаў і інш.). Дадзенае фальклорнае тлумачэнне вобраза часткова абапіраецца на кананічнае апавяданне, як Ілля у спаборніцтве з прарокамі Ваала імем Гасподнім выклікаў дождж пасля трохгадовай засухі і бег пад дажджом перад калясніцай цара Ахава (3-я кн. Цар. 18:19–46).

[74] Частае ў фальклорнай свядомасці атаясамліванне розных святых.

### *Адкуль гром і маланка пры навальніцы*[75]

59 A

*Зап. у 1998 г. ад Раісы Пятроўны Петручышынай, 1928 г. н., праў., г.п. Шуміліна, Шумілінскі р-н, Віцебская вобл.*

Пярун – эта такім нехарошым людзям могець здзелаць так. Хто-та такой ужэ, што зямлю паскудзіць і людзей саблазняець <...> у нехарошыя дзела ўводзіць... Вот яго толькі і ўбраць перуном эцім. Эта ж Ілля-прарок <з перуном>. На огненнай калесніцэ ён ездзіець Ілля-прарок.

59 B

*Зап. у 2004 г. ад Таісы Аляксандраўны Мастыкінай, 1930 г. н., праў., 3 кл., в. Парэчча, Акцябрскі р-н, Гомельская вобл.*

*– А што такое пярун?*

– Эта вырабатвае сам Бог. А прыказка – эта Ілля-прарок на кані катаецца.

59 C

*Зап. у 2006 г. А.М.Боганева і С.Г.Выскварка ад Андрэя Данілавіча Лапціка, 1922 г. н., праў., 4 кл., в. Палічын, Любанскі р-н, Мінская вобл.*

<Гром грыміць> – катаецца на сваёй калесьніцы огненнай Ілля-прарок.

59 D

*Зап. у 2004 г. ад Анастасіі Уладзіміраўны Астаповіч, 1931 г. н., праў., 2 кл. в. Дубічы, Лельчыцкі р-н, Гомельская вобл.*

Казалі, мой дзед кажэ... Я сяджу, шчэ ж была малая, гадоў мо п'яць ці скоко... Грыміць, а он кажа:

– Унучачка, не бойса. Это Лья Пророк езьдзіць по небу. І вон гне́віцца на людзей, которые Бога ўгневляюць. І вон едзе коляскою, і вон едзе на колясцы, і которые людзі грэшные, вон іх убівае.

[75] Шматлікія народныя этыялогіі (распаўсюджаны і зараз) адносна грому, які тлумачыцца раз'ездамі Іллі па небу на вогненнай калясніцы, маюць крыніцай алюзію на біблейскі тэкст пра вазнясенне Іллі жывым на неба: "Калі яны <з пракарокам Елісеем> ішлі і дарогаю і размаўлялі, раптам з'явілася калясніца агністая і коні агністыя, і разлучылі іх абодвух, і панёсся Ілля ў віхуры на неба"(4-я кн. Цар. 2:11).

А ў нас сёння говорацъ, шо это вельмі той чоловек достойны, шо гром убівае. А нам бабу і дзеды казалі, шо это вон грэшны чоловек, которого ўбівае…

*Ілля перуноў б'е*[76]

59 E

*Зап. у 2006 г. ад Іосіфа Іванавіча Ільюшчыца, 1926 г. н., прав., сярэд. спец. адук.; Паўліны Навумаўны Ільюшчыц, 1925 г. н.; Вольгі Рыгораўны Паддубіцкай, 1932 г. н., 4 кл.; Алены Андрэеўны Паддубіцкай, 1932 г. н., 4 кл., в. Рог., Салігорскі р-н, Мінская вобл.*

– Ілля доўжэн перуноў біць.

*– Можа перуном біць?*

– Не-е. Перуноў Ілля доўжэн біць. Это кода гроза – перуноў б'е Ілля.

*Пра плямы на месяцы і гром*

59 F

*Зап. у 2007 г. ад Марыі Уладзіміраўны Сасноўскай, 1932 г. н., прав., 7 кл., в. Ухвала, Крупскі р-н, Мінская вобл.*

*– А плямы на месяцы гэта што?*

– Ну, гэта як бы Ілля-прарок ездзя на залатым кані, вот. Эта дзяцём нам ужэ падсказывалі.

*– А Ілля-прарок ездзіць, калі гром грыміць?*

– Як гром грыміць. Гром грыміць, і вот ён ужэ… нам паказуюць ужэ вот, што на месяцы Ілля-прарок едзя…

*– На месяцы?*

– Да, ўсюды ён ужо. <…> Такія нам прысказкі казалі, а ці верныя яны ці няверныя… На залатой карэце, да.

[76] У дадзеным кантэксце пярун – нячыстая сіла. Нетыповае значэнне, звычайна "пярун", як у папярэдніх тэкстах, – гэта намінальнае абазначэнне маланкі або грому.

# *СВЯШЧЭННАЕ ПАДАННЕ*

## Зямное жыццё Божай Маці[77]

### *Нараджэнне Божай Маці, увядзенне ў Храм, Благавешчанне*

60

*Зап. у 2002 г. ад Валянціны Андрэеўны Казакевіч, 1925 г. н., прав., хутар Дракі (каля в. Каты), Смаргонскі р-н, Гродзенская вобл.*

Вот радзіўся Ісус Хрыстос ад Божай Мацеры. А Яна ж была незамужам. Бог даў. А быў у Божай Мацеры Якім і Анна – бацькі былі. Яны былі бяздзетныя. І яны очэнь прасілі Бога, каб ім Бог даў дзіцё. Вы ж ужо знаеце, старому ж… А такіх даўней, есьлі бяздзетны, у Храм не пускалі – яны лічылі ета грэшнік, патаму што недастойны імець дзіцё.

А яны ўжо старыя былі, па шэісят гадоў. І прасілі Бога. І так сказалі:

– Божа мой, есьлі ў нас будзе дзіцё, мы аддадзім <яго> Богу на служэнне.

І тады явіўся Архангел, кажэцца, Гаврііл, і сказаў, што яна родзіць. І радзіла яна Божую Матер.

І тады, Яна маленькая, тры гады, Яе павялі ў сьвятое сьвятых, у Храм. Яна маленька пашла ў сьвятое сьвятых па сходачках, па прыступачках пашла.

І Яна там была ўсё ўрэмя пры Храме. Падрасла. Яна вышывала, сьцірала, прыбірала ўсё-ўсё Божая Матер. А патом, як ужо скончыліся такія гады, панімаеце, што нельзя ўжо было ў храме такому быць. Ну тады яна пашла. Малілася, усё хадзіла ў цэркаў. І тады аднаго разу ей явіўся тожа Ангел. Што яна родзя Сына Божыя. Яна не паверыла здразу і думае: як жа я буду радзіць, як я незамужам? Так Бог сказаў: "Так Бог даў".

Ну патом Яна жыла ў старца вот такога старога. <…> І радзіўся Ісус Хрыстос.

---

[77] Многія падзеі з зямнога жыцця Божай Маці, у прыватнасці, Яе нараджэнне, увядзенне ў Храм, успенне – апісаны не ў Свяшчэнным Пісанні (Біблії), а ў Свяшчэнным Паданні, якое прызнаецца праваслаўнымі і католікамі. Асноўная крыніца звестак пра жыццё Божай Маці – сюжэт апакрыфічнага протаевангелля ад Іакава аб нараджэнні і дзяцінстве Божай Маці, якое стала важнай часткай Свяшчэннага Падання і было засвоена вуснай народнай традыцыяй. Гл. пра гэта [7].

### *Выбар абручніка Божай Маці*[78]

61

*Зап. у 2008 г. ад Аляксандры Васільеўны Адзесенкавай, 1918–2010, прав., адук. не мае, нар. у в. Стары Шклоў, Шклоўскі р-н, Магілёўская вобл., жыла ў Мінску.*

Дак вот і Мацер Божую радзіла Ганна ў дзевяноста гадоў. Якім сказаў:

– Я ўжо сколькі гадоў не жыву зь ёй! І я старык, і ў яе гады прэклонные.

Ну вот, а радзілася Божая Мацер.

А яны тады сказалі:

– Як народзіцца ў нас доч, аддадзім Богу на служэньне.

І вот у тры гады Яе прывялі і здалі ў цэркву. Бацюшкі падходзюць і ўзялі Яе ўжо весьці. А яму голас гаворыць: "Сьвятая з сьвятых!"

Ну, а тады яўрэі сталі ўжо прыставаць, што Яна з яўрэйскага пакалення, і штоб Яна выхадзіла замуж. Ну і тады бацюшка гэты, Захарыя, даець тром старцам… А там старцы былі, сядзелі. Нішчыя, прасілі міласьціну. А ён раздаў цьвяты. Сарваў і раздаў. І сказаў:

– У каго зацьвіцець цьвет, таму будзець Марыя абручонная.

І вот у Восіпа зацьвіцеў цьвет. А ў Восіпа было тры сыны. Ён быў удавец. І вот када стала Мацер Божая ў палажэны, ён Яе стаў выганяць.

– Я Цябе не трогаў, у мяне тры сыны, а аткуда Ты?

Аньгел к яму явіўся наяву і гаворыць:

– Не тронь Марыі! Яна родзіць ад Сьвятога Духа.

Тады ўжо ён стаў Яе глядзець, а то гнаў. А Яе ж ні мацеры, ні атца – нікога. І дома няма, куда іці.

### *Уводзіны Багародзіцы ў храм*

62

*Зап. у 2003 г. ад Мікалая Антонавіча Ракаўца, 1926 г. н., прав., 4 кл., в. Аздамічы, Столінскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Это ешчэ пішэцца... <...> Цар Давід сказаў, што родзіцца Отроковіца, весці будуць Ее ў храм с пеніем і ліккованіем подругі Ее. Ей – чотворты год <Ёй быў> – і велі дзеўчаты маленькіе. <...> І, кажэ, будуць славіць Ее все племена і народы отныне і до века.

---

[78] Рэдкі ў сучасным бытаванні матыў (крыніца – апакрыфічнае протаевангелле ад Іакава) красавання жазла (посаха) у абручніка Божай Маці і сам выбар абручніка сярод прыхрамавых жабракоў.

## НОВЫ ЗАПАВЕТ

### Благавешчанне[79]

63 A

*Зап. у 2000 г. В.І.Басько ад Веры Райчук, 1921 г. н., прав., в. Стытычава, Пінскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Благовешчанне – это Господь возвэстыв всему народу, шо Марыя родыт Сына – Бог покажэцца на гэты свет. Бо ніхто ж нэ вэрыв на Бога, які Бог е. Былы разные статуі, і кожон у свое веровав: і в осла, і во всэ… А гэто ж Бог пэрэродывса чэрэз Марыю, да шоб люды побачылы.

63 B

*Зап. у 2006 г. ад Паўліны Навумаўны Ільюшчыц, 1925 г. н., прав., 2 кл., в. Рог, Салігорскі р-н, Мінская вобл.*

Доказвуюць, што Іісус Хрыстос… Што Господ даў Божай Мацеры Своім Духом. І Гаўріла каэ Есіпу… А Есіп буў Божай Мацеры мужык. Мужык, але так жылі, нічого… А тут Бог прыслаў етага Гаўрыла, што Маці Божая бірэменна. І той каэ Есіпу:

– Што ты?! Проціў?

А Ён Гаўрыла прыслал, што сообшчыць: хай не волнуецца, Я Своім Духом даў того, угэ Ісуса Хрыста. То ето Ён і родіўса гэдак.

63 C

*Зап. у 2007 г. ад Ванды Браніславаўны Гедравец, 1922 г. н., катал., в. Селіцкія, Крупскі р-н, Мінская вобл.*

Марыя ж тады далжна была з Юзэфам пажэніцца, так? І в адну із начэй прыйшоў анёл і сказаў Марыі:

– Ты бярэменная чэраз Дух Сьвяты ад Бога.

І тожа самае ён сказаў гэтаму Юзэфу.

63 D

*Зап. у 2002 г. ад Марыі Феліксаўны Карпіцкай, 1843 г. н., катал., 8 кл., в. Ізабэліна, Астравецкі р-н, Гродзенская вобл.*

---

[79] Лк. 1:26–38.

Ну гэта ж Звеставанне выходзіла Найсьвентшай Марыі Панны дзень. Народзэння ж <Хрыста> ужо па Звеставанню. Анёл звеставаў, што народзіцца Пан Езус. Сьвята, радасьць такая была…

### *Непарочнае нараджэнне праз бок*[80]

64

*Зап. у 2007 г. А.М.Боганева і Т.В.Валодзіна ад Вольгі Васільеўны Стасюк, 1929 г. н., прав., 4 кл.; Марыі Раманаўны Лабко, 1933 г. н., прав., 2 кл., в. Вулька-1, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

– Вын жэ Сын Божы. Ёго ж народзіла Маці... Простая дзевка.

– Вона і сказала... Прыйшлі до Ее, тое Дзевочкі, і говорацъ: "От, Ты бірэменна". А Вона каа: "Как я буду бірэменна, як Я мужа не мею?" А воны сказалі: "Ты от Духа Сьвятого будзеш, да, і вродзіш Божого Сіна. І назовуць Ісус Хрыстос". І от так воно і було. І Вона ж не рожала гэк бы мы рожаем. Вона проз бок.

*– А хто да Яе прыйшоў і сказаў?*

– Янгол.

– Янгол спуцівса с небес і сказав. А в Ейі був жэніх Іосіф. Вын... Янгол спусцівса і сказав на Ейі, шчо Ты бласловлена от Духа Сьвятого, о.

*– Так Яна праз бок нарадзіла?*

– Да, да.

– Я нэ знаю гэтого.

– Так, так, так. Так, Манька. Вона не рожала так, гэк бы мі.

*– А калі Ёй гэта сказаў янгол?*

– Пэрэд гэтым, прэд Благовішчэннем.

## Нараджэнне Хрыста[81]

65 А

*Зап. у 2007 г. ад Соф'і Браніславаўны Закавіч, 1935 г. н., катал., 3 кл., в. Любань, Вілейскі р-н, Мінская вобл.*

*– А Бог хадзіў па зямлі?*

– Хадзіў! Ого! А чаго Яго расьпялі ці знаеце? Ага, не знаеце. Яго расьпялі за то, што Ён нарадзіўся на сьвет як

[80] Нетыповы для беларускай традыцыі наратыў непарочнага нараджэння праз бок. У украінцаў Валыншчыны і Падольшчыны фіксаваўся матыў непарочнага нараджэння Хрыста праз галаву [4, с. 313].

[81] Мф. 1:18–25; Лк. 2:1–20.

кароль Юдзейскі. Цар Юдзейскі. У жыдоў бог Майсей. Бог Майсей у іх. А гэта ж было аб'яўлена чатыры тысячы гадоў наперад, што родзіцца Цар Юдзейскі. І юдзеі ўжо зналі і ждалі, што як Ён родзіцца, на Усходзе загарыцца зьвязда.

У Егіпце ж было цёпла. Там авечкі пасьціліся на поле, а яны йшлі… З Іосіпам Матка йшла ў горад Назарэт, каб запісывацца, перапісь ішла.

*– Не ў Віфлеем?*

– Можа і ў Віфлеем. Эта неважна. Ішлі яны ў гэты горад на перапісь, а Яна была, Маці, бярэмінна. Прышлі яны ў гэты горад, а тут жа забіты, заполнены эты горад людзьмі, бо не толькі адны яны йшлі, усё людзі йшлі. І ім не было, дзе дзецца. Дык вот і ў нашай малітве: не было мейсца Ёй, дзе радзіць. Ну што ж, у хату не пусьціў ніхто, прышлося ім радзіць у стаенке Батлеемскай.

Радзіла, быў голенькі, не было чым укрыць Яго. І зразу ж загарэлася зьвязда на Усходзе. Ну і вот цар Юдзейскі поняў, што Ён радзіўся.

*– А вот што Ён быў голенькі, каровы, авечкі…*

– Да! Дыхалі на Яго. Дыхалі, да. І грэлі. І прышлі пастушкі з поля – авечкі яны ж пасьцілі.

65 В

*Зап. у 2004 г. ад Кацярыны Міхайлаўны Курачай, 1932 г. н., прав., в. Пружынішчы, Акцябрскі р-н, Гомельская вобл.*

Матка Яго была бярэменна, а пастухі пасьцілі авечкі, чабаны. Ну і радзіць Ёй не было места нідзе, не пусьцілі Яе ў гасцініцу. Яна пашла ў яські, гдзе авечкі, і ў ясьлях радзіла, і сьпеленала Суса Хрыста. І тады пачулі пастухі, як-та яны пачулі, што радзіўся Сус Хрыстос. Яго сьпеленалі і ўзналі, што хацелі ўбіць Яго. А Яна ляжала ў ясьлях умесьці з Ім. А тада ляцелі тыя, што хацелі ўністожыць Ісуса Хрыста, перабілі ўсіх малых дзетак, а Яго не знайшлі. А Ён быў у горадзе, от я забыла ў яком.

### *Пакланенне валхвоў*

66

*Зап. у 2001 г. ад Марыі Паўлаўны Букраба, 1910 г. н., прав., адук. не мае, в. Ялова, Пружанскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Паждзеце, я вам крышку прыпомню... Так гэтые валфы, ваны ўзялі сабе ў зямле накапалі золата... А в Індзіі якое-то

врэм'я, в каком-то месяцы атстае кара, і там берут ладан. І там ваны ўзялі́. А на остраві, ужо забылась як остраў зваці – Кіпр, здаецца, Кіпр – то там смірно было. Там быў апостол гэты Фома. І воны гэто ўсё сабралі сабе тое. І ваны прадалі свое імушчэство, чысто ўсе прадалі тые валфы. І ўжэ ехалі на конях, на верблюдах, на пумбулах... Воны вжэ ве́злі весь прыпас. Ужэ ве́злі, ехалі.

І воны прыехалі в Віхлеем. Там такая цьма стала, туман такі, шо воны ніц не знали. Той цар, <Ірад>, значыць, лякавса, а там воны, <валхвы>, з войском прыехалі, з усім прыпасом туда прыехалі. І звязда, <што іх прывяла ў Віфлеем>, астанавіласа <над вярцепам, дзе нарадзіўся Хрыстос>. Вона астанавіласа, а ніхто <яе> не бачыў з таго горада, ніц. І воны туды пошлі і нашлі Марыю і Младзенца.

А там Іосіф стаяв і вельмі плакав. Іосіф так ужэ рыдав: шо гэто нам Бог дае? Так ужэ вон плакав моцно там.

І <валхвы> прынеслі Ёй падарков много, разного-разного всего. Усего, шо воны там нанеслі, Божэ м ой: і палотнаў разных, і скаціны, і ўсяго-ўсяго. І ваны пабылі там колькі, і ім Ірад гаварыў, каб ваны вярнуліса да яго. А ім Ангел стаў і сказав, коб оны другім пуцем пашлі, коб до Ірода не ворочаліса. Значыт, воны другім пуцем пошлі вжэ обратно, в свое дома пошлі.

### *Хрыстос у хляве*[82]

### 67 А

*Зап. у 2007 г. А.М.Боганева і Т.В.Валодзіна ад Марыі Раманаўны Лабко, 1933 г. н., прав., 2 кл.; Вольгі Васільеўны Станюк, 1929 г. н., прав., 4 кл., в. Вулька-1, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

*– А дзе Хрыстос нарадзі́ўся?*

– У ясьлях. Там овэчкі́ булі, там голубы булі, там пастушкі булі, тые шчо пасьвілі, бачылі, як Вона, <Божая Маці>, праталаса. <...> І Вона туды заховаласа і вродыла за ясьлямі Сіна Божого.

*– А не казалі, што авечкі на Яго хукалі, грэлі зімой?*

– Не, я гэтого не чула, мо хіба Маня чула.

82 Тут і далей канкрэтызуецца матыў "Хрыстос нарадзіўся ў хляве": "И родила Сына своего Первенца, и спеленала Его, и положила Его в ясли, потому что не было им места в гостинице" (Лк.2:7).

– Овэчкі не хукалі. Овэчкі як овэчкі – стадо. Бэгуць однэ за одным да і ўсё. <...> Вон був як бы пастух, а овэчкі булі як бы людзі. Овэчкі –это прымер такі, як бы людзі. А Ісус Хрытос як бы пастух, як бы вождак людзей. Ото надо іці по Его дорозі[83]. Поэтому Его хоцелі еврэі убіць, шукалі ж Его ўбіць.

67 В

*Зап. у 2003 г. ад Марыі Іванаўны Туцінай, 1928 г. н., прав., в. Гулічы, Ляхавіцкі р-н, Брэсцкая вобл.*

І козы каля Яго, і кароўкі стаялі. І Ён ляжаў, а кругом анёлачкі над Йім лятали. Можа і вы бачылі дзе – на кніжках ці так. Некалі нам расказвалі дзед з бабаю.

### ***Якія жывёлы "святыя", якія "грэшныя"

68 А

*Зап. у 2003 г. ад Кацярыны Рыгораўны Ярмоліч, 1940 г. н., прав., 7 кл., в. Сітніца, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Божа Маці родзіла Ісуса Хрыста ў ясьлях, і там былі козы і овечкі. І вот с этых пор і козы, і овечкі называюцца сьвятымі. От вездзе: і ў цэрквах козочкі нарысованые і овечкі. І еслі от на Крэшчэніе берэш ёлочку і сено, то бацюшко росказвае, што ні корові, ні коню не даваць, а толькі можно козом і овечком, да.

### Чаму конь ніколі не пад'есць, а каровам і авечкам можна асвечанае даваць

68 В

*Зап. у 2003 г. ад Агрыпіны Філіпаўны Малёк, 1931 г. н., прав., 4 кл., в. Мачуль, Столінскі р-н, Брэсцкая вобл.*

<Конь> прогріз Ісусу Хрісту бока. І от Господь ёму сказаў:

– Ты будзеш век грызьці-грызьці, есці-есці, і ты ніколі не ноясі́со.

І вон і жуйкі не жуе. А света́ короўка – вона попасецца, і ляжэ, і стойлуе. І овэчэчка. А конь всю жызь – грізе-грізе і ніколі вон не нагрізецца.

*– А як гэта здарылася, што конь Ісусу Хрісту бок прагрыз?*

– Да як Вон маленечкім быў, Его за бок <конь> быў грізнуў. І так ёму Господзь даў, штоб вон гріз усю жызь, так воно гэток і осталосо.

Овэчочкі – светые, так як і худобінка.

---

[83] Рэмінісцэнцыя з гл. 10 Евангелля ад Іаана: "Я есмь пастырь добрый: пастырь добрый полагает жизнь свою за овец" (Ін.10:11).

## 68 C

*Зап. у 2000 г. ад Надзеі Купрыяновіч, 1928 г. н., прав., адук. не мае, в. Руда Яворская, Дзятлаўскі р-н, Гродзенская вобл.*

Ісус Хрыстос нарадзіўся ў хляве. І авечкі, і каровы на яго хукалі. І яны ад яго не атбіралі сена, а конь атбіраў. Таму ён ніколі і не наесца, і ніколі яму няма канца-меру. Ён і йдзе, і ўсё каб есьці і есьці. А карова мае воддых.

І вот праўда, конь есьць, есьць – і ніколі не пад'есьць. Вот мой сын на хвермі робіць. І вот, кажа, як я каня ні пасу, ён усё раўно. Начну запрагаць – а ён хватае тое, што бачыць… І ніколі не пад'есьць.

*– А ласіца каго ганяе больш?*

– Каня. І каня ж во неможна свянціць… Нечыстае жывотнае, конь.

*– А карове даюць свянцонае?*

– І свянцонае, ўсё. А каню нічога не можна свянцонага, бо ён незаслужаны, конь.

## 68 D

*Зап. у 2007 г. ад Марыі Уладзіміраўны Сасноўскай, 1932 г. н., 7 кл., в. Ухвала, Крупскі р-н, Мінская вобл.*

Дак конь з-пад Яго салому, дак ён еў! Еў Яго і аб'еў. І от ён есь, і есь, і есь. І от такое абжорства. Авечка, вот, і карова, от яна Яго не аб'ела, яна Яго закрыла.

*– А каровы і авечкі ад каго закрывалі: ад каня ці ад холаду?*

– Не, ад холаду, канешна, Ён жа у кармушачцы быў. А карова есь, есь, а тады і жвачку пераржуе. І авечка, і каза. А конь не. Конь напрамую от. От у мяне конь: даю, і даю, і даю. У мароз так дужа многа сена трэба.

*– Казалі, што ў яго прамая кішка?*

– Прамая, да, прамая…

*– Так гэта таму, што з-пад Хрыста салому еў?*

– Да, да, да. Так яму і Бог даў.

*– А свяцонае можна даваць каровам?*

– Канешна, канешна.

*– А каню?*

– І каню. Ён жа трудзяга. Як мы трудзімся, так і конь трудзіцца.

68 E

*Зап. у 2003 г. ад Надзеі Сцяпанаўны Валынчык, 1938 г. н., прав., 3 кл., в. Кажан-Гарадок, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Калі Хрыстос нарадзіўса, а Вон нарадзіўса в яслях, в пэшчэрэ, на сене. Значыт, конь тое сено з'еў. От Бог обідзеўся на него і: горуй, працуй до поту ўсегда. А корова... Пасьвілі короўкі, воны ж не зайшлы в пэшчэру, онно пастухі зайшлы.

### Чаму карове асвечанае можна даваць

68 F

*Зап. у 2007 г. ад Сафіі Іванаўны Навойчык, 1920 г. н., катал., адук. не мае, в. Камяно, Вілейскі р-н, Мінская вобл.*

Карове можна свянцонае даваць, таму што яна стаяла і дыхала на Ізуса Хрыста, каб яму цёпленька было, а каню нязьзя.

### Чаму на Каляды сена пад абрус кладуць

69 A

*Зап. у 2003 г. ад Марыі Антонаўны Жыжа, 1938 г. н., катал., в. Савейкі, Ляхавіцкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Гавораць, што <жывёлы ў хляве> награвалі і хукалі, таму што холадна было. Іх, <Святое сямейства>, не пусцілі ніхто свае, не пусцілі ніхто ражаць у дом. І Яна мусіла ражаць там у гэтай шопцы ўжо. <…>

Гэта некалі была такая звычка: кладзём жа сена <на стол на Куццю>, а <…> ужо рана гэта сенца скручваем і нясем скаціне. Раніцай тата насіў, помню. Гэта з вячэры Божай, гэта ж бо Маці Божая ражала пры гэтым жывотным Хрыста. Тады ўжо гэта сено, яно было як святое ўжо на том стале, што мы вячэралі.

69 B

*Зап. у 2006 г. А.М.Боганева і Т.В.Валодзіна ад Маі Рыгораўны Маціеўскай, 1930 г. н., прав., 3 кл., в. Сокарава, Бешанковіцкі р-н, Віцебская вобл.*

Ісус Хрыстос радзіўся ў ясьлях на сене. Найсьвеншая Матка радзіла ў ясьлях. Вот і кажны год бацька прынясець сена. Такога мурожненькага, а тады пакрываем белым пакрывальцам. І тады стаўлялі на гэта ўсё. А назаўтра сабіраем гэта сенца і пакрошцы ўсей скаціне. І коням, і каровам.

69 С

*Зап. у 2006 г. А.М.Боганева і Т.В.Валодзіна ад Я.В.Кульбы, 1913 г. н., прав., адук. не мае, в. Валова Гара, Лепельскі р-н, Віцебская вобл.*

А к Калядам слалі сена. Ісус Хрыстос радзіўся ў яськлях на сене. Найсьвеншая Матка радзіла ў яськлях. Вот і кажны год бацька прынясець сена.

### *Чаму дзіця да году не ходзіць*

70

*Зап. у 2004 г. ад Фядоры Васільеўны Маркевіч, 1935 г. н., прав., адук. не мае, в. Тонеж, Лельчыцкі р-н, Гомельская вобл.*

Марыя родзіла Суса Хрыста. І Яна була бірэменна, і з еврэем була. А еврэі побачылі, шо вона бірэменна – такі грэх! І ўзялі і заперлі Яе пуд бале́й <начоўкамі>. Пуд балей, шоб людзі не бачылі. А Вона з тые болеі вылезла і пушла со Своім Молодзенцэм, і пушла, і пушла. І опунілася ў яськлях жэ, у овэчках. От затым увесь скот, як Бог на сьвет яго дае, увесь ходзіць на ногі. А дзіця родзіш – трэба год носіці, воно не ходзіць. Оттого, шо Вона поклала Свого Молодзенца ў яселькі. А Вон лежав довго. Шоб Вона Ёго не поклала, так бы людзі роджаліса і ходзілі, як от і корова, прымером, ходзіць, і сьвіння от, поросятко.

### *Чаму ёлку каля Плашчаніцы ставяць*

71 А

*Зап. у 2001 г. ад Феадосіі Матвееўны Карпенчык, 1923 г. н., прав., в. Пешкі, Бярозаўскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Я вам скажу, як Іісус Хрыстос народывсь – гэто тожэ було, такіе слухі булі. Это пальма ішла до Іісуса Хрыста, у ее, знаеш, такіе запахі прыятные булі, і вона гордылась, шчо я пойду до Іісуса Хрыста... А ялынка ішла, і <пальма кажа>:

– А ў тэбэ ніц нэма, толькі смола.

І так вона опустылась, так вона огорчылась – мне нэма з чым іты до Іісуса Хрыста… Вон маленькі був, Младенчык.

Ну, тая пальма пошла до Іісуса Хрыста із своімы гэтымі <запахамі> <…>. А ялынка вжэ ідэ такая огорчоная, шчо ў ее ніц нэма такого, у ее толькі смола… Іісус Хрытос обэрнувсь до ялынкі, повэрнувсь, подывывсь на ее… І бач, ялынка всэгда коло Іісуса Хрыста. От і зарэз на Вэлыкдэнь – коло плашчаніцы ялынка. А пальмы ж нэма!

*– А гэта Вы адкуль чулі?*

– Ну, такая молва була…

### *Чаму ёлку на Раство ўпрыгожваюць*

71 В

*Зап. у 2000 г. ад Ніны Бык, 1926 г. н., прав., в. Вербалаты, Слонімскі р-н, Гродзенская вобл.*

Як Спасіцель нарадзіўся і паставілі там пальму, кіпарос і ёлку. Гэта прынясьлі людзі ў жэртву. Ну, гэта дзярэўя харошыя былі, а ёлачка была бедненька такая, скромненька. І Мацер Божая сказала:

– Не пячалься. Ты будзеш <самая прыгожая>, – і на ёй засіялі такія звёздачкі на гэтай ёлачцы. – І ты будзеш усю жызьню ў пачоце, і будуць цябе прыбіраць.

І вот яе па сей дзень у дом нясуць на Раджджаство. Па сей дзень прыбіраюць. Это тожа чула.

### *Ёлка ўпрыгожваецца на Нараджэнне Хрыстова*

71 С

*Зап. у 2001 г. ад Марыі Паўлаўны Букраба, 1910 г. н., прав., адук. не мае, в. Ялова, Пружанскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Праз ёлку такее, значыт, украшэнье было. Як Младзенец радзіўся, то там такіе аганькі загарэліся харошые. <...>

*– Дзе яны загарэлісь?*

– Гэто значыт... Бачыце, памяці нет. У Віхлееме, ага.

### *Чаму асіна трасецца, зязюля кукуе, а павука нельга забіваць*

72

*Зап. у 2007 г. І.В.Мазюк ад Ніны Несцераўны Кулінкі, 1928 г. н., в. Хрыса, Бярозаўскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Подывысь на дэрво осовэ, як воно лякотыть. Осынка лякотыть. Як ужэ Божа Матер уродыла Сыночка свого, ну Його прыходылы тые <…> врагы, <каб забіць>.

А тоды ж тожэ так було: запысвулыся люды. От Вона пушла. Вона вышла замуж бірэменна. Господь сказав, шо Ты уродыш Сына, Суса Хрыста. А Вона кажэ:

– Як жэ, у Мэнэ мужа нэма!

<...> І вот Вона пошла, і Ее сталы шукаты. Ангел прылэтів, сказав, шо хавайся там і там. І Она хавалася. І вот Вона

ховалася, і усё помогало Ёй, усё. А пудыйшла до осыны, і осына нэ прыняла Ейі. І от вона тэпэр трасэцца, о.

А зозулька, як ужэ всэ ховалы, вона в гэтым місті стала куковаты, дэ Она ховалася, о. І Вона сказала:

– Будэш ты всю жызнь коваты.

Вона ўказвала вжэ гэтым розбойнікам, зозулька. І воны вжэ Ейі там шукалы. Ну, Господь спасав. <…> Павучкы. І павучкыв, кажуть, нэ можно быты. То як Вона ховалася, мо в хліві якім... То павучкы заснують, заснують усэ, шо нэма як і улізты.

## Уцёкі Святога сямейства ў Егіпет. Забойства немаўлят[84]

### 73 A

*Зап. у 2007 г. ад Ванды Браніславаўны Гедравец, 1922 г. н., катал., в. Селіцкія, Крупскі р-н, Мінская вобл.*

Фараон у то врэмя перад Раждзеством царстваваў там у Ізраіле. Ну і фараон даў такое ўказанне: ўсіх дзяцей да трохлетнега возраста выразаць. Ну і тады святы Юзэф, каторы быў аблюбённы Марыі… Яны скрываліся, ездзлілі, дзе-та Батлеем, мястэчка такое было. І прышлося Ёй радзіць у сарайчыку, дзе авечкі стаялі. І там жолаб называўся такі, дзе сена авечкам ложуць, там Яна радзіла Ісуса Хрыста. І так і вырасьціла. І Ён пераязжаў па тых странах з мест на места. <…> Хацелі Яго ўністожыць, Ён жа быў Владзелец Ісус Хрыстос, <…> эта Сын Божы.

### 73 B

*Зап. у 2004 г. ад Таісы Аляксандраўны Мастыкінай, 1930 г. н., прав., 3 кл., в. Парэчча, Акцябрскі р-н, Гомельская вобл.*

– Аньгел сабшчыў Іосіфу, што бяжы, і Рабёнка, і пяшком, ноччу, як можаш уйдзі туда.

*– А чаго Яго трэба было хаваць?*

– Ат Ірада! Ірад уладзеў усім мірам. Сказалі, што народзіцца такое і такое, і ўжэ будзе там... Ён загадваў дажэ, каб жэншчынам грудзі атразалі, штоб не ўскарміла! Усіх младзенцаў паліў гэты Ірад. А Ангел сабшчыў гэтаму Іосіфу, і Іосіф скрыўся.

---

[84] Мф. 2:13–15.

73 C

*Зап. у 2007 г. ад Марыі Уладзіміраўны Сасноўскай, 1932 г. н., 7 кл., в. Ухвала, Крупскі р-н, Мінская вобл.*

А Юды мучылі Яго. І дажа рабёначкам Яго іскалі, і дажа дзяцей выбівалі, каб і Ён папаўся. А Ён не папаўся. Яго Прасвятая Багародзіца вынесла ў пустыню.

73 D

*Зап. у 2007 г. ад Соф'і Браніславаўны Закавіч, 1935 г. н., катал., 3 кл., в. Любань, Вілейскі р-н, Мінская вобл.*

А цар Юдзейскі, Ірад, выправіў войска, штоб гэта Дзіця ўбілі. Ну, яны прышлі, нашлі, но не ўбівалі. А Ірада далажылі, што не нашлі. Тады ён загадаў у гэтым горадзе, каб да пяці гадоў выразалі ўсіх мальчыкаў. Ну і выразалі. Пяць тысяч дзяцей, мальчыкаў.

## ***Як пальма пахілілася і крыніца стала біць***

74

*Зап. у 2008 г. ад Аляксандры Васільеўны Адзесенкавай, 1918–2010, прав., адук. не мае, нар. у в. Стары Шклоў, Шклоўскі р-н, Магілёўская вобл., жыла ў Мінску.*

І вот яны ішлі, ішлі, ішлі… Зайшлі ў пустыню, шчэ і ў лес… Эта кагда ўжо пад Іерусалім. І селі на госля. А пальма, пальма <стаіць> вісока. І гаворыць <Божа Маці Іосіфу>:

– Можа б ты сарваў якіх фінікаў?

А ён гаворыць:

– А куда ж я ўзлезу? Я ж не ўзлезу! Я не магу, я ж стары, куды ж я ўзлезу?

А Гасподзь сасаў грудзь у Мацеры Божай. І Гасподзь ґаварыць:

– Пальма, скланіся!

І пальма тая легла. Ну вот яны наеліся гэтых тамака ігруш, гэтых фінікаў і гаворыць:

– Ай, как піць хочацца!

Дзе сядзела Мацер Божая, там стал існочнік. І наш быў Піцірым там, на тым існочніку. Мітрапаліт быў. Так ён на той сточнік едзіў, када быў у Ерусаліме. Казаў:

– Пальма ляжыць… Ляжыць прыгнуўшыся. І існочнік вады.

**_Адкуль абраз "Траеручыца"_**

75 А

*Зап. у 2006 г. А.М.Боганева, Т.В.Валодзіна ад Праскоўі Андрэеўны Вінагаевай 1928 г. н., прав., в. Капані, Чавускі р-н, Магілёўская вобл.*

Божая Маці ішла і спасала Сына. Ішла чэряз моря. "Ой, Госпадзі, дай треццю руку!" І Госпад даў треццю руку. І Яна перанесла.

75 В

*Зап. у 2006 г. ад Надзеі Трафімаўны Сушчэні, 1927 г. н., прав., 4 кл., в. Пласток, Любанскі р-н, Мінская вобл.*

Ну, я это чула. Хацелі ж Хрыста забіць. І Ён жа хаваўся. І дажа Іосіф прэпадобны, ён жа тожа не хацеў жыць із Марыею, што не яго Дзіця. А это ж Бог даў Ісуса Хрыста! Не ат мужыка. Дак Яна ж усё хавалася з Ім. Дак вот жа ж казалі, я не бачыла сама, але, кажуць, ікона ёсьць – тры рукі. Дак Яна адной Дзіця дзяржыць, а другой плыве. <Трэцюю руку> то Бог так даў, каб Дзіця спасла.

**Сустрэча з разважлівым разбойнікам**[85]

76 А

*Зап. у 2001 г. ад Марыі Паўлаўны Букраба, 1910 г. н., прав., адук. не мае, в. Ялова, Пружанскі р-н, Брэсцкая вобл.*

І <валхвы> прынеслі Ей падарков много, разного-разного всего. <...> А ім Ангел стаў і сказав, коб оны другім пуцем пашлі, коб до Ірода не ворочаліса. Значыт, воны другім пуцем пошлі вжэ обратно, в свое дома пошлі.

А Ірод ужэ так разозлівса, што младзенцаў гэтых чатырнаццаць тысяч убів воінамі, вот. А Мацер Божая падаркі тые ўжэ раздавала начальствам... Адразу пастухом. А после начальствам давала, бедным людзям раздавала тое чысто все. Як ужэ воны раздалі чысто все, воны пашлі вжэ в пустыню. Ужэ пашлі ў пустыню, далеко-далеко пашлі. <...>

А там на дарозе, як ваны йшлі – то гэто осла Іосіф в'ёў, Мацер Божая сідзела – там із-за камняў выйшлі два чалавекі. Із-за камней вышлі, і падышов одзін і кажэ:

[85] Сустрэча разбойніка або Маці Божай з немаўляткам-Хрыстом – пераказ адной з версій Свяшчэннага Падання. У Евангеллі ад Лукі разважлівы разбойнік упамінаецца ў сувязі з распяццем Хрыста (Лк. 23:40-43), які раскаяўся і ўвайшоў у рай.

– Стой, астанавіса!

Астанавіліса. Выйшлі два:

– Аддавай нам дзеньгі! Усё, што ў цебе імееш! Аддавай нам.

А вон кажэ, Іосіф:

– Мы беднякі із Назарэта. У нас нет нічаво. Вазьміце асла. Не абіжайце нас за гэтэ. Вазьміце асла маего.

А в тую пору Младзенец прачнувса, і з улыбкай, на руках... Той самы, каторы палач быв, задрыжав. І кажэ на того <другі палач>:

– Што ты, Кена́і, іспувгаса? Невжэлі ты дзецей не відаў? Нас ужэ давно полчэ жджэ покончыць это дзело. А ты яшчы разгаварваеш!

А вон гаворыт:

– Стой, астанавіс! – апусціў меча і гаворыт: – Мне такое... Ты знаеш, мене <….> ліцо Его <….> поразівса. Еслі б Сам Бог нарадзівса, то красівейшы не быв бы за гэтого! Я не магу пасячы гэтаго. Пусьць воны ідут з міром.

А Мацер Божая кажэ яму так:

– Кенай, жджы ад Младзенца награду! За тэе, што зашчысціў Яго!

А той, <другі палач>, кажэ :

– Лоўка Кеная провелі. Кенай, от лоўко провелі <цябе>.

А вон кажэ:

– Знаеш шчо? Мне гэтае ўстрэчы не забыці.

І вон стояв і дзівівса, дзівівса, покуль аж отрок і скрывса, куды воны пошлі. І Кенай выглядав Яго. <...>

І вон попав по праву сторону разбойнікoм. Той, што Яго скрыв. Вот і награда яму. Сказав Господзь:

– Будзеш со Мною в раі.

От як. То говорат, я чытала у Брэсці...

76 В

*Зап. у 2002 г. ад Меланьі Музалевай, 1936 г. н., прав., 4 кл., в. Карабы, Ашмянскі р-н, Гродзенская вобл.*

Як Ірад-цар аб'явіў, што дзяцей выразаць да трох лет усіх, аньгел явіўся Гаврііл Осіпу і сказаў:

– Уцякай. Едзь у Егіпет. Бяры Марыю, Младзенца, едзь у Ягіпет.

І вот яны на осьліку атправіліся. І ў горах выйшлі два разбойнікі. І вот яны зайшлі ім наўстрэчу. І адзін разбойнік

ужо хацеў іх ссячы, а старэйшы разбойнік глянуў на Младзенца, і сказаў на другога, рукой махануў:

– Стой! Я такога младзенца нікагда-нікагда не відзеў, такой красаты. І я іх астаўлю.

Як ад'язджалі, Марыя, Маць Божая, гаворыць:

– За эта Вам када-небудзь атблагадарыць Мой Сын.

І вот яны пусьцілі. А малодшый стаў хуліць на яго ўсяляк.

– Вот ты атпусьціў! А можа яны там злота мелі, і асла мелі б мы. А ты чакай, чакай, пака ён цябе атблагадарыць!

Ну вот, прайшло многа-многа врэм'я. Кагда расьпіналі Ісуса Хрыста, расьпіналі і двух этых самых разбойнікаў. Едінага одесную і едінага ошую – іх расьпіналі. І вот гэтат старэйшы разбойнік, каторы атпусьціў іх <некалі>, глянуў на Яго і думае: "Дзе-та я гэтага чалавека відзеў. Калі... Ну как будта мне глаза знакомыя". А малодшы гаворыць на Яго:

– Ты, есьлі тварыш сам сябе Бога, іных спасаеш – спасі сябя і нас спасі. А то ты толькі ўсё прадстаўляеш, што ты Бог.

А другі гаворыць яму:

– Зачэм ты чалавку дакучаеш? Он невінен страдает, а мы с табой разбойнікі і страдаем за тое.

І ўсё-такі ён глядзіць на Яго, <Хрыста>, і думае: "Ну што ж так глаза знакомые?" І ён поняў тагда ў душэ, што гэта Гасподзь, Ісус Хрыстос. І гаворыць Яму:

– Божэ, міласьців будзь мне, грэшнаму! – папрасіў Яго.

А Ён сказаў:

– Амін, глаголю табе, сягодня ты са Мною будзеш радам у раю.

## 76 С

*Зап. у 2003 г. ад Мікалая Антонавіча Ракаўца, 1926 г. н.; Лізаветы Гаўрылаўны Ракавец, 1924 г. н., прав., в. Аздамічы, Столінскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Когда, значыць, Господ родіўсо, цар Ірод разгневаўсо. Вон думаў, што будзе царствоваць над народом, да хоцеў убіць Ёго. Аж воно не так, Хрыстос – цар усёго міра. І когда Ёсіпу ангел явіўса во сне, сказаў:

– Бері Младзенца, і бегі в землю Егіпецку, ібо, – кажэць, – ішчуць душу Младзенца погубіць.

Значыць, вон взяў і пошоў. Ноччу ішоў. І, кажуць, <сустрэў> этого самого розбойніка, шчо когда роспіналі Ісуса Хріста, по <…> по праву сторону <з Ім быў распяты>.

Кагда Богородзіца ўходзіла, зашла к сем'е, дзе той разбойнік, маленькі. Вон лежыць да плачэ. А Маці Богородзіца кажэ:

– Дайце мне ёго сюды.

Да дала ему своіх грудзей, штоб вон поссаў. І так вон заснуў. Спіць. Прышоў оцец того розбойніка з роботы да і кажэ:

– Што это нашэ дзіця, оно век крычыць, а <то> спіць этак хорошэ?

А мацы кажэ:

– Эта жэншчына дала грудзі ёму.

І пероночовалі оні, і пошлі в Египет. Там воны булі в Египце до гібелі Ірода. Тогда Господзь наслаў таку болезнь на ёго, што вон жывы, а чэрві ёго з'едалі, з'едалі жывым, штоб вон побачыў, што за страданіе. І когда вон пом'ёр, зноў той самы ангел явіўсо Ёсіпу:

– Ідзі-ка, беры Младзенца, ідзі в землю Ізраілеву.

<…> А Іродоў сын ужэ заступіў, Архелай, вместо отца своего. Так ёму, <Ёсіпу>, значыць, прісьнілос: ідзі в землю Ізраілеву. Так он пошоў в землю Ізраілеву, в город Назарэт. І так і пішэцца, ібо так сказано: "Назарэй нарочэцца". Когда Ісуса Хріста мучылі, кажуць: Ісус Хрістос Назорэй. <...> Роспіналі, значыць, і роспялі розбойніка. Так розбойнік одзін кажэ:

– Як бы Ты, – кажэ, – Сын Божы, так спас бы Сам <Сябе> і нас, штоб не мучылі.

А эты, которы поссаў грудзі Ёго Мацер, Богородзіцу, кажэ:

– Шчо ты, – кажэ, – Бога не боісса? Мы по нашым дзелам достойны, а Эты – невінны.

Кажэ:

– Поменеш, Господзі, во Царствіі і мене Небесном, когда будзеш на Небесах.

А Господзь ёму отвеціў:

– Отныне будзеш со Мною в раю.

І вон пошоў с Ісусом Хрістом розбойнік в рай. Вот тобе. На кресце покаяўса, і Господзь пов'ёў ёго з Собой в рай.

### *Як Хрыстос вылечыў дзіця разбойніка*

76 D

*Зап. у 2008 г. ад Аляксандры Васільеўны Адзесенкавай, 1918–2010, прав., адук. не мае, нар. у в. Стары Шклоў, Шклоўскі р-н, Магілёўская вобл., жыла ў Мінску.*

Ну вот. І прыйшлі яны ў пустыню, а ў пустыні ўстрачаець іх разбойнік. І гаворыць:

– Ідзём ка мне на дом.

І прыводзіць іх на дом, і сказаў другім бандзітам:

– Не выпускайця, пака я не прыйду.

А Мацер Божая гаворыць на яго жану:

– Можа б Вы пагрэлі б вадзіцчкі, пакупаць Мне Рабёначка.

А яна гаворыць:

– Сагрэю.

А ў іх быў Варава, што на хрысце казаў: "Памяні мяне, Госпадзі, ва Царствіі Тваём!" І быў <тады> маленькі. І быў увесь у больках. Болькі-болькі былі на ім, на гэтым дзяцёнку. Ну і пайшоў сам <яго бацька-разбойнік> і сказаў слугам:

– Не пускайця іх, пакуль я не прыду.

Думаў, што яны можа багатыя, што золата ў іх… І вот яны заначавалі ў іх. Заначавалі, памыла Яна Свайго Госпада Ісуса Хрыста, Мацер Божа, патом гаварыт:

– Давайця і Вашага мальчыка пакупаю.

Узяла купаць гэтага Вараву. Пакупала гэтага Вараву – у Варавы ўсе болькі сышлі! Стаў чысьценькі, харошы, сьпіць. Жонка ўстрэчаіць наутра разбойніка:

– Какіх ты прыв'ёў харошых людзей!

А ён:

– Што?

– Пасматры, какой наш Варава чысьценькі! Гэта Жэншчына пакупала Свайго Мальчыка, і Вараву пакупала.

Ну і вон тады ўжо атпусьціў іх.

– Ідзіця!

76 E

*Зап. у 1999 г. ад Леакадзіі Кудрыцкай, 1923 г. н., катал., в. Талькаўцы, Ваўкавыскі р-н, Гродзенская вобл.*

Расказывалі, як калісьці Пан Езус хадзіў па зямле і людзей навучаў і ўздраўляў. Зайшоў да анных у хату, а там быў мужык яе бандыта, а яна дзіця радзіла, тая жонка. А Пан Езус прыйшоў, такі абарваны быў… І просіцца:

– Вазьміце Мяне на нач.

А яна кажа:

– Не, не вазьму, бо баюса. Бо мой мужык бандыта, ён як прыйдзе, то заб'е Вас.

А Пан Езус кажа:

– Та нічого, я тут у куточку пасяджу. І як ён прыйдзе, то я буду бачыць.

А яна дзіця купала. А ў яе дзіця было такое трандаватае, такое ўсё, як кара́ было, тое дзіця. А Пан Езус прыйшоў і палянуў на гэтае дзіця і кажа:

– Але ж Ваша дзецко надто ўжо трандаватае. Чаму ў яго такая кожа?

А яна кажа:

– Ну, я не ведаю, чаму яно гэткае.

Пан Езус ёй сказаў нагрэць вады, і ўзяў Пан Езус гэтае дзіця выкупаў. Выкупаў, і гэто дзіця стало чыстае, харошае, як нічого не было. І сам Пан Езус сабраўся і пайшоў. А прыйшоў мужык і кажа:

– Хто ў нас быў?

А яна кажа:

– Нейкі жабрак хадзіў. Я дзіця купала, а ён палянуў, што дзіця надто гэтакое, як кара. Ён мне яго выкупаў, і яно стала акуратнае.

А ён кажа:

– Чаго ты <яго адпусьціла>? Няхай бы ён пабыў, пакуль я прыйшоў. Я б хоць палянуў, што то за чалавек...

## Удзел жывёльнага і расліннага свету ва ўцёках Святога сямейства ў Егіпет[86]

### *Чаму павука нельга забіваць*

77 A

*Зап. у 2002 г. ад Валянціны Андрэеўны Казакевіч, 1925 г. н., прав., хутар Дракі (каля в. Каты), Смаргонскі р-н, Гродзенская вобл.*

---

[86] Усе легенды гэтага цыкла – народна-апакрыфічныя. Жывыя істоты свядома ўдзельнічаюць у евангельскіх падзеях і ў залежнасці ад паводзін у час гэтых падзей набываюць уласцівасці на ўвесь наступны час. Легенды з гэтым тыпам сюжэтаў вельмі распаўсюджаныя і папулярныя зараз у Беларусі. найбольш выразная рэгіянальнасць гэтых сюжэтаў прасочваецца на заходніх тэрыторыях: Панямонні. Заходнім Палессі.

Ну патом Яна жыла ў старца вот такога старога. <...> І радзіўся Ісус Хрыстос. А як пачуў Ірад-цар і сказаў ад года да трох убіваць усіх младзенцаў. Дзевачак не, а толька мальчыкаў. Ну і сталі, воіны праходзілі, выбівалі ўсіх-усіх. Тады Божая Мацер пачула гэта, ну, яны сталі ўбягаць. Селі, Іосіф пасадзіў Яе с маленькім Ісусам Хрыстом, пасадзіў Яе на аслёнка і яны паехалі. Ехалі-ехалі, ну дзе ж схавацца? Яны ж усюды-усюды. Заехалі яны – пяшчэра была там. Кажа <Божая Мацер>:

– Можа тут не найдуць нас? Ну, але ж нікуды не буду дзявацца дальшэ.

Яны там ужо палажылі Ісуса Хрыста ў такія ясселькі, ага. А павучок за ноч аснаваў усё гэта атверсьціе, дзе гэта ўваходзіць было. Ну і воіны праходзілі, яны ж не міналі нічіво. Тады адзін з воінаў кажа:

– Пайдзём сюды паглядзім, што там у гэтай пяшчэрэ?

А другі кажа:

– Чаго ж мы пойдзем, дзе ў цябе галава? Каб жа ж яны йшлі, павуціньне б зьнясьлі!

І так астаўся Ісус Хрыстос.

77 В

*Зап. у 2001 г. ад Лідзіі Дзмітрыеўны Чапленка, 1926 г. н., 4 кл.; Марыі Іосіфаўны Сцепанюк, 1938 г. н., 8 кл.; Пелагеі Лук'янаўны Белавец, 1930 г. н., 6 кл.; Ганны Сцяпанаўны Ігнацюк, 1938 г. н., 6 кл.; Вольгі Іванаўны Пракапюк, 1939 г. н., 7 кл.; Кацярыны Аўрамаўны Раздарожнай, 1928 г. н., 3 кл., усе прав., в. Дубіца, Брэсцкі р-н, Брэсцкая вобл.*

– Дід був Онуфрій. Казав, шо нэ можно павука забываты, бо за ёго сорок грэхів будэ. ... А за шчо, чого – то я нэ знаю.

– Павукы сплэлы такую сетку, шо тые забойцы, шо хотілы взяты <Божу Маці>, воны нэ бачылы. То благодаря павукам.

– За павутой засновалы до такой степэні, шо нічэго не было відно.

– Божу Матер закрылы.

*– А дзе Божа Маці была?*

– На дорозі, утікала. А войско йшло – догоняло, шоб забыты. Так павукі закрылы, закрылы, павутою заплэлы.

– Я чула, шо нэльзя поэтому павука быты.

77 C

*Зап. у 2000 г. ад Зінаіды Русак, 1926 г. н., прав., адук. не мае, в. Бярдовічы, Слонімскі р-н, Гродзенская вобл.*

Вот, прымерно, <Божая Мацер>, Яна йшла, уцякала. І лес быў ілі што... І за Ею гналася такая банда, каб Яе ўністожыць. І Яна дабегла, там уродзе ямка ці тое дупло, а тыя вот-вот. І Яна неяк прысела так у сторанку, што Яе не відно было. І павук уматаў сільно. Яны падходзяць:

– Тут яна недзе прапала тая баба, што мы даганяем.

А другі кажа:

– Нет, каб яна сюды палезла, яна з сабой ба павуту панясла. А гэты павут цэлы.

І яны мінулі Яе. І Яна асталася жывая. І вот павука не ўбіваюць. Ён спос Божую Маць.

77 D

*Зап. у 2002 г. ад Яніны Лазовіч, 1934 г. н., катал., в. Альхоўка, Астравецкі р-н, Гродзенская вобл.*

*– Чаму павука забіваць нельга?*

– А таму, што як Матка Боская ўцякала з Панам Езусам, і выкапана была яма, каб яна ўвалілася і прапала з Дзіцям гэтым. А павукі сабраліся, згаварыліся, і яны ўзялі павучыньнем гэтым, як посьцілкай засьцялілі, засьцялілі. Матка Боская з Дзіцяткам на павучыньне гэтае села і прасядзела датуль, пакуль яе шукалі і йшлі, каторыя Пана Езуса бераглі. Яна на гэтым павучыньні задзяржалася.

Гэта ўжо даўнейшае-прадаўнейшае.

### ***Чаму павука, сабаку і ката нельга біць, а ёлку ўпрыгожваюць***[87]

78

*Зап. у 2001 г. ад Соф'і Якаўлеўны Завіжэнец, 1922 г. н., прав., 6 кл., в. Ялова, Пружанскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Калі ж Божа Мацер породіла Іісуса Хрыста, то Вона ж ховаласа, ходіла. Ховалас скрозь, з месца на месца пераходзіла з Маленькім, бо Яго шукалі, хацелі ўбіць. Вона под ёлочку

[87] Арыгінальны матыў пра сабаку, якая не дапусціла ворагаў у хату, дзе схавалася Святое сямейства. Кот у сапраўдным кантэксце з'яўляецца як пара з сабакай у сувязі з этыялагічнай легендай "Чаму колас ад зямлі не расце", дзе кот і сабака выпрасілі ў Бога пакінуць колас хоць на іх долю.

стала, і ее павук аплёў павуціннем усю кругом тую ёлачку. І вона там сядзела ўсё ўрэм'я. <...> Анно гэта чула. Павук абплёў і закрыў. І тым ставят ёлкі зарэ, ўбірают в разные цацкі... І павука тым не можна біць, бо вон спас Ісуса Хрыста.

І сабаку не можна біці. А собака тожэ не допускав врагов. І ката не можна біці. Як воны зайшлі в хату, то ж врагі шукалі. Собака не допусців.

*– А яны ў хаце схаваліся?*

– Ага. Не дапусціў.

*– А ката чаго?*

– Выпрасіў у Бога кусок хлеба. Кот. Вот. За тым ката не можна біць.

*– А выпрасіў у Бога для каго кусок хлеба?*

– Для ўсіх людзей. У голад. А большэ я ніц нэ знаю.

### *Чаму павука нельга біць, а пад ядловец можна ад навальніцы хавацца*

79

*Зап. у 2000 г. ад Ганны Рыдлоўскай, 1942 г. н., прав., 7 кл., в. Вендзавец, Дзятлаўскі р-н, Гродзенская вобл.*

Шукалі жыды Ісуса Хрыста, хацелі забіць. І казала бабуля: "Глядзі, дзіця. Як будзеш у лесе і стане грымець ці што, хаця ж не садзіся пад высокія ёлкі, хвойкі, а садзіся пад елавец – мажэвельнік".

Бо Марыя з Ісусам хавалася. Ну, а за імі гналіся. І яна пад гэты ялавец села, і павук заплёў-заплёў павуціннем. І яны як ішлі – ну, стаіць куст і стаіць. І прайшлі. І кажуць, што ў гэты куст ні гром, нішто не страляе. Ну, і затым счытаецца, што павук святы. Прагнаць яго можна, но забіваць, кажуць, няможна. Я так і не б'ю, і дзецям казала.

### *Чаму асіна трасецца, бярозку на Тройцу, а ёлку на Каляды ў царкве ставяць*

80 А

*Зап. у 2001 г. ад Веры Антонаўны Друшчыц, 1935 г. н., прав., 4 кл., в. Ціхны, Бярозаўскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Божая Маті ховалася з Сыночком – утэкала, як іх ловылі тые бандыты, забыті хотілі. І Вона ховалася і просыла, каб якое дрэво Ее сховало. Осына зьлякалас і стала трэстіс, і трасецца до сіх пор. Вона просыла под бэрозку, коб бэрозка

закрыла Ее. Вот бэрэзэнька і зарэ... Зогнулас, хотела схоавати... Інша е нагнута така бэрозка, а е прамая. І то нэ могла зогнутыся вся бэрозка, коб сховаты Божу Матэр. Она побегла до ёлочкі, і ёлочка роспустыла своі лапкы, вэточкі, і сховала Божу Матэр. І тые бандіты нэ нашлы. І вот бэрозку, што хотела сховать Божу Маті, на Тройцу ставять у цэркві, а ёлочку ставять на Коляды, і, о, на Новы год стоіть ёлочка в цэркві тожэ.

### *Чаму павука нельга забіваці, асіна трасецца, а ёлку ўпрыгожваюць на Новы год*

80 B

*Зап. у 2007 г. А.М.Боганева і Т.В.Валодзіна ад Марыі Міхайлаўны Ждановіч, 1932 г. н.; Агаф'і Карпаўны Богданец, 1929 г. н., в. Вулька-1, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Жыды шукалі Іісуса Хрыста. Под дзераво сіла <Божа Маці>, а павук засновав тэе дзерво, коб вот ішлі і не ўгледзелі Божу Мацер с Іісусом Хрыстом. Вона сховалас пуд йілочку. Хоціла пуд ето, як у нас церусіцца, осіну. А осіна не схоціла, коб сіла там Божа Маці. А пуд ёлкою сіла, ёлка опусьціла лапкі, а павук засновав. І вот за гэтым, кагэ, ёлку ставімо, і все. І павука не можно біць за гэто, шо павук спас Божу Мацер.

– *А гэта казка ці праўда?*

– Это правда!

– Кагуць, правда, а Бог ёго ведае.

– Ну, чому ж ніправда! От і ховавса Ісус Хрыстос! Вона ж у сарае вродзіла Іісуса Хрыста да ховаласа ўсюды.

– А осіну Біг покарав, вона всэгда церу́сіцца. Ідзі, вона всё шастае і шастае.

– А ёлочка опусьціла лапкі, а павук засновав павуто́й, як будто німа нікого.

### *Чаму асіна трасецца, а ёлку на Каляды ў царкве ставяць*

80 C

*Зап. у 2001 г. ад Варвары Лаўрэнцьеўны Чатырбок, 1912 г. н., прав., адук. не мае, в. Аранчыцы, Пружанскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Это-то я ўжэ чула, много росказувалі, для чого ёлку став'ят на Рожэство. <...> Як ішла Божа Маці із Хрыстом, Вона ховаласа. І подошла под осіну і кажэ:

– Осінка, осінка, накрый Мэнэ.

А осіна затрасласа і нэ схотела Яе накрыті. І так осіна тэпэро... От побачтэ, дэ осіна, і трасэцца на ёй ліст всю жызню. Потом бегла Вона под ёлку і кажэ:

– Ёлочка, ёлочка, накрый Мэнэ.

А ёлочка опустіла голля і прыкрыла ее с Ісусом Хрыстом, і ўжэ на той ёлочцы паказваліся разные ігрушкі, і Хрыстос смэявся. Ужэ став і смэявся під гэтые. І вот, кажуть, з-за того тэпэря гэту ёлку став'ят. Хрыстос дівывся і смэявся.

### *Чаму калядную ёлку нельга выкідаць у двор*

80 D

*Зап. у 2007 г. А.М.Боганева і Т.В.Валодзіна ад Марыі Раманаўны Лабко, 1933 г. н., прав, 2 кл., в. Вулька-1, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

І ёлочкі, шчо свяцяць на Коляды, нельзя выкідаць на двор. Это, считаецца, Божа Маці, як мучыць Хрыста хоцелі, то Вона кругом Його ховала, Дзіця Свое. Вона пыд осінку – осінка затрослась, нельга заховаць; Вона пыд ёлочку, а ёлочка лапкі опусціла і накрыла Його. Вот для этого і радзяць ёлочку.

*– А асінка затраслася, і што?*

А Бог сказав, то ты будзеш усю жызню трасціса. Вот як у лісе, то прыдзівіцесь, осіновые лісця і церусяцца, і церусяцца, чы віцер, чы нема вітру, то вона церусіцца. А ёлочка – ціхонька. Вона заслужаная, на Коляды <ставяць> на площчадзі. Вот некоторы, знаеце, не понімае, да высуне, выкіне. Так не можна. Вот у міне була ёлочка тожэ, я взяла посікла, посікла, да й спаліла, хай ідзе дымом да Бога.

### *Чаму асіна трасецца, а пад ляшчыну ў час навальніцы хавацца можна*

81 А

*Зап. у 2002 г. ад Станіслава Пазлевіча, 1920 г. н., катал., в. Маркуны, Астравецкі р-н, Гродзенская вобл.*

Асіна дрыжыць, бо калі Пан Езус нарадзіўся, быў жыў Гэ́род, такі кароль. І сказалі Гэроду, што Пан Езус будзець на ета <яго> мейсца. Так Гэрод заказаў у сваім гасударстве выразаць усіх дзяцей. А як Пан Езус жыў сьвяты, так ганёл разбудзіў, і каэць:

– Уцякайця!

І яны паехалі ў другі бок. А гэтыя Гэрода салдаты даганялі. Так яны прыйшлі пад асінку:

– Асінка, асінка, схавай нас пад свае лісты!

А асінка каэць:

– Я баюся, расьсякуць мяне.

Тады Ён прыйшоў:

– Ляшчынка, ляшчынка, схавай мяне!

Ляшчынка распусьцілася, схавала іх. І сказаў тады <Пан Езус>:

– Ты, хоць ветру не будзет, але ўсё раўно будзеш трасьціся цэлы век сваімі лістамі.

– За тое, што не схавала Пана Езуса, як уцякаў Ён, яна трасецца.

*– А ляшчынка?*

– А ў ляшчынку хавайся, пярун ніколі не стрэліць. У другое дрэва стрэля, а пад ляшчыну, есьлі есьць граза ці што, – хавайся, ні за што не дасьць.

***Чаму асіна дрыжыць, а арэшнік на Вербніцу асвячаюць***

81 B

*Зап. у 2002 г. ад Леакадзіі Рыпінскай, 1934 г.н., катал., 4 кл., в. Пагарэльшчына, Смаргонскі р-н, Гродзенская вобл.*

Мне цётка Галька ўсё расказывала пра асіну. Як Матка Боская хавалася з Дзіцёнкам. Дык пад арэшынку – і абкрыла ўжо арэшынка. А пад асіну зразу – асіна не прыняла. <…> Так яна вот і трасецца, асіна гэтая. <…>

Вот за тое і цяпер арэшнікі, мы яе ў вербачку ломім. Як вербачку сьвянцаем, арэшнічку ўсягды. Выражам сучок вербачкі і арэшнічку ўсягды, ўсягды. Тады вот як бура ці што, так на акно ставім.

***Чаму асіна трасецца, а арэхі смачныя***

81 C

*Зап. у 2008 г. Т.І.Кухаронак ад В.К.Пілipёнак, 1938 г. н., катал., 7 кл., нар. у в. Якушава, Глыбоцкі р-н, жыве ў в. Мураўшчына, Полацкі р-н, Віцебская вобл.*

Жыды хацелі ўбіць Ісуса Хрыста маленькага. Ну вот, Ён хаваўся. І, гаворац, як толькі Ён пад асіну – яна трасецца ўся. І Божанька сказаў:

– Ты будзіш увесь век трасціся.

А пад арэшнічак схаваўся. і Яго арэшнік, ляшчыннік, усяго-усяго закрыў сваімі веткамі. І Божанька сказаў:

– У цябе будуць такія плады ўкусныя, смачныя, з этага твайго дзерава. І ўсе будуць есці, і после яды ніколі чалавек не наесца тваіх пладоў.

І праўда, хоць пад'еўшы чалавек – усё роўна будзе есці арэхі. Такія яны смачныя. Ядуць і хочацца. Гэта Божанька так зро́біў.

### *Ёлка – дрэва Хрыста*

82

*Зап. у 2002 г. ад Марыі Феліксаўны Карпіцкай, 1943 г. н., катал., 8 кл., в. Ізабэліна, Астравецкі р-н, Гродзенская вобл.*

Мама расказывала, што во, есьлі расьце ёлка, яна значыцца ні́гдэ не вяне, яна зялёная-зялёная. Зімой і летам зялёная. Гэта выходзя, як дрэва Пана Езуса. Вот каля нябожчыка трэба ёлачку ставіць, бярозка – гэта ўжо да другога дзела. Гэта вот Пан Езус аставіў для нас памяць.

### *Чаму цыганам дазволена не працаваць*

83

*Зап. у 2000 г. ад Галіны Захарчук, 1948 г. н., прав., заг. клуба, в. Бярдовічы, Слонімскі р-н, Гродзенская вобл.*

У той час, калі Мацер Божая з Ісусам уцякала ад Ірада-цара… Ну лавілі ж, хацелі выбіць. Хто памагаў, хто не памагаў… Цыгане во тожа аказалі помашч у той час, як ана скрывалася. Цыгане схавалі Яе, і не найшлі там Яе. І во па сей дзень Бог так ім дае, што яны будуць жыць харашо і не работаць. І іх дажа грэшно адпускаць з хаты і не ўгасьціць.

### *Чаму зязюля сваіх дзяцей не мае, а павука не можна біць*

84

*Зап. у 2002 г. ад Ванды Нагорскай, 1926 г. н., катал., 5 кл., в. Шутавічы, Смаргонскі р-н, Гродзенская вобл.*

Чаму сваіх дзяцей зязюля не мае? А вот яна за тое не мае сваіх дзяцей. Як Матка Боская пайшла ў Ягіпет, Юда ж ужэ выраза́ў дзяцей, і вот Яна схавалася пад дрэва. А павук узяў і зацягнуў павуцінай усё. А як гэты Ірад лётаў, шукаў, паглядзеў і кажа:

– Тут няма, бо павуціньне цэлае, непарванае.

А зязюля прыляцела і: "Ку-ку, ку-ку!" – над гэтым дрэвам. Гэта што там ёсь. Яна <Матка Боская> тады сказала:

– Каб ты сваіх дзетак не мела, як ты Мяне прадаеш!

Ну, а гэныя Юды так і праляцелі. І цяпер зязюля дзействіцельна сваіх дзяцей не мае. Сваё яечка ў любое гняздо кіне і вот выседжваюць маленькія птушкі яе дзетак, а яна сама не выседжвае. А павука з тых пор, кажуць, не можна біці. А вот, пад якое дрэва яна схавалася, не помню.

### *Цуд з пшаніцай*[88]

85 А

*Зап. у 2001 г. ад Кацярыны Пятроўны Супрунюк, 1935 г. н., прав., 5 кл., в. Гута, Брэсцкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Ну, як Вона ішла з тым Дэтюком, Матер Божая, а сіяв такі мужык просто пшаныцю. І Вона ёго попросыла:

– Сховай Мэнэ в той пшэныцы, бо за Мною вража сыла, Мого Сына хочэ загубыты.

І вын сказав:

– Як я тобе сховаю, я шчэ толькі сыю?

А Вона кажэ:

– Ты довго нэ думай, тыко Мэнэ сховай!

Вын кажэ:

– Ну то ховайся!

І Вона як стала ховатыся, пшэныця взыйшла і поспіла. І Вона сховалася. І тут-ко вража сыла прыйшла до *ёго*, до того сеяльшчыка, і пытае:

– Чы ты нэ бачыв Божую Матэру з Дэтюком?

А вын кажэ:

– Бачыв.

– А колы?

– Ой! Колы я сіяв пшэныцю, то Вона йшла.

А тыі кажуть:

– О! То вжэ нам Ейі нэ догнаты.

І вона, <вражая сіла>, вэрнулася. А Вона <Божая Маці>, з того жыта выйшла і кажэ:

– Тая ўкраіна будэ шчаслыва, шо Мэнэ сховала.

То такая у нас колядка була.

---

[88] Матыў цудадзейнага росту раслін у сувязі з уцёкамі ў Егіпет сустракаецца ў Беларусі амаль выключна на заходніх межах Гродзенскай і Брэсцкай абласцей.

85 В

*Зап. у 2000 г. ад Елізаветы Куляшэвіч, 1915 г. н., прав., в. Дзеравянчыцы, Слонімскі р-н, Гродзенская вобл.*

Спасіцеля мучылі. І да трох лет сказалі, штоб усіх дзяцей выразаць, каб папасьць да Хрыста Спасіцеля. Маць Божая ўцякала ад іх. Сеяў жыто чалавек, а Маць Божая бяжыць з Дзецем, са сваім Сынам. І кажа:

– Памагай Бог. Што сееш, дзеткі?

– Жыта сею.

– Ну, сёння сееш, а заўтра, можа, Бог дасьць, жаць будзеш.

Ну і пабегла апяць. А назаўтра ён ужэ жне жыто! А бягуць жыды.

– Ці бачылі Вы жэншчыну з рябёнкам, бегла?

А той кажа:

– Бачыў.

– А када?

– Тады, як я жыта сеяў. – А ён жа ўжо жне.

– А, – кажуць, – так даўно тое было ўжэ.

І назад вярнуліся яны. Вот як Маць Божая зрабіла.

### *Хрыстос ператвараецца ў пшаніцу*[89]

86

*Зап. у 2007 г. ад Соф'і Браніславаўны Закавіч, 1935 г. н., катал., 3 кл., в. Любань, Вілейскі р-н, Мінская вобл.*

І патом Яна недзе йшла і ўстрачаліся із Ей. А Яна нясла Яго ў прыпалé, у падалý. Кажуць:

– Што Ты нясеш?

– От, – кажэць, – пшаніцу.

І – цэлы падол пшаніцы. Ну, яны адвярнуліся і пайшлі. А гэта Матка Боская перавярнула Яго ў дабро, у пшаніцу.

І так Ён паціхоньку, паціхоньку астаўся жыць.

### *Адкуль кветка півоня*

87

*Зап. у 2008 г. ад Аляксандры Васільеўны Адзесенкавай, 1918–2010, прав., адук. не мае, нар. у в. Стары Шклоў, Шклоўскі р-н, Магілёўская вобл., жыла ў Мінску.*

Стаў гэты Ірад біць ужо дзяцей. А Восіпу Гасподзь сказаў:

---

[89] Ператварэнне Хрыста ў пшаніцу ў гэтай легендзе навеяна шматлікімі евангельскімі суаднясеннямі Хрыста з хлебам.

– Бяры Жану і ўхадзі ў пустыню. У пустыню ўхадзі.

І вот яны з Восіпам пайшлі. Асла кінулі – і пайшлі. І вот яны ідуць, а людзі сказалі, што жэншчына пайшла з дзіцёнкам. Жэншчына з дзяцёнкам. Яны даганяць. Мацер Божыя відзіць, што яны ўжо даганяюць, і Яна стала рваць траву. Стала рваць траву – абы якую траву рвала і закрывала Спасіцеля. Яны падходзяць, а не трава – да піён! Цьвяты піён. Вот ета піён. Яны:

– Ой, маць, якія ў цябе цьвяты харошыя! Дзе ты такія ўзяла?

А Яна гаворыць:

– Дзе раслі, там Я ўзяла…

– *Так гэта трава стала піонам, і яна закрыла Хрыста?*

– Мацер Божая закрыла Маладзенца, Госпада Ісуса Хрыста. Яна ж відзела, што даганяюць…

– *І не знайшлі Яго?*

– А як яны найдуць, калі Ён у піёне? Яна цьвяты, цэлы ахапак цьвятоў нясець. А ў цьвятах Ісус Хрыстос.

І вот цяпер гэты піён… Забалеець дзіцёнак, пакупай яго <у атвары півоніі>. Ілі ён паправіцца, ілі ён памрэць. Есьлі на жывое – ён паправіцца. Есьлі на сьмерць – памрэць.

## Зямное служэнне Ісуса Хрыста[90]

### *Зямное жыццё Хрыста*

88

*Зап. у 2001 г. ад Кацярыны Емяльянаўны Дземідзенка, 1931 г. н., прав., 2 кл., в. Дывін, Кобрынскі р-н, Брэсцкая вобл.*

В Евангеліі точно всё там напысано, ну так і кажуть. Еврэі булы протів того, шчо сказалы народу, шчо <Хрыстос>, цар іудейны, родыця.

– А, цар! То Він будэ цар? А я куды? – так Ірод.

Значыть Його трэба забыты. Ну забыты, то воны, <Святое сямейства>, втыкалы, хувалысь туды, сюды, а він, <Ірод>, шукав. Потом звэзда на нэбы була, як бы в тую сторону, <дзе Хрыстос нарадзіўся>. І ушлы, волхвы називалыся, Йму поклоныться. Ірод йіх запытав:

---

[90] Тут прадстаўлены пераважна розныя віды пераказаў евангельскіх падзей і цудаў з зямнога служэння Хрыста. У сувязі са спецыфікай пераказаў (гл. уступны артыкул) усе аповеды ў дадзеным раздзеле адзінкавыя і ў пэўнай ступені індывідуальныя, але яны выразна дэманструюць механізм адаптацыі, засваення і функцыянавання біблейскіх (тут евангельскіх) тэкстаў у народнай вуснай традыцыі.

– Куды вы йдэтэ?

– Народывся цар. – Тоды шчэ нэ звалы Хрыстом.

– Ладно, як будэтэ йты назад, то зайдытэ до мэнэ, скажэтэ, то я тожэ пійду, поклонюсь.

А йім там прыснылося, шчо нэ заходь, він плохой, і пошлы другім путём. Ну, він тоді рэшыв в тыі окрэсносты, як тэпэр у вобласті, убыты всіх дытэй. От новорождённого до двух літ. Ну, і він так і зробыв.

А Маты Хрыстова вжэ була, а Йиму двэнацять літ, і Він такы розумны, Він ужэ ходыв, навучав. А Йго всё равно прыслідовалы.

Бо ж зараз, напрымер, як мы хрыстіяны, вот скажуть, шчо трэба всім пэрэйсті на польску віру. Хто пійдэ, хто нэ пійдэ, хоть будэ і заставляты. І тоды так: хто вірыв, хто ны вірыв. "А шчо мы нэ знаймо Осіпа та Марію? Шчо Вона Бога родыла?" І тоды вірылы і нэ вірылы.

Воны вірылы по-свойму, іудеі. Воны счыталы, шчо Хрыста нэ должно буты. Воны думалы, шчо Хрыстос з нэба явыця, ужэ в рызах, в золотэ, а нэ так, шчо Він народывся по-простому. Ну і вот воны казалы, шчо Він соблазняе людэй, шчо пэрэманюе, шо то нэправільно. Ну і потом Йго рэшылы забыты, замучыты. Замучылы. А Він чэрэз тры дні воскрэс. Тыі самыі учэнікы нэ вірылы, тыі, шчо з Йім ходылы. А Він явывся, показався ім. Одного нэ було. Прышоў і кажуть ёму:

– Знаеш, Пытро, Хрыстос явывся, нам показався.

А він кажэ:

– Я нэ віру. Покуда я нэ вшчупаю своімы рукамы Йго раны…

І Він йму шчэ раз показався. І кажэ:

– Іды. Вложы свойі пэрсты в Мойі рэбра, побач, дэ рана[91].

Ну вот так напысано, так чытаймо, так вірымо.

### *Грамніцы Гасподні*[92]

89

*Зап. у 1998 г. В.І.Басько ад Сцепаніды Бубала, 1913 г. н., в. Каралёва, Верхнядзвінскі р-н, Віцебская вобл.*

---

[91] Паводле Евангелля ад Іаана, першапачаткова не паверыў уваскрэсенню Хрыстову апостал Фама (Ін., 20).

[92] Лк. 2:22–39. Тут з'яўляецца матыў паходжання абрадавага загаду рабіць і асвячаць грамнічныя свечкі, каб выкарыстоўваць іх, у прыватнасці, дзеля паміраючых.

На Грамніцы свечкі свецяць патаму, што пасля таго, як радзіўся Хрыстос, Багародзіца ў гэты дзень, на Грамніцы, унесла первы раз Младзенца Ісуса ў храм. І Ён асвяціў усіх нас. І паміраець чалавек з грамнічнай свечкай, штоб з такой светласцю пайсці на той свет.

## *Хрышчэнне Хрыста*[93]

90

*Зап. у 2007 г. ад Соф'і Браніславаўны Закавіч, 1935 г. н., катал., 3 кл., в. Любань, Вілейскі р-н, Мінская вобл.*

Хрыстос хрысьціўся ў раке Іёрдані. Ну і пашло хрысьціянства. А яны ж не зналі гэтага. І зьненавідзелі Яго, што Ён перахрысьціўся. А яшчэ да гэтага, да таго, як Ён перахрысьціўся, людзі ляцелі, і хрысьціліся, у раку Іёрдань. От чаму ў нас празьнік Ян сьвяты? Таму што ён Ян Хрысьціцель, а не Купала які-нібудзь. Ян Хрысьціцель прыдумаў хрысьціянства[94]. І ён хрысьціў людзей у раке Іёрдані.

– Цябе хрышчу я ва імя Атца і Сына, – гаварыў ён.

Ян паліваў вадой, на цемя ваду ліў, ну і ты, значыць, ужо ахрышчоны. І Хрыстос захацеў перахрысьціцца. І Ён палез у гэту раку Іёрдан. І Ян Яго перахрысьціў. Ён выйшаў з вады і сказаў людзям:

– Следуйце за Мной.

А як Ён аб'явіў: "Сьледуйце за Мной", – ета жыдам не панаравілась. Яны ж нехрышчоныя, а толькі абразаныя. А Хрыстос – Ён абразаны і хрышчоны. Ён, значыць, мусульман і хрысьціянін[95].

Купала, крычаць, Купала, а не знаюць, што гэта Ян.

## *Запаведзі і знахарства*[96]

91

*Зап. у 2000 г. ад Фёдара Мікалаевіча Сасевіча, 1920 г. н., прав., 7 кл., в. Бярозавічы (Паршэвічы), Пінскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Вы дзесять заповедей знаетэ, шчо там пішэцца в десяті заповедзях? Это Хрістос пэрстом своім напісал эты дзесять

---

[93] Мф. 3:1–17; Мр. 1:2–11; Лк. 3:2–22; Ін. 1:6–34.

[94] У дадзеным выпадку хрысціянства азначае хрышчэнне.

[95] Паводле меркавання інфарманткі, якое выказвалася па-за гэтым тэкстам, усе яўрэі – мусульмане.

[96] Кантамінацыя Старога і Новага Запаветаў. 10 запаведзей былі дадзены Богам Маісею на гары Сінай (Зых. 20). Расказ пра Хрыста, які пісаў пярстом па зямлі, калі да Яго прывялі блудніцу, – у 8 гл. Евангелля ад Іаана (Ін. 8:3–11).

заповедей. І Он сказал: не прелюбодей, і ложным свідетелем не будь... Вот почытайце... Это десять заповедзей, вся правда Господня.

*– А калі звяртацца да знахара?*

– До сотоны. Это сатана. Бог даў волю – куда хочце. Хоч до сотоны, хоч до Мэнэ. До кого хочтэ. Вон даў волю. Это ж сатана быў первы в Ёго учэнік, опостол. Як цар. То ж Біблія піша всё. А гэтая вся правда в десяті заповедях.

### *Адкуль віно і гарэлка*[97]

92

*Зап. у 2004 г. ад Надзеі Фёдараўны Кароль, 1940 г. н., прав., сярэд. спец. адук.; Надзеі Фёдараўны Повар, 1955 г. н., прав., сярэд. спец. адук., в. Гаць, Акцябрскі р-н, Гомельская вобл.*

*– Хто гарэлку і грошы выдумаў?*

– Ну, віно-та праізвёў Гасподзь, Іісус Хрыстос, кагда быў на свадзьбе.

– А гарэлку – эта сатана прыдумала.

### *Пра Хрыста і апостала Пятра*[98]

93

*Зап. у 2003 г. ад Мікалая Антонавіча Ракаўца, 1926 г. н.; Лізаветы Гаўрылаўны Ракавец, 1924 г. н., прав., в. Аздамічы, Столінскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Это пішэцца в законе. Бог ходзіў по земле. Когда родзіўсо Господ, Вон ходзіў. Потом, значыць, пошлі з Ёсіпом Маці в Ерусалім, і Он оставса дванаццаці лет <…> в Ерусалімском храме проповедваў. Во так. Она вернуласа, тры дні шукала, найшла. Потом Он буў скрозь у подчыненіі у Ёсіпа. Ёсіп – это обручнік. І Мацер.

Когда ўжэ совершылось Ему трыццаць лет, Вон пошоў проповедоваць Евангелле. <…> Перво собрав опостола Андрея Первозванного, чого і ето прівозілі мошчы в Москву, опостола. Ходзіў, проповедаў, потом собраў семсят вученікоў. А дале, значыць, отменіў, дванаццаць собраў вученікоў в знак того, што дванаццаць колен Ізраіля.

Якоў – это первы Ізраэль, і у ёго дванаццаць сыноў було, і дванаццаць Господзь собраў опостолов. Ходзіў, проповедваў,

---

[97] Этыялагічны матыў паходжання віна "са свадзьбы" адсылае да ператварэння вады ў віно на шлюбе ў Кане Галілейскай (Ін. 2:1–11).

[98] Пераказ евангельскіх падзей. Усе матывы кананічныя.

вучыў, а дале, когда ужэ надлежало Ему пострадаць, Вон стаў спрашываць опостолов:

– За кого Мене народ почытае?

Тые говорaць: за пророкоў, тые – за Ілью, а тые – за того. А спросіў іх:

– А вы за кого?

Апостол Петро сказаў:

– Ты есі Хрістос, Сын Бога жываго.

Значыць, Хрістос, отвеціў так:

– Іона, ты, – кажэ, – не Я тобе даў, а Оцец Небесны Мой даў тобе.

Опостол Пэтро – это ему Господ даў. І он ходзів скрозь з йім, куда Господ ні шоў.

Вот это Прэображэніе, как мы кажэм на Спаса. Пов'ёў опостола Петра, Якова і Іоана. Дзе бы Господзь не шоў, завсегда Петра водзіў. Вот такі цьвёрдой буў веры. І вот Господзь сказаў: што ты кіфа – камень.

– Каменну Собе цэрков создам і врата ада ее не одолеюць, во.

### *Хрыстос і самаранка*[99]

94

*Зап. у 2001 г. ад Варвары Лаўрэнцьеўны Чатырбок, 1912 г. н., прав., адук. не мае, в. Аранчыцы, Пружанскі р-н, Брэсцкая вобл.*

І самаранка брала воду кала колодезя. Я чула так. Самаранка брала воду. Прышол Хрыстос і просіть:

– Дай Мне воды напітіса.

Ну, але я дажэ чула і в молітвах гэто, не то шчо...

– Дай воды напітіса.

А вона Ему не дала. І Вон кажэ:

– А Я тобе жывую воду дам.

І тоды самаранка побегла по всём сэле і росказала: прышол Хрыстос до водопровода!

### *Хрыстос лечыць людзей*

95

*Зап. у 2007 г. А.М.Боганева і Т.В.Валодзіна ад Марыі Раманаўны Лабко, 1933 г. н., прав., 2 кл., в. Вулька-1, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

---

[99] Ін. 4:4–42.

І лечыв людзей такіх больных, і помогав, і прыказвав... А шчыталі, шчо Вын нэзаконны. Вот Вын сэбэ поставляв, показував людзям, шчо Вын от Бога, Сын Божы.

### *Як Хрыстос вылечыў расслабленага*[100]

96

*Зап. у 2007 г. ад Соф'і Браніславаўны Закавіч, 1935 г. н., катал., 3 кл., в. Любань, Вілейскі р-н, Мінская вобл.*

І вот яўрэі моляцца і прызнаюць аднаго Майсея, у іх бог Майсей. А чаго яны Хрыста зьненавідзелі? Таго, што Хрыстос хадзіў, уваскрасаў людзей, ісцаляў. І вот Ён прыйшоў да мора. І вот расказуюць, дажа па радзіву гавораць, я чула не адзін раз. Прыйшоў Хрыстос, а вынясьлі чалавека к мору, паставілі яго на каравацi, пасьцель зрабілі, штоб ён ужэ паміраў. Прышоў Хрыстос.

– Чаго ты тут ляжыш? Бяры сваю пасьцель і йдзі.

Той падняўся, за пасьцель, і прыходзіць к людзям, к сваймy народу. А тыя:

– А-я-яй! А чаго ты?

А ён гаворыць:

– А мяне ўваскрасіў Хрыстос!

А яны за яго ўзяліся: у іх жа шабат – сыбота, празьнік ужо, нядзелю яны не прызнаюць. А чаму ты вот у шабат такую работу робіш, уваскрасаеш людзей?

### *Уваскрэсенне памерлай дачкі*[101]

97

*Зап. у 2003 г. ад Валянціны Міхайлаўны Маслоўскай, 1949 г. н., прав., в. Падбарэчча, Ляхавіцкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Хараніла маць дочку едзінственну. І Ён спрасіў, што там ідзе, чаму столькі многа людзей. І сказалі, што хароніць маці. Ён толькі падышоў, датронуўся да яе і ўсё <яна ўваскрэсла>.

*– А Вы пра цуды Хрыстовы чытаеце ў Евангеллі, або ў царкве чуеце?*

– Нам расказваюць. Бацюшка пасля ўсякага малення ўсё расказвае.

*– На пропаведзі расказвае бацюшка?*

– Угу. Як Ісус Хрыстос па зямлі, і потым як ужо пасля распяція падняўся.

---

[100] Мф. 9:2; Мр. 2:1–12.

[101] Паводле Евангелля ад Лукі, Хрыстос уваскрэсіў пры пахаванні памерлага сына Наінскай удавы (Лк. 7:11–16).

## *Уваскрэсенне дачкі Іаіра[102], вылячэнне сляпой[103]*

98

*Зап. у 2003 г. ад Фядоры Мікалаеўны Курак, 1931 г. н., прав., адук. не мае, в. Малыя Чучавічы, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Памірала адна ў багатаго чалавека дзеўчынка. Так жа ў кніжцы ў мене пішацца, эта ў мене Ангелле ляжыць на стале. То Ён хадзіў, па дзярэўні хадзіў Ён. Да вайшоў у сяло, у дзярэўню з вучанікамі. А гэ па дзярэўні ціхо, гэ ціхо. Кауць, і ўгэ пачалісь слухі, шо тут памешчыка-багатыра дзеўка памірае. Памірае дачка, да ўгэ то гэтакэ спакойство, усе ідуць і к ёй хрысціцца, і ўсе йдуць бедаваць к гэтаму багатыру.

– А, – каэ, – дзе яна, дзе той багатыр? – на сваіх вучэнікоў. – Хадземце, зайдзем.

Зайшлі, дабіліса – яна ляжыць ужэ на лаве, але шчэ жывая. Слухаюць – дышэ. Але ўжэ паміраць асталосо. Ляжыць на лаве, а Ён у хату ўвайшоў, зірнуў ці сказаў:

– Дзень добры, – ці не сказаў, не знаю.

Зірнуў – людзей багато, хаты там жэ ж, Божэ якіе, там дом які!

– Дзе гэты мерэц ці хто, дзеўка гэта?

Падышоў – ляжыць. Паглядзеў, за руку ўзяўса, каэ:

– Пульсы б'юць. То шчэ яна жыва, – сказаў. – То яна ж ешчэ жыва.

А дале рукою на лоб сваею падзяржаў, каэ:

– Да жывая яна.

Да і ўсё, пусціў. <...> А тая дзеўка раз – села. Села, да і сядзіць ужэ. Да асталаса жывая.

А другая, то это ў кніжцы дажэ пішацца, а другая дзеўка не бачыць у другое маладзіцы. Яна пачула, шо гэту тут <хаваць будуць>, угэ <...> на похороны прышла і пачула, што тратаваў. А яна за Ім упляласа даганяць, да шоб дачку тратаваў, шоб бачыла. Да хапаецца за рубіны, даганяць. А Ён адгробса:

– Чаго ты хоч, чаго ты хоч? Чаго ты, – каэ, – хоч? – На яе адмахнуўса.

---

[102] Мф. 9:18–26: Мр. 5:22–43; Лк. 8:41–56.

[103] Эпізоду аб вылячэнні сляпой дачкі ў Евангеллях не існуе. Тут злучаны некалькі евангельскіх эпізодаў: вылячэнне жанчыны, што пакутавала ад крывацечы (Мф.9:20–22: Мр..5:24–34: Лк.8:43–48). вылячэнне беснаватай дачкі жанчыны–хананеянкі (сірафінікянкі) (Мф. 15:22–28: Мр. 7:25–30). вылячэнне слугі сотніка (Мф. 8:5–10: Лк. 7:1–10). вылячэнне сляпых (Мф. 9:27–31: Ін. 9:1–41).

– Сус Хрыстос, паратуйце, дзеўка не бачыць! Сляпая дзеўка, не бачыць!

– А ты ж, – каэ, – а Ён, бач, ведаў, – ты ж казала на Бога, рымавала, дак і не бачыць дзеўка.

А яна адказвае:

– І Вы б такіе булі. Бог моцно задзеў, то й казала, і рымавала… А дале шукаю Бога, а дале, – каэ, – і шукаю Бога!

А Ён:

– Ладно, ідзеце дамоў, дзеўка бачыць.

Прышоў – дзеўка бачыць. То, бач, Сус Хрыстос это гэто хадзіў, наш о гэты, шо расп'яты на крыжы.

### *Адсячэнне галавы Іаану Хрысціцелю*[104]

99 А

*Зап. у 1997 г. В.І.Басько ад Уліты Высоцкай, 1903 г. н., прав., в. Міхалінава, Лёзненскі р-н, Віцебская вобл.*

Вот Іван Богуслоў. Бог яму сказаў:

– Будзеш на зямле, пака Я ешчо пріду, да канца міра.

І вот Іван Богуслоў дзе-та есць, но яго ніхто ні знаець. Бог яму сказаў:

– Я цібе ад етага ада і спасу, ад усяго нішчасця, во.

Можа ён на небе ў Бога, можа жывым узят Богам на неба, як Ілья Прарок жывым узят – ніхто ж ні знаець, дзе ён. А Ілья жэ быў прарок, тожэ послан Богам. Ён быў Іаанам Крясціцелем тут на земле, а людзі яго ўзялі да ўністожылі. А за што ўністожылі Крясціцеля?

Значыць, царь Ірад адбіў ад брата жонку. А ён, Крясціцель, гаворіць:

– Ты адбіў ад брата жонку. Эта ніхарашо!

А яе, жонку, звалі Радзіада. У яе і доч была ўжэ ад таго, ад брата. Ну, як сказаў ён так, ета Радзіада ўсё хацела, каб яго ўбіць. А тады нашла такей дзень шчасліві, штоб яго убіць можна было.

Царь Ірад мяніны спраўляў свае. Прігласіў тысячы начальнікаў сваіх, царей усіх, з каторымі дружыў, угашчаў іх. Ну і доч Радзіады вышла плісаць, і панравілась усім – дужа плісала харашо. Дужа і царю панравілась. Ён і гаворіць:

---

[104] Мр. 6:14–29. Пераказ евангельскага тэксту вельмі блізкі да арыгінала, але з характэрнай неевангельскай фальклорнай канцоўкай у сэнсе помсты зладзеям у зямным жыцці.

– Я табе, што хочаш за ета дам. Хоць і палавіна царства свайго!

Ну, іна пашла к матке і гаворіць:

– Што прасіць у царя?

А матка:

– Прасі галаву Іаана Крясціцеля, каб на блюдзі табе падалі!

Ну, іна прішла к царю і сказала, што хочет галаву Іоана Крясціцеля на блюдзі. Царь паняў, што ён глубако ашібнуўся, што так сказаў, але слово сваё не можець змяніць ўжэ. Царь паслаў аружёнца, аруженец атрубіў Іаану Крясціцелю галаву ў цямніцы і прінёс яе на блюдзе дзеўке етай. А яна аддала мацері.

А маці яе, Радзіада, бросіла ету галаву ў мусарную яму. Як убросіла галаву, так іна сідзела на крыльце і задремала. І з трецяга ступня ўпала і забілася насмерьць. Ударілася віском аб камень і ўмерла. А дочка яе ішла па кладке, а кладка абмёрзшая была і рукоятка абмёрзшысь. І іна сарвалася і ўтапілася ў ваду, і ей льдамі галаву атрезала.

Во, значыць, сагрешылі как. А царь пераржываў дужа. Ён знаў, што Іаан Крясціцель дужа прарок харошы, ён баяўся яго.

99 B

*Зап. у 2007 г. Т.І.Кухаронак ад Анастасіі Гаральчук, 1928 г. н., прав., в. Макраны, Маларыцкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Это Усэкновэнне. Такая была царова, як кажут, дочка, прынцэса. Отрубала Івановi голову, отсікла, і прынэсла на блюдэ на танцы[105].

### *Уваход Господзень у Іерусалім[106]. Чаму вярбу свецяць[107]*

100 A

*Зап. у 2001 г. ад Кацярыны Емяльянаўны Дземідзенка, 1931 г. н., прав., 2 кл., в. Дывін, Кобрынскі р-н, Брэсцкая вобл.*

А то вйіхав в Іерусалім на ословэ, Хрыстос. <...> Машынов нэ було – вйіхав на ослі. І Його так ужэ шанувалы, пучэту-

---

[105] У гэтым тэксце віна дачкі Ірадзіяды гіпербалізуецца і пагаршаецца: яна не просіць, а сама адсякае галаву Іаану Хрысціцелю і прыносіць яе "на блюдэ на танцы".

[106] Мф. 21:1–9; Мр.11:1–10; Лк. 19:28–40.

[107] Матыў Свяшчэннага Падання. Народныя тэксты па гэтай тэме будуюцца па мадэлі або этыялагічных (102 A, 102 B, 102 C), або духоўна-этычных легенд (102 D), калі Хрыстос ігнаруе багатых і шануе бедных.

валы, шчо от як вэткы кыдають, як ідуть от, Єму, значыть, веткы пальмы, слалы дорогу такую. Ну, а ў нас пальмоў жэ ж нэма, так і рэшылы вэрбу. Вот поэтому і вэрбу. В той дэнь, як Він йіхав на вэрбныцю, вжэ і святять.

100 B

*Зап. у 2000 г. В.І. Басько ад Веры Лівоцкай, 1915 г. н., в. Сушыцк, Пінскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Это Ісус Хрыстос уйіжджаў у Ієрусалім, встрэчалі Его... Хто шчо мог: хто одёжу, хто цветы, хто шчо мог бросалы Ему пуд ногі і кланялыса, і ламалі вэткі з вэрбы, і кланялыса, і бросалі пуд ногі. І сэчас светять вэрбу. Прынесэш до дому, а потом скотынку выгонялы первы раз на паш, шлёгаеш этой вэрбочкой ее.

100 C

*Зап. В.І.Басько ад Веры Бобрык, 1920 г. н., прав., в. Мяшэтнікі, Мастоўскі р-н, Гродзенская вобл.*

Вербніца – ідуць свянціць вербу. Эта ўсё ад святога. Ісус Хрыстос ехаў у Ерусалім, то ўжэ ўсе людзі пазбіраліся і сустракалі Яго пальмавымі веткамі, кідалі Яму пад ногі. А ў нас эта ўжэ вярба сама глаўна, вярбу ідуць свянціць.

100 D

*Зап. у 2004 г. ад Кацярыны Міхайлаўны Курачай, 1932 г. н., прав., в. Пружынішчы, Акцябрскі р-н, Гомельская вобл.*

Калісь мама расказывала, што Бог хадзіў. Бог ехаў на кані. Людзі расцілалі палотны, багатыя расцілалі каўры, дарогу ўсцілалі. А бедныя усцілалі ветачкі. Так Бог не паехаў па каўрах і па палотнах, а паехаў па ветачках.

### *Як Хрыстос выгнаў з храма гандляроў*[108]

101

*Зап. у 2001 г. ад Марыі Фамінічны Якуты, 1919 г. н., прав., 3 кл., в. Аранчыцы, Пружанскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Говорат, <...> Вон выгоняв всіх людэй, чі гэто людэй-торгашов, <што> там торговалі в цэркві. Во прыехав і кажэ:

– Это дом Моево Отца! А вы, значыцца...

Ім порозвальвав тые столы, там усё, повыгоняв іх і сказав: "Это дом Моево Отца".

---

[108] Мф. 21:12–13; Мр. 11:15–16; Лк. 19:45–46; Ін. 2:13–17.

## *Тайная вячэра, адмова Пятра*[109]

102 А

*Зап. у 2003 г. ад Фядоры Мікалаеўны Курак, 1931 г. н., прав., адук. не мае, в. Малыя Чучавічы, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

<Хрыстос з апосталамі на Тайнай вячэры> пілі, і угэ Ён падаваў у бакалах:

– Пеце, гэто – Кроў Мая, есьце, гэто – Цело Мае. <...> Ак Мене не будзе, забудзеце, усе забудзеце пра Мене. Цепэр ву ўсе добрые Мне, а тагды забудзеце.

А Святы Пятро і Іван, каэ:

– Не, не забудам му ніколі. Му разам з Табою пагібнам, ежэлі Ты пагібнеш, – на Суса Хрыста, – у той час і му пагібаем.

А Ён тагды ім і сказаў:

– Дважды два, – каэ, – атракнецеса. І ак певень запае, тагды Вы дважды два атракнецеса ат Мене.

Цепэр прышлосо. Ак ізлавілі Яго, да вясці, скавалі рукі, дак угэ Святы Пятро ўцякаў у варота. А ўсе этые, <што> старажуюць, угэ каторые лавілі ўбіць:

– Мо гэта, – каэ, – Сус Хрыстос?

А <Пётр> каэ:

– Да не-не-не, это не я, я не бачыў!

А певень і запеў. А ён ужэ ўздумаў, да плакаў, ак Сус Хрыстос сказаў – так гэ оно ўсе і е. Ну, то это ж пішацца, это ў кніжцы, то это Вы знаеце.

102 В

*Зап. у 2003 г. ад Марыі Данілаўны Зінкевіч, 1933 г. н., прав., 3 кл., в. Сінкевічы, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Апостол Пётр сказав, шо, Господзі, я от Цібе не отрэкусь. А Он скозав, шо тры раза ты отрэчэсса от Мене, покуда запое первы певень. А вон.. і трыжды, да...

– І ты, <...> гавораць, помочнік Ему!

А вон:

– Не! Не! – і тры раза он отрокса.

І тода Хрыстос кажэ:

– Відзіш, ты ж отрокса зразу!

Он ему сразу сказав, шо ты тры раз, трыжды, отрэчосса от Мене. І так от гэтый певень, пока певень запое, а Йюда ж тожэ козав, шо он не, я не...

---

[109] Мф. 26:17–75: Мр.14: 14–72: Лк. 21:7–62.

102 С

*Зап. у 2005 г. Т.В.Валодзіна ад Марыі Саванеўскай, 1925 г. н., прав., в. Падлессе, Жабінкаўскі р-н, Брэсцкая вобл.*

У Чысты Чэтвэр – помыцца, бо Ісусу Хрысту ногі мылы на вэчэры, як засэдалы…[110]

## *Пра Хрыста і льва*[111]

103

*Зап. у 2006 г. В.А.Лабачэўская ад Мікалая Васільевіча Тарасюка, 1932 г. н., прав., 4 кл., в. Стойлы, Пружанскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Шчэ <...> Вун ходыв по пустыне, о. Как за Ім булі эты двенацаць учэніков, до Ёго прыходылі, росказывалі, Ёго поддержывалі.

Вун ходыў по пустыне, как встрэцілся з ільвом, када лев занозу загнав у лапу. Он ціхонько подышоў, нэ боячысь, выняў занозу, і леў дружыў з Ім, як з товарышчом.

І когда прышлі гэты Ёго учэнікы, так одын з іх удывыўся, і кажэ: "Наш Ісус озверэв. Ужэ вун нэ став человіком". Такі нашовся Іюда, і вун продав, о. Продав негодяям Ісуса. Ёго взялі, іздеваліся, білі, о. Завэлі ў заключэнне і протрымалі мгогіе года.

А леў по следу ішоў за ім. І льва зачынылі, шэсць дней нэ далі йісты і выпустылы льва ў загород до Ісуса. Леў абнюхаў руку і нэ тронув. Тогда гэты нэгодяі много пападалі ў обморок: почему леў не ўзял Ёго, вун жэ голодны? О! Тогда взялі з тэй загороді і повелі на распнятіе, о, Ісуса.

## *Здрада Іуды, адмова і пакаянне Пятра*[112]

104

*Зап. у 2003 г. ад Мікалая Антонавіча Ракаўца, 1926 г. н., прав., 4 кл.; Лізаветы Гаўрылаўны Ракавец 1924 г. н., прав., адук. не мае, в. Аздамічы, Столінскі р-н, Брэсцкая вобл.*

І, когда ўжэ прішло, Господзь сказаў, што пострадаць прішло врем'е. Когда ужэ Тайну вечэру зробілі, Господзь сказаў:

---

[110] Этыялагічны матыў звычаёвага прадпісання.

[111] У "народнай Бібліі" адзінкавы тэкст. Сюжэт пра раненага і вылечанага льва, які стаў сябрам чалавека, верагодна, перанесены з жыція святога Герасіма Іарданскага – Фіваідскага пустынніка (V ст.), памяць 4/17 сакавіка.

[112] Мф. 26:14–75; Мр.10:1–72; Лк. 21:1–62.

– Одзін з вас продасць <Мяне>.

Ну а хто жэ, хто ж? Дак опостол Ян Богослоў, самы молодшы буў, коло грудзіны прылёг к Ісусу, і кажэ:

– Господзі, хто ж Цебе продае?!

А Вон сказаў:

– Кому Я подам кусок хлеба, тот мене продае.

І подаў Юде. Юда ўзяў, і ў ту пору сатана зашоў к ему, і он пошоў. Прівь'ёў браць Ісуса Хріста. І сказаў <Хрыстос>:

– Ці е у вас мечы?

Петро опостол взяў, два мечы зробіў. <Хрыстос> кажэ:

– Не нада.

Когда <...> прів'ёў Юда браць Ісуса Хріста, сказаў:

– Кого я поцелую, того возьміце.

І поцоловаў Хріста. Хрістос кажэ:

– Зачэм ты, кажэ, прішол з предацельством? <...> Дзелай, што тобе поручілі.

А опостол Петро выхопіў меча і отсек этому, которы бралі, вухо. І Господзь сказаў до Пэтра:

– Вложы нож свой в ножніцу. Хто, – кажэ, – кого ножэм будзе убіваць, тот сам <...> надлежыць, не мі́не ёго эта сьмерць. Як ты убіў – не рано, то позно – і ты наскочыш на ёго.

І Господзь сказаў, што ты отрэчэшся. Пэтро кажэ:

– Я не отрэкус!

А Господзь сказаў:

– Тріжды, ешчэ певень не пропое, значіць, тріжды от мене отречэссе.

Так воно і було. Як завелі Господа судзіць, подышлі, кажуць <на Пятра>:

– І ты там буў!

– Вот, – кажэ <Пётр>, – я не знаю, што вы говорыце!

<...> Вон стаў клесцісь і божыцца, <што не знае Хрыста>, і Господзь, <як> запеў певень, так вот отвернуўса к Пэтру, і Пэтро вздумаў, што Господзь казаў: "Тріжды раз певень не запое, тры раз от мене отречэсса". Горко заплакаў да пошоў. То вон скрозь, колькі жыў, столькі плакаў от слёз, што отрокса.

А когда Господ отходзіў на небеса, Пэтру даў ключы от Царства Небесного.

– Кому, – кажэ, – просціш, тому про́шчоны грэхі, кому оставіш, тому остануцца.

І пішэ так: когда опостол Петро з Яном проходзілі, віносілі больных, <...> і тые выздоровлялі. А когда ужэ прішло – сьмерць пріняў. Одзін Ян пом'ёр, другіе <апосталы> сьмерць прынялі <пакутніцкую>. Когда взялі Петра, рымскі імператор, взялі ёго да роспінаць, так вон сказаў:

– Я ніяко не достоін, да вніз мене <галавой распінайце>, токо Господзь вверх, а я, кажэ, вніз.

І попросіў ёго вніз головой. Вот так проісхóдзіло в ту пору.

### *Страсці, распяцце, уваскрэсенне Хрыстова, самагубства Іуды (Чаму яўрэі свініну не ядуць, як певень ажыў)*

105

*Зап. у 2002 г. ад Валянціны Казакевіч, 1925 г. н., прав., хутар Дракі (каля в. Каты), Смаргонскі р-н, Гродзенская вобл.*

І так астаўся Іісус Хрыстос. А патом, відзіця, Яму было трыццаць тры гады, як Яго распялі. І Ён знаў, што гэта будзе. І баяўся і прасіў Бога, сорак дней пасьціўся, сорак начэй на гарэ. Прасіўся:

– Божанька, адмяні мне гэту, – хацелася жыць.

Бог сказаў:

– Нет. Ты павінна пастрадаць за нас, за людзей.

Што мы грэшныя, так Ён спасе. Мы ж усе грэшныя.

– Гэта ты будзеш за народ страдаць.

Ну, Ён сагласіўся. А ў Яго было дванаццаць учэнікоў. Самы любімы ўчанік быў Пётра, апостал. Ну вот Ён знаў, калі Яму ўжо паміраць і ўсё, Ён сабраў сваіх учэнікоў і сказаў... А, памыў рукамі ногі і сваімі валасамі выцер кажнаму учэніку[113]. І гавора:

– З вас адзін прадаў мяне.

Дак усе сказалі:

– Не я лі, Госпадзі, не я лі, Госпадзі?

А Юда Скарыёт выйшаў. А ён жа ж быў і казначэям у Храме, ён такі быў тожа апостал. Віздзіце, як ён скусіўся? І выйшаў. А Пётра сказаў:

– Госпадзі, я веру ў Цябе, і нікагда не адракуся ад Цібя.

---

[113] Кантамінацыя ст. 1–10 гл.13 Евангелля ад Іаана і ст. 37–39 гл. 7 Евангелля ад Лукі. У Евангеллі ад Лукі жанчына-грэшніца палівае сваімі слязьмі ногі Іісуса і выцірае іх сваімі валасамі. У Евангеллі ад Іаана Хрыстос на тайнай вячэры мые ногі апосталам і выцірае іх ручніком.

А Ён сказаў:

– Нет, як запяе трыжды пятух, ты ад Мяня адрачэшся.

– Не!

– Сказаў, адрачэшся. Тры разы ты ад мяне адрачэшся.

Так і случылася. А як жа ж знаць, дзе Іісус Хрытос? Яны ж ня знаюць. І, знаеце, Юда сказаў: “Каго я пацалую, таго вы вазьміця. Каго аблабызаю, таго і вазьміця”. Падыйшоў да Іісуса Хрыста і пацалаваў. Яга забралі, адзелі ў такую адзежду, білі Яго па ланітам і па галаве. На галаву цярновы вянец зьвілі калючы. Павялі на гару, кажэцца, Галгофу. Ён падаў, а крэст далі нясьці такі цяжкі, дубовы. Ён, бедны, стаў пацець і стаў падаць. А яны Яго падымаюць, а яны Яго б’юць, падымаюць. Ну і зьнёс на гару, і там паставілі крэст – Яго пасерадзіне, а па баках два красты разбойнікі, каторыя ўбівалі людзей і кралі, убійцы такія былі. Вот і расьпялі іх. Расьпялі іх, і гваздзямі прыбілі ногі, на крыж злажылі. І тады кап’ём бок. Пашла кроў і вада. Вот затое мы прычашчаемся. У палякаў жа аблатка, а мы: “Цела Хрыстова прыміця, іточніка бясьсмертнага ўкусіця”. Вот мы Цела – хлябок. А кроў – гэта як Іісуса Хрыста, эта мы так ужо ўпамінаем. Ну і патом расьпялі Яго, а Яму так піць хацелася. Ён у іх папрасіў: “Дайця мне піць”. Яны яму далі воцэту з жоўцю. І Ён стаў паміраць. Адзін з разбойнікаў кажа:

– Ты бы Сам сайшоў і нас ізвёў ба.

А другі сказаў, па правай старане:

– Памяні мя, Госпадзі, егда пріідзешы ва Царствіе Нябеснае.

Іісус Хрыстос сказаў:

– І ты будзешы ў раю.

А тады, знаеце што, гэтыя жыды ж распіналі, так яны:

– Э, як Ён Бог, ён сам сябе строя Бога, а ён чалавек такі, як мы. А мы верым у Бога, а ў яго не.

Вот тады яны падвярнулі пад карыта жыдоўку:

– Есьлі ты Бог, угадай, хто пад етым карытам ляжыць?

– Іісус Хрыстос шчэ не памёр. А Божая Мацер стаяла і плакала:

– Ты мой Бог, за што Ты так цярпі́ш?

А Ён:

– Не плач.

Сказаў ужо, каб не плакаць. Ну і вот тады яны кажуць:

– Ну, давай жа ж, угадай, хто тут пад карытам?

А Ён гаворыць:

– Сьвіньня з парасятамі.

Адкрываюць, а там сьвіньня і парасяты. Вот за тое жыды не ядуць мяса сьвіннога. Ядуць усё, а сьвіннога-та не. І тады Ісус Хрыстос сказаў:

– Я на трэцій дзень васкрэсну.

Яны паставілі войнаў, з кап'ямі, і перавярнулі камень бальшый такій да гроба. Бо, кажуць:

– Украдуць. Украдуць учэнікі Яго.

Не верылі яны. Тады, як толька Ісус Хрыстос паміраў, эта вот пятніца, Вялікі пост, нада пасьціць у Бальшую пятніцу. Царкоўная завеса надвоя разарвалася. І патраслася зямля, і камні, ўсё. Эта Ісус Хрыстос канаў.

І вот тады паставілі камень і воінаў, каб не ўкралі. Прышлі ангелы, камень адвалілі ад гроба. Толькі пелены асталіся, даўней жа ж пеленалі так. <...> А то Марыя Магалена ішла Яго памазаць мірапамазаньем – Яго не было. Толькі асталіся ўжо Яго пялёны. А Ён ужо васкрэс, не было. А ўсё роўна, гэтыя паспужаліся, пападалі, кажуць:

– Няпраўда, Яго ўкралі ўчэнікі.

І тады селі, прышлі, тут ядуць жыды. А яны любяць кураціну. Пятуха зарэзалі, пятушаціну. Адзін кажа, стары ўжо жыд:

– Есьлі эта праўда, што Ісус Хрытос васкрэс, што Яго не ўкралі, Ён васкрэс, хай жа ж гэты пятух васкрэсьне!

Пятух стаў жывы і залопаў, і запеў тры разы. А вот як ужэ расьпіналі, відзіш, а Пётра баяўся, каб і яго не, і ён адрокся тры разы. Відзіця, як тады Ісус Хрыстос сказаў. Ісус Хрыстос прасьціў ба б і гэтаму Скарыёту, а гэты за трыццаць срэбрэнікаў прадаў, а тады пашоў у калодзец і ўтапіўся. Удавіўся.

– *Прасціў бы і Іскарыёту?*

– Ой, прасьціў ба б. Прасьціў. Ён усім прашчае. Есьлі мы будзем грашыць, і есьлі мы будзем грэшные і прад сьмерцю папросім Бога – Ён нам прасьціць. Толька нада папрасіць. Бог доўгацерпяліў і многаміласьціў. Што мы грашым! Мы дажа падумаем – і то нам грэх. Мы ж усе грэшныя на Сьвятой зямлі.

# Страсці Хрыстовы

## Хрыстос хаваецца ад праследавальнікаў [114]

### *Чаму асіна дрыжыць, павука нельга біці і свята Вербніцай называецца*

106 А

*Зап. у 2000 г. ад Валянціны Сарока, 1941 г. н., прав., в. Бабічы, Шчучынскі р-н, Гродзенская вобл.*

– А вот чаму няможна біць павучка?

– *Чаму?*

– А вот таму, што Іісус Хрыстос сайшоў… А чаго асіна дрыжыць?

– *Чаго?*

Ён ішоў, а за ім усё гналіся. Ён кажа:

– Асіна, схавай Мяне!

А яна кажа:

– Не, я не змагу Цібе схаваць.

– Ну, абарані Міне! Бо во, гоняцца за мною.

А яна кажа:

– Я не магу. Я сама і так дрыжу.

– І ўсю жызьню будзеш дрыжаць.

І во яна ўсё лекаціць і лекаціць. А дабягае да вярбы… Вот таму і Вербніца называецца. Дабягае да вярбы, а там павук. Ён кажа:

– Павучок, міленькі, спасі Міне.

А павук кажа:

– Хавайся на вярбу, і я Цябя павуцінаю.

І ён аматаў, аматаў павуцінаю, і Ён схаваўся, і яны як беглі, так і прабеглі. Вот, міленька мая, усяго есьць. І яно дзейсьвіцельна есьць.

### *Чаму павука нельга біць*

106 В

*Зап. у 2003 г. ад Аліны Хрыстафораўны Рахманец, 1930 г. н., прав, в. Мыслабаж, Ляхавіцкі р-н, Брэсцкая вобл.*

---

[114] Тэма рэалізуецца ў народна-апакрыфічным плане праз этыялагічныя легенды. Матывы ўцёкаў Хрыста ад праследавальнікаў і ўдзелу раслін і жывёл у лёсе Хрыста тыпалагічна тоесныя легендам, прысвечаным уцёкам Святога сямейства ў Егіпет (№ 77–87). У кананічных Евангеллях матываў хавання Хрыста ад праследавальнікаў не існуе.

Ісус Хрыстос, як ужэ хацелі Яго ўжо замучыць гэтыя ўжэ... Мы не казалі яўрэі, а жыды, у нас гэта было такэ названне. І яны <...> Яго шукалі, як была ноч цёмная-цёмная. А Ён упаў – галлё такое ляжала. Ён так шуснуў туды і пайшоў у тое галлё – там яма была выкапана. І павучкі заплялі павуценнем, а Ён там ляжаў. Ну і заплялі.

А яны <тыя жыды> кажуць: "Што мы будзем шукаць, калі тут павуценне дажа ўсё цэлае!"

Яны ж у Ісуса Хрыста не вераць і цяпер. Яны ў Бога, кажуць, веруць, а ў Ісуса Хрыста не. Ну, хацелі яны Яго знайсці, а после нашлі ж усё ж такі Ісуса Хрыста.

### *Чаму асіна грэшная, а ёлачка святая*

107 А

*Зап. у 2001 г. ад Ганны Паўлаўны Курмысы, 1924 г. н., прав., 4 кл., в. Смаляніца, Пружанскі р-н, Брэсцкая вобл.*

– *А што на Тройцу ў хату нясуць?*

– Ліпу. <...> І основное трэба йір.

– *А асіну можна ў дом несці?*

– О не! Это грэшная осіна.

– *А чаго?*

– Потому шо Ісус Хрыстос, як Ёго распіналы, Ісуса Хрыста, о... І Вон сховався под осіну, а осіна задрыжала. Указала, значыцца, шо тут Ісус Хрыстос. То вона нэ сьвятая. Осыну нэ, <нельга ў дом нясці>.

А ёлочка Ёго, знаеш... Як Ісус Хрыстос под ёлочку сховався, так ёлочка і опусціла лісточкі, Ёго спратала. А осіна задрыжала і ўказала Ісуса Хрыста. То ёлочка, бач, і на Вэлікдэнь ее, і в цэркві вона светіцца... Вона сьвятая называецца. А вжэ осіна не. Грэшна.

### *Чаму ў бярозы галінкі апушчаны, а асіна трасецца*

107 В

*Зап. у 2003 г. ад Надзеі Пятроўны Хвясечка, 1926 г. н., прав., 2 кл., в. Мачуль, Столінскі р-н, Брэсцкая вобл.*

То Ісус Хрыстос под бірозою схороніўсо, бо біроза свое голлё навісіла, і тут под бірозою Вон сохроніўся.

А подошоў под осіну – а осіна ці е вецер, ці нема ветру, то вона шатаецца, той ліст. То сказаў Господзь:

– То ты будзеш, <...> покуда будзеш жыціма, трасціс, што Ісуса Хрыста не схороніла.

Во ето говорылі. Ці праўда, ці не праўда, но это-то говорылі.

### *Чаму асіна трасецца*

107 С

*Зап. у 2001 г. ад Кацярыны Якімаўны Качалоўскай, 1934 г. н., 7 кл., прав., в. Гута, Брэсцкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Ісус Хрыстос сховавса от тых палачыв, шо Ёго хотілы росп'еты на крыжы. Вын сховався на осыну. І сталы Ёго шукаты – і нэ знають, дэ Він подівся. Осына затраслася, задрыжала, і воны Ёго побачылы. То, казалы, то тожэ дэрво такое, абы-якэ. Нэ почытають ёго. <...> Вона і тэпэр трасэця, вона всё врэм'я трасэця.

### *Чаму асіна трасецца*[115]

### ****(З асіны цвікі для распяцця Хрыста)*

108 А

*Зап. у 2001 г. ад Кацярыны Пятроўны Супрунюк, 1935 г. н., прав., 5 кл., в. Гута, Брэсцкі р-н, Брэсцкая вобл.*

*– А чаму асіна нядобрае дрэва?*

– Тому шчо Ісуса Хрыста роспыналы, і в Ёго такіе гвозды ны лізлы, то тыко осыну взялы. Зробылы такіе гвозды, як Ёго роспыналы, і тымы гвоздямы тыко прыбылы Ёго до крыжа. Так росказувалы.

### ****(З асіны прылады катавання Хрыста)*

108 В

*Зап. у 2001 г. ад Кацярыны Емяльянаўны Дземідзенка, 1931 г. н., прав., 2 кл., в. Дывін, Кобрынскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Такая есть пісня, шчо як сталы Хрыста мучыты, загонелы дерво под ногті Хрыстовы. Нэ пушла ны клёнына, нэ пушла ны дубына, но проклята осына, о. І вона вжэ вродэ як проклята, Він йеі проклев: "Шчоб ты нэ взростала, од вітрыку поўсыхала, од вітрыку буйнэнького, от сонэйка яснэйкого, і шчоб трослася..." Ну, вобшчэм, вона ростэ, ростэ і трасэтца. Чы так було, чы нэ було…

108 С

*Зап. у 2006 г. ад Марыі Яўхімаўны Прушак, 1940 г. н., прав., 5 кл., в. Ямінск, Любанскі р-н, Брэсцкая вобл.*

*– Чаго асіна трасецца?*

---

[115] Далей пры паўторы гэтага этыялагічнага матыву ён пазначаецца зоркамі ***.

– Кажуць, там галіну ламалі: бярозу ламалі – не зламалі, дуба ламалі – не зламалі. А яе зламалі. І галінкаю таей білі Іісуса Хрыста. І вот яна за тым і трасецца. Што яна атламалася.

### ****(З асіны крыж для ўкрыжавання Хрыста)*
108 D

*Зап. у 2001 г. ад Еўдакіі Іванаўны Бондаравай, 1934 г. н., прав., 10 кл., в. Ляплёўка, Брэсцкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Крэст, на котором распят Іісус Хрыстос, із осінового дерэва. Я такое чула.

### ***108 E[116]

*Зап. у 2001 г. ад Вольгі Іванаўны Качалоўскай, 1934 г. н., 1 кл., в. Гута, Брэсцкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Там <на могілках> одного памятніка ставлялы, і там росла осына. Батюшка був і говорыть:

– Зрубайтэ тую осыну, потому шчо нэльзя на кладбішчэ, шчоб була осына.

А та хозяйка пытае:

– А чому нэ можно, шоб осына була на кладбішчах?

А вын кажэ:

Іісуса Хрыста роспыналы на осынэ. І нэльзя, шоб она була на кладбішчэ.

### ****(Асіна бачыла ўкрыжаванне Хрыста)*[117]
109

*Зап. у 2001 г. ад Галіны Мікалаеўны Палешук, 1936 г. н., прав., 4 кл., в. Клепачы, Пружанскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Я чула так. Калі распіналі Ісуса Хрыста, блізка радам стаяла асінка. Асінка расла. І, кажуць, яна гэта ўсё бачыла, як жывая. Такое відовішча было гэта! <...> Ну, такое відовішча, было палахліва, ну, такое жуткае. І яна стала, і ёй хацелася нешта сказаць, яна не магла, і толькі лісьцікі трасліся. Но сказаць яна нічога не магла, як дрэўца. І вот ад тых пор... Я чула крыху во так, што гаварылі. І яна ад тых пор такая палахлівая, у такім жуткім яна стаіць стане, і толькі яе тыя лісьцікі дражаць.

---

[116] У гэтым тэксце з'яўляецца дадатковая (адзінкавая) этыялогія "чаму асіне нельга на могілках расці".

[117] Нетыповае ўвасабленне этыялагічнай тэмы "чаму асіна трасецца". Тут асіна з'яўляецца не "грэшніцай", а "ахвярай".

### *Чаму асіна лячэбнае дрэва*[118]

110

*Зап. у 2001 г. ад Марыі Філіпаўны Якавук, 1923 г. н., прав., 7 кл., в. Люта, Брэсцкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Но она помоцное <дрэва асіна>. <...> Всё жэ Бог зашчычавса этым дрэвом. Крэст він ніс на собі, дрэво ніс. Значыть, у кого ногі болять – покаті по ногам, покаті во тако во, і воно нэ будэ болеть. Вона лечэбнэ дрэво. Поняла?

*– А што, з асіны крыж быў у Бога?*

Не. Він був з дуба. Но він – всё равно дэрво. Но осына – Бож'е дэрво. Він ніс на Голгофу-гору этот крэст свой... І дэрво осына стояло. І люді пряталыся <...>. Матерь Божая і Ангелы, Архангелы – все стоялі. І шчоб не віделі, так оні за осіну праталіс. Потому это дэрво осына помоцно́е людям. Понятно? Ясно? Всё.

### *Чаму свініну і бараніну ўжываюць у ежу, а каню цяжка жывецца*

111 А

*Зап. у 2003 г. ад Зоі Аляксандраўны Сарокінай, 1927 г. н., прав., в. Рэчыца Столінскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Конь буў. Вон зоховаўса до коня ў яслі, а конь Ёго выкінуў. А Вон зоховаўса у овэчкі, овэчкі – нет, у сьвінні – і сьвіння зорыла Ёго, зоховала. Сьвінню едять, овэчку едять, воны ж Ёго нэ выгонялі із этого. А конь узяў, выкінуў, то ёму, о, всю жызь тяжэло: вун горэ́, ездіть, всё тяжэло. Коню такую даў Бог <долю>.

### *Чаму конь не пад'есць*

111 В

*Зап. у 2003 г. ад Кацярыны Рыгораўны Ярмоліч, 1940 г. н., прав., 7 кл., в. Сітніца, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Як неколі жыды хоцелі сказніць Ісуса Хрыста, і Он хаваўса вяздзе, у яслях. І от еў конь, і Ісуса Хрыста ўкусіў за рэбро, і вот Бог зробіў коню так: шчобы он еў дзень і ноч і пасцівса, і ні наевса. Я знаю такую легенду, мой бацько расказваў такое.

---

[118] Адзінкавае ўвасабленне тэмы «асіна не "грэшніца", а "Бож'е дэрво", лячэбнае дрэва». Сама інфармантка –вядомая ў сваім асяроддзі (у тым ліку па навакольных вёсках) лекарка-знахарка.

### *Чаму ў рыб у галаве крыж*

112

*Зап. у 2000 г. ад Валянціны Сарока, 1941 г. н., прав., в. Бабічы, Шчучынскі р-н, Гродзенская вобл.*

– А вот во паўглядайцеся. Рыбу ці Вы калі ў галаве распраўлялі? Голаў? Ці Вы бачылі?

– *Што?*

– А бачылі крэст у галаве?

– *Не.*

– А, ну так вот. Патаму што Бог, як гналіся ірады за ім, за Ісусам Хрыстом… Ён жа ж бёг. Што прабяжыць гэтым полем, пад Яго нагамі ўсё згарала. Дабягае да мора, аж шчупак – велькі. І во-во яны Яго бяруць. Ён на яго і той Яго перабавіў на тую старану. І вот Ён доў ім, <рыбам>, усім крэст. Во паўглядайцеся, во паінцерасуйцеся. Як голаў Вы там сьпячэце ці зварыце, во разьбярыця яе. Настаяшчы крэсьцік.

### *Чаму яўрэі свініну не ядуць. Яўрэі іспытваюць Хрыста*

113 А

*Зап. у 2003 г. ад Фядоры Мікалаеўны Курак, 1931 г. н., прав., адук. не мае, в. Малыя Чучавічы, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Дзіцятко, шо кауць, <...> яны лавілі, хацелі забіць Суса Хрыста. А Сус Хрыстос з вучанікамі хаваўса. Дак Яго ж, бач, усянно жыд прадаў. А яны ўзялі, падлажылі жыдоўку пад начоўкі, да кауць:

– Ну, Ты ж Бог жэ ж, Ты ж хвалісса, шо Бог-вучыцель, шчо тут, угадай?

А ён каэ:

– Свінья з парасятамі.

А яны ў лапкі пляскаць, да:

– От, той угаднік, от і Бог, от і Бог, от угаднік – і не ўгадаў!

А ак адкрылі начоўкі, ажно праўда – свінья стала з тае маладзіцы! Апарасіласа, парасят навяла.

Дык яны ўжэ раз, каэ, голавы апусцілі... Із-за гэтаго, дзіцятко, прыказваюць, шо свініны з-за гэтаго яны не ядзяць. Цяпер-то ўгэ ядзяць.

113 B

*Зап. у 2005 г. Т.В.Валодзіна ад Марыі Сцяпанаўны Пракопіч, 1924 г. н.; Таццяны Іосіфаўны Пракопіч, 1932 г. н., в. Падбарэчча, Ляхавіцкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Хадзіў Ісус Хрыстос са сваімі ўчанікамі. <...> А жылі дзве бабы ў хаце. Не жылі, а былі. А хто там жыў, Бог іх ведае. Ды адна вышла, глянула – ідуць мужчыны. А яна бягом у хату і хоча схавацца. А хата невяліка. Стаялі кала стала начоўкі длінныя, лягла пад іх і схавалася. А яны як ішлі і ў тую хатку зайшлі. Потым з той пагаварылі:

– Ну, хто ў вас у хаце?

– Нікога няма.

– Вот была хазяйка, а цяпер будзе свіння.

Адкрываюць учанікі, а там свіння ляжыць. Жыдоўка была. Патаму жыды свінней не ядуць. Нельзя есці свайго цела.

113 C

*Зап. у 2007 г. ад Соф'і Браніславаўны Закавіч, 1935 г. н., катал., 3 кл., в. Любань, Вілейскі р-н, Мінская вобл.*

— *А не хавалі яўрэйку пад карыта?*

— Хавалі. Перад тым, як Яго расьпяць.

– А вот Ты такі прарок, такі ўжо знахар, Ты узнаеш... – Схавалі з дзяцьмі яе пад карыта. – Ну, хто тут?

А ён гаворыць:

– А тут сьвіння з парасятамі.

Так вот яны і сьвініну не ядуць. Адкрываюць гэтыя начоўкі, карыта гэтае – вылазіць сьвіння з парасятамі! Так вот з той пары яны не ядуць ужо.

У нашым, значыць, Законе, у рэлігіі, толькі тое паложано есьці, у чым раздвоены капыта. От сьвінню мы можам есьці, карову мы можам есьці, а каня ўжо не можам – не раздвоены капыта. А вот татары, мусульмане, – яны ядуць лашадзей. І жыды сьвініну не ядуць. У нашым Законе нельга есьці, дзе нераздвоены капыта, а ў іхным – дзе раздвоены капыта.

113 D

*Зап. у 2001 г. ад ад Ганны Паўлаўны Курмысы, 1924 г. н., прав., 4 кл.; Паўліны Іванаўны Севасцьянчык, 1940 г. н., прав., 7 кл., в. Смаляніца, Пружанскі р-н, Брэсцкая вобл.*

– *Чаму яўрэі свініну не ядуць?*

– Патаму шо Ісус Хрыстос под корыто ховавса. Да. А сьвіння корыто откінула.

– *<Так чаму яны свіней не ядуць?>*

– Правільно, так сказано і в Сьвятом Пісаніі, шо останэцца камэнь на камэні по Втором Прышэствіі Ісуса Хрыста... Это Іерусалім. Оні прэдалі Хрыста. Да, прэдалі. І всё, і воны будут первые наказаны Хрыстом. Так і сказано в Пісаніі. Воны прэдалі Его. <...> І воны сталі свінэю, в Его мыслях, воні в Его оказаліса свіньмі. Воны Его прэдалі. Да.

– І воны, яврэі, нэ ядять <свініну>.

## 113 E

*Зап. у 2007 г. Т.В.Валодзіна і У.А.Лобач ад Марыі Нікіфіраўны Кірылавай, 1916 г. н., в. Хадорына, Віцебскі р-н, Віцебская вобл.*

*– А ці праўда, што яўрэі не ядуць свініну?*

– Да, і зад свінячы.

*– Да? А чаго?*

– Таму, што там храсцец.

*– Ну вот, што яурэі сала не ядуць, можа там легенда якая ёсць?*

– Ну, гаворацъ, Храста хацелі абмануць. Пад карыта жанчына села, а як паднялі – свіння аказалася.

## 113 F

*Зап. у 2007 г. Т.В.Валодзіна ад Надзеі Кузьмінічны Буржсынскай, 1918 г. н. в. Завадзіна, Лепельскі р-н, Віцебская вобл.*

*– Чаго яўрэі свініну не ядуць?*

– Бог хадзіў па зямлі, прышоў у адну хату і што ён стаў гаварыць. І падсадзілі бабу і дзяцёнка пад начоўкі пад якія бальшыя. Адгадай, хто тут ёсь. А ён будзець казаць: “Чорт з рагамі. Во так”. Адкрываюць, а ён і ёсь.

— *Там чорт?*

— Да. Чорт. Такія былі сказкі.

— *І што ён рабіў?*

— Ну, што, – даў дрыла і ўсё. І ўцёк.

— *Таму яўрэі не ядуць свініну?*

– А, яўрэі? Тожа Ісус Хрыстос хадзіў па зямлі і заходзіць у адну хату. А там яўрэі. А яўрэі – яны ж рускіх ня дужа абажалі. Пасадзіў жыдоўку і з рабёнкам і пытаець: “А хто там ёсь?” А Ён: “Чорт з рагамі”. Падымаюць, а там ёсь. Во такія...

*** *( Бог сатану ўтапіў разам са свіннямі[119] )*

114

*Зап. у 2003 г. ад Марыі Данілаўны Зінкевіч, 1933 г. н., прав., 3 кл., в. Сінкевічы, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Бог сатону послав, хоцеў ёго стрэліць, а он сховаўса ў стае сьвіней. А Бог так дав, шо ўсіх этых сьвіней согнаў у морэ і ўтопіў, і сатону ўтопіў разом. Вот за гэтого жыды ні едзяць сала. Едзяць цепер усяку холеру.

## Распяцце Хрыста[120]

### *Пра адмову Пятра, Распяцце і Уваскрэсенне*

115

*Зап. у 2007 А.М.Боганева і Т.В.Валодзіна ад Марыі Рамаnаўны Лабко 1933 г. н., прав., 2 кл.; Вольгі Васільеўны Стасюк, 1929 г. н., прав., 4 кл., в. Вулька-1, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

*– А не казалі ў вас даўней, што цыганам красці можна?*

– Не, у нас этого не казалі.

– Я чула, але ж выдумкі это всё. Шчо цыган гвоздзі ўкрав, і шчо ім можно і красці. А это всё выдумка. Старые людзі казалі.

*– А не казалі, што калі Хрыстос уваскрос, то смажаны певень заспяваў?*

– То Ісус Хрыстос так сказав, шчо... Яго учанік казав, шчо я за Тобою буду всюду, всюду пойду. А Хрыстос Ёму сказав: “Ты, Пэтро, трыжды пэвэнь пропоёт, і ты од Мэнэ откажэсса”. Это Сам Ісус Хрыстос сказав Пэтру. І так і було.

– А смажаны ніякі пэвень не засповае.

– Еврэі далі Ісусу Хрысту крэста, і Вын мучывса, аж стогнав. І Его поставілі <на> того крэста...

– Еврэі нэ зналі, шо то Хрыстос. А Хрыстос всё равно за іх молывса: “Просці, Господзі”...

– Так і Хрыстос быв тожэ еврэй. А в еврэев був такі закон, шчо не можно було забэрэменець дзевочке. А тут Бог наслав на Марыю Дух Сьвяты, і Вона забірэмінела.

– Ну, а потом Он воскрэс, Ісус Хрыстос. Всі бэгуць, глядзяць, не вераць, шчо Він воскрэс, шчо нема Ісуса Хрыста, шчо воскрэс. І Хрыстос воскрэс і вот по сіх пор Вон...

---

119 Пераказ евангельскага матыву вылячэння беснаватага, у якім быў легіён бесаў (Мф. 8:30–32; Мр. 5: 11–13; Лк. 8:32–33), з этыялагічным вывадам-інтэрпрэтацыяй: яўрэі не ўжываюць свініну, таму што ў свіней увайшлі бесы.

120 Гэта тэма рэалізуецца пераважна ў народна-апакрыфічным ключы праз этыялагічныя легенды.

– Поэтому на всэні́чной будзяць Хрыста і спэваюць: “Хрыстос воскрэсе із мэртвых, смэрцію смэрць поправ і сушчым во гробех жывот даровав...” *(спяваюць разам).*

### *Тайная вячэра, здрадніцтва Іуды, пакуты Хрыстовы*[121]

116

*Зап. у 2007 г. ад Соф'і Браніславаўны Закавіч, 1935 г. н., катал., 3 кл., в. Любань, Вілейскі р-н, Мінская вобл.*

І от узяліся за Хрыста. Адны людзі крычаць, што не нада, і ўжо людзі асудзілі, што не нада – не нада ўжо расьпінаць Яго. А другія пашлі ўжо да гэтага Ірада і кажуць:

– Есьлі ты Яго не разапнеш, то нам не цар!

І ён, значыць, радзі гэтых людзей <вырашыў распяць>...

А Ён даў пасьледнюю вячэру.

Патом жа ж ужо дванаццаць апосталаў у Яго было на вячэры. Пасьледнюю вячэру Ён даваў і сказаў:

– З вас, значыць, Мяне нехта прадасць.

Ну, Ён знаў, хто прадасць Яго. А тады людзі былі некіе адзінакія-адзінакія, адзін на днаго пахожыя, у плашчах, не можна было разабраць Хрыста, не можна было пазнаць і паняць. І тады найшоўся адзін. Заплацілі яму трыццаць срэбнікаў... Гэта не Іуда. Гэта Яго апасто́лы. А купіў яго, канешна, Іуда, трыццаць срэбнікаў даў.

*– Дык Іуда падкупіў?*

– Да, падкупіў. Яны ж не знаюць, хто, дзе той Хрыстос, усе адзінакавыя людзі – у плашчах, у накідках усякіх, усе барадатыя... Жыды ж, яны не стрыгуцца да трох гадоў.

А патом прывялі Яго на суд... А так гэта Пётр Яго прадаў. Апостал Пётр:

– Я Яго падыйду пацалую.

А Ён знаў, хто Яго прадасьць.

– І вот, – кажэць, – адзін з вас Мяне прадасьць.

І як ён Яго пацалаваў, так на Яго і накінулісь гэтыя. Накінулісь – і началі пляваць, началі гандзяць па ўсякаму, і надзелі Яму сразу вянок із церня, цярновы вянок. І вот ужо насьмяхаліся:

– От цябе, – кажуць, – іудзейская карона.

---

[121] У дадзеным тэксце-пераказе маецца арыгінальны матыў, які тлумачыць неабходнасць здрадніцтва Іуды для праследавальнікаў Хрыста. Яго і вучняў нельга было адрозніць знешнім людзям, толькі апосталы маглі Яго адрозніць і пазнаць.

## Удзел жывых істот у падзеі Распяцця

### *Чаму ластаўка – святая птушка*[122]

117

*Зап. у 2001 г. ад Марыі Філіпаўны Якавук, 1923 г. н., прав., 7 кл., в. Люты, Брэсцкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Матер Божая... Ісус Хрыстос вісыв на крэсту, і Матер Божая з ангеламы і архангеламы подышла іскать Ісуса Хрыста на Голгофу-гору. То тыі ластушкі вылысь коло Ісуса Хрыста і указувалы путь, дэ Ісус Хрыстос вісыть на Голгофе-горы. І потом оні називаюцьця сьвятая птушка. Понятно? О. Она ўказывала Матер Божую, дэ Ісус Хрыстос вісыть.

### *Чаму ў ластаўкі чырвоная кропелька на грудцы*

118

*Зап. у 2001 г. ад Кацярыны Аўрамаўны Раздарожнай, 1928 г. н., прав., 3 кл., в. Дубіца, Брэсцкі р-н, Брэсцкая вобл.*

У ластоўкі есть под горлушком красное. Это она гвоздя прынэсла, як Ісуса Хрыста роспыналы. <...> Як прыбывалы, і кроў брызнула под горлушко.

### *Чаму ластавак і павукоў нельга крыўдзіць*

119

*Зап. у 2006 г. Т.І.Кухаронак ад Соф'і Дзмітрыеўны Нікулінай, 1925 г. н., прав., 8 кл., в. Хаціслаў, Маларыцкі р-н, Брэсцкая вобл.*

*– Чаму ластавак нельга біць?*

– Ласточок нэможно біты, потому шчо, говóрат, шчо гвоздыкі з Ісуса Хрыста выцягвалі, із ног, із рук. Так говорат. І повука <...> тожа нэможно забываты, шчо вродэ основывався свет, так як повукі...

### *Чаму вераб'і скачуць, а не ходзяць, і шукаюць сабе прытулку*

120

*Зап. у 2001 г. ад Паўліны Іванаўны Севасцьянчык, 1940 г. н., прав., 7 кл.; Ганны Паўлаўны Курмысы, 1924 г. н., прав., 4 кл., в. Смаляніца, Пружанскі р-н, Брэсцкая вобл.*

---

[122] У легендах 119–121 аднолькавы этыялагічны вывад: ластаўка – святая птушка і яе нельга крыўдзіць, але рознае ўвасабленне тэмы. У тэксце 120 з'яўляецца дадатковы этыялагічны матыў "чаму ў ластаўкі чырвоная кропелька на грудцы". У тэксце 121 павукі з'яўляюцца чыста асацыятыўна ў сувязі з забаронай іх забіваць, але зусім з іншай этыялагічна-касмаганічнай тэмы, якая не мае адносін да Біблії, –снавання свету павуком.

– Як Ісуса Хрыста роспіналі, <...> то гороб'е гозді подносілі этым усім істязателям, а ласточкі одбіралі і односілі.

– Бач, вон з того горобэй нэ ходыть, а скачэ.

– Да. Вон нэ йдэ, а скачэ. А ласточкі одбіралі гозді і односілі. А вон туліцца і шукае собі прытулку. Его дажэ і прозвалі Іуда.

*– Вераб'ёў?*

– Да, ёго жыдом зовут во всіх народах. Да, жыд.

### *Чаму вераб'ёў лічаць здраднікамі*

121

*Зап. у 2001 г. ад Ірыны Паўлаўны Свербы, 1965 г. н., прав., сярэд. спец. адук., в. Знаменка, Брэсцкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Як Ісуса Хрыста роспялі на крэсце і рукі-ногі Яму гвоздзямі прыбілі... І вот вороб'і крычалі, шо жыв-жыв – это оні так чырыкалі, но получалось, шо жыв-жыв-жыв. Шо вон шчэ нэ вмэр на том крэсце, шо тіпа шчэ Его надо мучыты, шчо Вон шчэ нэ іздав последнее дыханне. Вот, понімаетэ...

*– Дык вераб'ёў, якімі лічаць?*

– Шчытают такімі вот прэдацелямі. Всё чів-чів-чів, а в пэрэводе – жыв-жыв-жыв.

### *Чаму вераб'ёў крыўдзіць нельга*[123]

122

*Зап. у 2002 г. ад Ірыны Аўгусціновіч, 1969 г. н., катал., в. Войстам, Смаргонскі р-н, Гродзенская вобл.*

Дзед казаў, што калі жыды распіналі Хрыста, то птушкі многія тожа сабраліся і глядзелі. Не толька людзі, але і птушкі. Ён расказываў некалі, што вераб'і... Мы ж усягда гаворым, што яны гультае, лётаюць вот, нічога не патрэбныя. Яны абсалютна непатрэбныя. А <дзед> гаварыў, што яны маюць ад Бога прывілегію. Патаму што, як распіналі Хрыста, яны ўсё ўрэмя даказывалі, што Ён жыў-жыў, жыў-жыў. Нават тады, калі апосталы не вельмі паверылі, што Ён уваскрэсьнец праз тры дні, вераб'і ўсі дні ціўкалі, лёталі вакруг гэтага цела і гаварылі: "Жыў-жыў, жыў-жыў!" І яны за то па сей дзень лётаюць і па мусарніках, і ўсюды, і жывуць каля чалавека, хаця карысці ад йіх ніякай. Чалавек так счытаець. Але той, хто абіжаець вераб'я, той будзець перад Богам вінават.

---

[123] Нетыповы, але цалкам лагічны, "доказны" тэкст з этыялагічным матывам забароны крыўдзіць вераб'ёў.

### *Чаму жаваранак першы з птушак на радзіму вяртаецца*

123

*Зап. у 2005 г. Т.В.Валодзіна ад Марыі Сцяпанаўны Пракопіч, 1924 г. н.; Таццяны Іосіфаўны Пракопіч, 1932 г. н., в. Падбарэчча, Ляхавіцкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Прыляцеў жаваранак першы. Ісус Хрыстос быў на хрысце. Жаваранак прыляцеў, а ў Хрыста была провалака на лбу, така ледака калюшча. Прылецеў і дзёўб, дзёўб, і выцягнуў тую калюку. Бог даў яму, каб першы прылятаў сюды да нас.

### *Пра павука*

124

*Зап. у 2002 г. ад Яўгеніі Ляшчэвіч 1932 г. н., катал., 5 кл., в. Войстам, Смаргонскі р-н, Гродзенская вобл.*

Калі Бог вісеў на крыжы, так павучок ат сонца зрабіў гэту павучынку, зацянуў. Каб Яму ў вочы сонца не сьвяціла.

### *Чаму хрэн нельга есці*

125

*Зап. у 2001 г. ад Марыі Філіпаўны Якавук, 1923 г. н., прав., 7 кл., в. Люты, Брэсцкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Вот счас едім мы хрэн. А всё жэ по закону хрэн нельзя кушать. Хрыста пойілы уксусом – оцот давалы піть і хрэн давалы есть. Шоб Он мучылся. Он піл оцот і ел хрэн. Он мучылся, но Он нэ крычал і нэ вішчал. Он всё ел, шо Ему давалы. Потом наделы на голову терновы венец з колючого терна. Знаете, какой терн? І Он всё терпел і был залітый кроўю. І Он всё терпел.

### *Чаму цыгану красці можна*

126 А

*Зап. у 2007 г. ад Соф'і Браніславаўны Закавіч, 1935 г. н., катал., 3 кл., в. Любань, Вілейскі р-н, Мінская вобл.*

Як распіналі Хрыста, было чатыры гваздзі. Ён чацьвёрты гвоздзь – цыган украў, асталіся тры. Так вот яго ўжо не расьпялі на крэст, а прото вот рукі, а ногі адзін на адным. За то цыгану дазволена красьці. Понялі? За гвозд, за адзін гвозд разрашэнне палучыў!

– *А гэта праўда? Гэта не казка?*

– Не! Гэта не казка. Дажа мае бацькі расказывалі і маці мая…

126 B

*Зап. у 2002 г. ад Яніны Лазовіч, 1934 г. н., катал., в. Альхоўка, Астравецкі р-н, Гродзенская вобл.*

Ўзялі Пана Езуса і распінали на крыж. І чатыры гвазды прырыхтавалі: прыбіць дзьве рукі і дзьве нагі. А цыган падышоў і ўкраў адзін цьвек. І вот тады, як сталі прыбіваць Пана Езуса, як цыган украў адзін цьвек, расьпялі: дзьве рукі прыбілі, а дзьве нагі не было як прыбіць. І злажылі нага на нагу і прыбілі, бо аднаго цьвяка не хватала.

Так вот з гэтых пор сказалі, што цыганам <красці можна>. Даўней цыганоў не судзілі за тое, што яны кралі, і іхны так паво́д ужо…

– *Дык, а чаго цыган украў гэты цвік?*

– Ну, ён хацеў дапамагчы…

126 C

*Зап. у 2000 г. ад Паўла Дзянішчыка, 1918 г. н., прав., 4 кл., в. Поўсаты, Дзятлаўскі р-н, Гродзенская вобл.*

Ісуса Хрыста, як на крэст яўрэі цягнулі, так яны, <цыгане>, плявалі ім ў вочы тым здзявальнікам… Цыгане зашчышчалі Ісуса Хрыста. І вот ім ужо Бог такі даў лёгкі хлеб. Што вот яны ні зямлі не робяць, ездзяць сабе табарам і ніякіх труднасцей ім няма. За гэта ўжо Бог пажалеў і лёгкі хлеб ім даў, што яны жалелі і зашчышчалі, і плявалі, і кідалі ўсім...

– *А цыгану Бог і кражу даруе?*

– Да, да.

– *І што, у цыган добрае жыццё?*

– Ну не очэнь… Не трудзяцца… Хто ж пазавідуе ей, іхняй жызні. Але ж яны не рыюцца ў зямлі, гэтак як мы. Гасподняя воля…

126 D

*Зап. у 2003 г. ад Кацярыны Рыгораўны Ярмоліч, 1940 г. н., прав., 7 кл., в. Сітніца, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Ну вот Хрыста роспінали. А там жэ была пустыня, гэто ж ні ў нас тут – гвозьдзей не было. Оны взялі пяць гвозьдзей, ну, прыбілі Хрысту рукі, ногі. А цыган там всэ матавса коло йіх, потым того́ одного гвоздзя последняго – цап і вхопів. І Хрысту не было голову чым прыбіць ужэ. І тые бегаюць, шукаюць, дзе гвоздзь пяты дзевса? Пытаюць:

– Мо ты взяв?

– Да ей Богу, я не взяв!

І от поэтому цыганы ходзяць і обманваюць людзей, а іх Бог не карае.

126 Е

*Зап. у 2003 г. ад Анастасіі Сцяпанаўны Шэлест, 1935 г. н., прав., адук. не мае, в. Асаўцы, Столінскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Як Ісуса Хріста мучалі, цыганка стояла. А Ёму трэба було гвоздзя ў сэрцэ, Ісусу Хрісту. У рукі зобілі, у ногі зобілі і в сэрцэ нада. А села муха на сэрцэ. А цыганка вэльмі прі тых, што воны Його ўбівалы, давала голову одсэчы: "Нэ, это гвоздзь зобіты!" І нэ зобілі Ісусу Хрісту гвоздзя ў сэрцэ.

### *Чаму цыгану красці можна, адкуль хрэн і чаго ад яго плачуць*

127

*Зап. у 2002 г. ад Марыі Карпіцкай, 1943 г. н., катал., 8 кл., в. Ізабэліна, Астравецкі р-н, Гродзенская вобл.*

Цыган і цяпер крадзе і граху яму німа. Таму што Пана Езуса замучылі і прыбілі на крыж. А быў там цыган, і ўзяў ён украў гвозьдзь, і забіў у зямлю, схаваў. Вот зато хрэн расьце ў нас. Мы хрэн як зьядзём – так плачэм. А гэта заўсягда на Пасху, Вільканоц капаем хрэны, ў нас заўсягда ёсьць на стале гэты хрэн з мясам.

– *Гэта што, на ўспамін...*

– Да, пра тое ўспамін, пра гэты цьвек. І цыгану цяпер разрешано... Але цыганы крадуць і любяць красьць, у іх такое пацянгненне ёсьць, патаму што ён украў цьвек. І яму німа граху. Ён і каня ўкрадзе – і няма граху.

### *Чаму ў цыгана валасы кучаравыя*

128

*Зап. у 2002 г. ад Марыі Міхновіч, 1927 г. н., катал., 1 кл., в. Альхоўка, Астравецкі р-н, Гродзенская вобл.*

А цыган не меў, куды дзець <украдзены цьвік>, у валасы ўкруціў, ўкруціў... Затое ў цыганоў у ўсіх валасы кучаравыя.

### *Чаму цыганам падаваць трэба, адкуль рыба ўюн*

129 А

*Зап. у 2007 г. ад Ганны Адамаўны Муравейка, 1946 г. н., прав., 8 кл., в. Малыя Чучавічы, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

І цыганку не можна <праганяць>, ўсегда мама казала цыганам даваць. Патаму шо як Ісуса Хрыста прыбівалі, так яны кралі цьвікі ад етых во, хто Яго прыбіваў. І кі́далі то туды, то туды. Гэты цьвікі падалі ў воду – то это ўюны Бог паслаў людзям. Уюны. Так цыганку, прыйдзе – хоць што-небудзь дай. Хоч яечко, хоч кусочак хлеба, – ўсегда цыганцы што-то дай. <...>

Адзін раз ўюноў налавілі багато, так мама кагэ: "От Господзь Бог паслаў... Гэтыя гвоздзі вялікіе, што прыбівалі…"

129 В

*Зап. у 2006 г. ад Паўліны Навумаўны Ільюшчыц, 1925 г. н., прав., 2 кл., в. Рог, Салігорскі р-н, Мінская вобл.*

Это жыды былі, і цыганы, і рускіе – усе такіе іх пудчынёные. А ёны ж, бачыш, узялі і продаліса. Да Ісуса Хрыста, бачыце, як мучылі? А Божая ж Матка ўсё іскала Его. А яны не прызнаваліся анідзе. Дак от затым мо і кауць: цыганам за то і лёгкая жызьня. Цыгану загадалі попрыбіваць рукі Ісуса Хрыста. А ён за того гвозда – да і ўкінуў сам у воду. А з того гвозда зробівса в'юн. Так которыя ж раньшэ і не елі. Это цеперака ўгэ едзяць.

Ну, і тую казку ўгэ докагу. Цыган кагэ: "Не трымаймоса, да перед Божай Маткай прызнаймоса, Што відалі Сына. Што Ваш Сын замучаны, розоп'яты, усяк".

*– А які ўюн?*

– Ну, ріба такая. Наподобіе гадзюкі. Як гадзіна.

### ***Пра Распяцце і сотніка***[124]

130

*Зап. у 2003 г. ад Мікалая Антонавіча Ракаўца 1926 г. н., прав., 4 кл.; Лізаветы Гаўрылаўны Ракавец, 1924 г. н., прав., адук. не мае, в. Аздамічы, Столінскі р-н, Брэсцкая вобл.*

А когда, значыць, ужэ прыбілі да Господзь пусціў дух, так потрасліса і горы, і в цэркві... І сотнік, которы в'ёў этых воіноў, штоб браць Хріста, так вон прышоў да кажэ:

– Господзі, я ж, – кажэ, – знаю, што Ты Бог, не хочу!

А Господзь сказаў:

– Шчо тобе поручылі, ты дзелай!

---

[124] Мф. 27:54.

І оні забралі. А когда Господ спусціў дух, беглі всі, і вон біў у грудзі:

– Воісціну Сын Бога!

І вон поверыў, эты самы сотнік, і Петро-опостол.

### *Даручэнне Хрыстом Маці Божай апосталу Іаану*[125]

131

*Зап. у 2007 г. ад Соф'і Браніславаўны Закавіч, 1935 г. н., катал., 3 кл., в. Любань, Вілейскі р-н, Мінская вобл.*

Як Яго расьпіналі траслася зямля. А Маткі ж дома не было, Матка недзе была атыйшоўшы. А потым падыйшла Матка і Ён гаворыць:

– Матка, от Табе, – кажэць, – апякун Твой, Ян. Ты яго Матка, а ён Твой сын, апякун.

Яна кажэць:

– Ай, чаму ж гэта, чаму?

А Ён кажэць:

– Па вяленню Бога. Па распараджэнню Бога. Так нада ўжо.

### *Выявы на месяцы*

132

*Зап. у 1999 г. ад Ганны Гукала, 1912 г. н., прав., адук. не мае, в. Курылавічы, Мастоўскі р-н, Гродзенская вобл.*

*– А на поўным месяцы плямы, то што?*

– Як кажуць, распяты там Ісус Хрыстос.

### *Распяцце, пахаванне і ўваскрэсенне Хрыста*

133

*Зап. у 2007 г. ад Соф'і Браніславаўны Закавіч, 1935 г. н., катал., 3 кл., в. Любань, Вілейскі р-н, Мінская вобл.*

А з Ім жа ж яшчэ на крэсце расьпіналі разбойнікі. І патом этыя ж разбойнікі скора ж памярлі. Дажа ў мяне есьць іконы гэтыя. А Хрыстос не мог ніяк памярці. Тады Яму прэпаднесьлі дзіду такую і прабілі бок. І пацякла кроў і вада. Тады ўжо Ён памёр.

*– Ну, а потым Ён жа уваскрос?*

– Уваскрос, канешна, Ён уваскрос. Дак вот цяпер жа у жыдоў гэты абрад ёсь, прадалжаецца, ну мусульманы яны! Закапалі ў пячору яны.

---

125 Паводле Евангелля ад Іаана Хрысту прабіваюць перадсэрдзе пасля таго, як Ён памёр (Ін. 19: 25–27).

Не давалі, зьняць жа ж Яго не можна было. Хадзілі да гэтага Пілата, цара, каб разрашыў Хрыста із крэста. І яны Яго ў пячору замуравалі. Пахаранілі Яго там. Патом Ён ляжаў тры дні ў гробе і патом Ён уваскрос. Прышлі яны аткрыць, Матка ўжо ж прышла, і Магдаліна сьвятая там і зь Ей… Яны аткрылі пячэру – а там ужо нічога нема! Толькі тое палатно, што Яго ўвярцелі. А тады ж касьцюмаў не было, нічога… Вот завернуць так, і ўсё. Касьцюмаў не было, хадзілі голыя, босыя… І на іконах так ёсьць на праваслаўных. І вот Матка прышла, і Магдаліна, дак жа ж Яго няма, толькі палатно асталося.

### *Пропаведзь Хрыста ў пекле*

134

*Зап. у 2007 г. ад Соф'і Браніславаўны Закавіч, 1935 г. н., катал., 3 кл., в. Любань, Вілейскі р-н, Мінская вобл.*

А Ён як уваскрос, сразу ступіў да пекла. Ачысьціў пекла. Патом ужо пайшоў на небеса. І вот душа людская не ўміраець нікагда. Якой бы ні была нацыі, веры, душа людская не ўмірае. І вот Ён ачысьціў пекла і ўступіў да раю, у небеса пашоў. І сорак дней… Тожа Ён сваё наказанне прайшоў, і ўжо абратна зьявіўся і людзям аб'явіў. Но Яго не ўзнавалі, не прызнавалі ўсё раўно.

## Самагубства Іуды

### *Чаму асіна трасецца*

135 A

*Зап. у 2002 г. ад Меланьі Музалевай, 1936 г. н., прав., 4 кл. в. Карабы, Ашмянскі р-н, Гродзенская вобл.*

– *Чаго асіна трасецца?*

– Яснае дзела, чаго. Таго што Іуда-прэдацелю ўдавіўсь, каторы Хрыста расьпяў. Ён удавіўся на асіне. І вот яна трасецца.

135 B

*Зап. у 2003 г. ад Анастасіі Міхайлаўны Ярмоліч, 1944 г. н., прав., сярэд. спец. адук., в. Сітніца, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Осіна трасецца, потому шо Іуда ўчэнік быў Хрыстоў. Да. І он прадаў Хрыста, выдав Ёго. Хрыста ж потом вжэ роспьялі ўзялі, і осіна с тых пор трасецца, лісточкі, вона бойіцца.

А потом жэ эты Іуда повесіўса вжэ на осіне. Ёму было як-то вжэ плохо, шо он выдаў, каявса, і вон повесівса. І осіна вжэ бойіцца, вродзі бы бойіцца вона. Подходзіць чоловек – вона трасецца.

135 C

*Зап. у 2008 г. Т.І.Кухаронак ад Галіны Іванаўны Марковіч, 1939 г. н., прав., в. Дворыца, Ушацкі р-н, Віцебская вобл.*

Асіна трасецца, узяў хто-та і павесіў этага Іуду. Яму страшненька было, тросся ён і вот цяпер асіны трасуцца. Ветру нет, а яны ўсё трасуцца, і трасуцца, і трасуцца. Яму было страшна, што яго павесілі. Вот так я чула.

### *Чаму алешына чырвоная*

136

*Зап. у 2003 г. ад Адама Паўлавіча Шэлеста, 1930 г. н., нар. у в. Гарадная, прав., 2 кл., жыве ў в. Асаўцы, Столінскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Кажуць, на осыны Юда задавіўса. А на олэшыну з ёго кроў капала. Ольху, ольховое дэрэво, кору знімі – она красная, бі кроў по ёму. А осына, вона, кажуць, со страху трасэцца...

### *Чаму пярун у дуб б'е*

137

*Зап. у 1998 г. ад Антона Андрэевіча Савельева, 1912 г. н., прав., в. Полькавічы, Шумілінскі р-н, Віцебская вобл.*

Пад дубам апасна.... А Іуда павесіўся на макушке, і дуб прахіліўся тры разы, каб ён зняўся – ні за што не зняўся, так і астаўся. ...Так пярун у дуб лупіць.

## Уваскрэсенне Хрыста

138 A

### *Як смажаная рыбіна затропалася, а певень заспяваў*

*Зап. у 2010 г. А.М.Боганева, Т.В.Валодзіна ад Паўліны Навумаўны Ільюшчыц, 1925 г. н., прав., 2 кл., в. Рог, Салігорскі р-н, Мінская вобл.*

Это Божая Матка угэ Тайну вечэру варыла по Сусу Хрысту. Ето-то чула, росказувала матка моя. Як только ўгэ наготовіла Его отмеціць, да нажарыла рыбу, да толькі хоцелі есьці, ажно хто-то, не ведаю толькі хто, явіўса да кагэ:

Матка, Сус Хрыстос воскрэс!

А Ёна каэ:

– Не веру. <…> Этого не бувало і не бувае, Я не веру. <…> Я тогды толькі поверу, когда эта рыбка на тарэлоццы ўстрэхнецца і петушок <вараны> крыльцамі ўзмахне. Тогды Я поверу!

А рыбка устрэхнуласа, а петушок крыльцамі… Это вараные!

То Сус Хрыстос уваскрос.

### *Як смажаны певень заспяваў, калі Хрыстос уваскрос*

138 В

*Зап. у 2003 г. ад Зоі Аляксандраўны Сарокінай, 1927 г. н., прав., в. Рэчыца, Столінскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Замучілі, і ўжэ в чэтверг – пэрэд Паскою в чэтверг – замучілі, і каменя тяжолого навалілі. І прішлі ўжэ вэчэраті жыды. Прышлі і варылі пеўня. Пеўня зварылі і на тарэлку поклалі. І ўжэ вэсэляцца: “Вот, як этой певэнь на тарэлцы зоспівае, так тогда Ісус Хрістос устанэ, воскрэснэ!” А тэй певэнь на тарэлцы: “Ку-ка-рэ-ку-у!” – заспэваў. І воны всэ засмуціліса, і пошлі в Егіпет.

### *Чаму на Пасху трэба да сонца разгавецца*

139

*Зап. у 1997 г. В.І.Басько ад Ганны Цялятнікавай, 1917 г. н., прав., в. Вокшыва, Гарадоцкі р-н, Віцебская вобл.*

На Паску нада да сонца паесць, штоб яўрэі шчэ спалі, штоб паскі паесць нам упярёд за яўреяў. Гаворяць, што яны стараюцца, каб нашу Паску “заесць”, <паснедаць першымі>. А мы стараемся, каб яны нашу Паску не “заелі”, штоб яны яшчэ спалі. Эта, штоб багацце было нам, і штоб нам іх перадалець.

Яўрэі не любілі нашу Паску. Яны ж Ісуса Хрыста распялі. І рукі распялі, і ногі. Хацелі гвоздзь убіць у грудзь, а муха села, <і яны падумалі, што гэта цвік>. Значыць, Ісуса Хрыста яны поўнасцю не распялі. Яны Богу верілі, а Хрісту ня верілі.

### *Чаму яйкі фарбуюць на Пасху*

140

*Зап. у 1999 г. ад Леакадзіі Кудрыцкай, 1923 г. н., катал., в. Талькаўцы, Ваўкавыскі р-н, Гродзенская вобл.*

А Пан Езус жа як умёр, і ўжо Пана Езуса пахавалі. Але на Пана Езуса нігдэ сьмерць, Ён жа каля Пана Бога сядзіць і жондзіць усім. Бо Ён гэтак цярпеў, гэтак Яго мучылі страш-

но, гэтак і плявалі, і ўсё рабілі. Расказывала мама наша, як на Вялікдзень, на Пасху, Пан Езус ішоў. А йшла жэншчына і нясла яйца. І Пан Езус пытае:

– А гдзе ты пуйдзеш?

А яна кажа:

– Пайду да касцёла.

А Пан Езус сказаў:

– По́днесь до Міне, поднесь гэты кошык.

Яна паднясла да Пана Езуса, палянула, а ў яе сталі ўсе яйцы красныя. І ат тае пары людзі яйцы красяць.

– *А чаму менавіта ў чырвоны колер?*

– А ўсякі. Там усякія былі колёры. Яна палянула ў кошык, а ў яе ўсялякія колёры. Во гэдак цяпер і красяць. І ад тае пары гэдак ідзе. Гэта ўсё калісьці, калі Пан Езус хадзіў па сьвеце. І гэтак цяпер усе людзі модляцца, і гэдак усё ідзе ад тае пары.

### *Чаму камбала плоская, пятух звонка спявае, на Пасху цыбулю не ядуць, а чырвоным яечкам хрыстосуюцца*

141

*Зап. у 1998 г. ад Антона Савельева, 1912 г. н., прав., 2 кл., в. Полькавічы, Шумілінскі р-н, Віцебская вобл.*

Вот глядзі, раз прышло к разгавору: “ні пуха, ні пяра”. Хто Хрыста казніў, ці знаеце? Ну, я Вам раскажу. Эта расказваў дзядзька. Жыды. Яўрэі. Хрыста забілі, і цыбулю жавалі і плявалі, і што ні дзелалі. Так во некатарыя гаворяць – на Пасху лук есць нялься, горькій, раз у Хрыста плявалі.

Так яны Яво забілі, і ў гроб палажылі, і пашлі памінаць… тут у хату. І тады ўзялі сварылі пятуха, на стол паставілі, і рыбіну марскую бальшую ізжарілі. Ну і што, гаворяць:

– Калі, – гаворяць, – ета рыбіна тропнецца і калі еты пятух запяець, – тады, гаворяць, Ён устанець.

Рыбіна затропала: лоп-лоп-лоп – бух на стол. Пятух <паскакаў> галопам і «Ку-ка-река-ку!» Во і пяець на ўвесь сьвет пятух. А ета рыба камбала, у яе адзін бок ат`едзены, другій па морю плаваець, вы відзелі – шырокая такая, жоўты бок, падпечаны. А во ета вот як раз прышэствіе і даказываецца.

А тыя туды скарей у гроб глядзець і йіхныя дзеці пабеглі сзадзі. А дзеці камяшкі збіраюць і кідаюць туды ў гроб, а

етыя камянькі сдзелаюцца красным яечкам. Во, краснае яечка на Пасху, раз Хрыстос Васкрэс.

Вот хош ты вер, хош ня вер. Па Пісанью так і шло, так і ідзёць.

### *Чаму яйкі на Пасху фарбуюць, пра смажанага пеўня і рыбіну*

142

*Зап. у 2000 г. В.І.Басько ад Соф'і Пятроўны Трашчылы, 1928 г. н., прав., в. Аснежыцы, Пінскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Мы вот одын раз булы ў цэркві, і одна жэншчына прынэсла зілёнэ і жоўтэ яічко. Посмотрэў поп, і это зілёнэ і жоўтэ выбросыў, і сказав: "Увэдітэ эту жэншчыну". Это лічно пры мні було. Это нашчо прынэсла зілёные, жоўтые, а почэму нэ красные?

А красные, это Ісус Хрыстос ішоў і ніс у руццы яйцо красное. А отрок Ёго ж просыў:

– Токое красівое, просто сіяюшчэе, подары мні ёго!

Ну, Вун ему скозав:

– Я тебе подару, як ты скажэш: "Хрыстос Воскрэс!"

А Он ішоў з ім длінную дорогу і нэ говорыў. А потом так ему это яічко зохотілоса, і вун сказаў:

– Подары мні всё жэ это яічко, то я скажу "Хрыстос Воскрэс".

– Ну, скажы.

Он сказаў, і Хрыстос подарыў ёму это яічко. Ісус Хрыстос Сам ішоў дорогою с отроком і подарыў этое яічко, поэтому традіцыя красыть яічко. Отрок – гэто буў сын того, который роспынаў і іздіваса, шо продаў Ісуса Хрыста на муку, о. <...> Ісус Хрыстос сказаў ёму так:

– Занэсёш это яічко домой і скажы, зразу з порога: "Хрыстос Воскрэс!" І еслі вы кушаете петуха жараного і рыбу, петух должен этот на тарэлке запеть, а рыба заплескацца.

Ісус Хрыстос так ёму сказаў, этому мальчыку. Он зойшов домой да говорыть:

– Вот, вы сказалі, шо ўжэ отдалі і ўбілі Ісуса Хрыста, а Ісус Хрыстос воскрэс! – і нэсёт так на руке это яічко.

Это дажэ есть у Божэму Закону, это картіна нарысована. І зразу став на ногі петух, ну там жэ ж этых, лап, нэ було, только там <...> по колено. Он стаў на коленях і запел. І рыба стала плескацца на тарэлцы. Вот поэтому прыготовляють рыбу, обжарвоють куры, яічка красять, – это ўсё традіцыя поцэрковному.

### *Чаму прывязаны нячысты не вырываецца на волю*

143

*Зап. у 2009 г. Т.В.Валодзіна ад Вольгі Емяльянаўны Урбан, 1917 г. н., прав., в. Пушча, Лагойскі р-н, Мінская вобл.*

– Гэта ж кажуць: чорт навязаны да Вялікадня, навязаны на цэпі, ну, і ўжо во-во парвецца, перад Вялікаднем саўсім ужо тоненькі, парвецца, а як запяюць Васолы, узноў гэты цэп таўсты і гэты чорт не сарвецца.

– *А дзе ён сядзіць прывязаны?*

– А чорт яго ведаець, эта ж кажуць, можа, у балоце.

## Ушэсце Хрыста

### *Хрыстос ад Пасхі да Ушэсця ходзіць па зямлі*

144 A

*Зап. у 2001 г. ад Ніны Іванаўны Афонінай, 1923 г. н., прав., 4 кл., в. Пешкі, Бярозаўскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Ісус Хрыстос воскрэс, Он воскрэс із мэртвых. І Вон на зэмле тут да Ушэсьця.

– *І кожны год?*

– Кажны год. <...> На зэмле, на зэмле. А от Шэсьця возьнесёцца на небо.

– *Але людзі Яго не бачаць?*

– Не бачат. Бога чоловеку невозможно відеті. Невозможно відеті Бога.

144 B

*Зап. у 2002 г. В.І.Басько ад Лідзіі Смалень, 1930 г. н., прав., в. Масаляны, Бераставіцкі р-н, Гродзенская вобл.*

Ісус Хрыстос, кагда яго распялі, Ён Васкрэс на Паску і шэсць нядзель хадзіў па зямлі і прапаведаваў людзям, як жыць.<…> На Ушэсце Ісус Хрыстос пайшоў на неба.

144 C

*Зап. у 2000 г. ад Ганны Кідман, 1912 г. н., прав., адук. не мае, в. Мяжэвічы, Слонімскі р-н, Гродзенская вобл.*

А Ушэсьць – празнік бальшы, патаму што Гасподзь паднімаецца ўверх і Ён дзелаецца невідзімым.

144 D

*Зап. у 2002 г. В.І.Басько ад Яна Гендзеля, 1927 г. н., катал., в. Тулава, Зэльвенскі р-н, Гродзенская вобл.*

На Ушэсце сказаў Ісус Хрыстос сваім апосталам:

– Як Мяне паслаў Бацько, так і Я вас пасылаю – ідзіця і навучайце народы ўсе. Я на вас сашлю Духа Свянтэго, каторы вас асвенціць і пойдзеце навучаць усе народы.

144 E

*Зап. у 2007 г. А.М.Боганева і Т.В.Валодзіна ад Марыі Рапманаўны Лабко, 1933 г. н., прав., 2 кл.; Вольгі Васільеўны Стасюк, 1929 г. н., прав., 4 кл., в. Вулька-1, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

*– А калі Бог хадзіў па зямле?*

– До Ушэсьця ж ходзіць.

*– І зараз?*

– І зараз, шчэ ж нема Ушэсьця.

– У тые разы кажуць, от, Ісус Хрыстос прыйдзе на небеса, то ўжэ трэба, коб дождж пройшов, коб Його сьледы забіло, шчо Вон ходзіць до Ушэсьця.

*– Каб сляды замыў?*

– Ага, коб сьляды забів. Значыцца, коб дошч пройшов.

– Потому шчо Його гэтые іудзеі шукалі, коб убіць. А Вын жэ ж ходзів, то доўжэн дошч замываць Його сьледы.

*– Так гэта, каб на самое Ушэсце дождж прайшоў?*

– До Ушэсьця. От это ўрэм'я. Од Вэлыконня до Ушэсьця.

144 F

*Зап. у 2006 г. В.А.Лабачэўская ад Мікалая Васільевіча Тарасюка, 1932 г. н., прав., 4 кл., в. Стойлы, Пружанскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Но Вунь быў жывы, улетел на небеса ілі на другую планету. Ілі на гэтой Он находіцца. Но душа Ісуса і Слово Бож'е, оно ідёт як бы на нашэй планете, под нашым названіем. І мы в Його верымо, о, што Вунь сушчэствуе, і мы ў Його верымо.

Но разно бывае: тэпэр перекрыстыўся і тут жа мо і заругатыся. Но всё равно Бож'я душа это прошчае. І так і здавна.

*Адкуль лячэнне*

145

*Зап. у 2010 г. ад Паўліны Навумаўны Ільюшчыц, 1925 г. н., прав., 2 кл., в. Рог, Салігорскі р-н, Мінская вобл.*

Раньшэ жэ ўсё ўрэмя ходзіў по землі. Дак росказвалі, як ішоў Господ на вусоту, як угэ туда ото… А гэтыя ўсякія лекобы покінуў на лісту, і людзям, такэ зовешчане даў: штоб друг друга ротовалі, помогалі. Гэта ўсе гэта кажуць, што Бог ішоў…

Дак вот этыя ж бабцісты ды ўсе вербуюць к собе, дак которыя ідуць, а которыя, што мол "лечыць не трэба". Як не трэба як Бог сам велеў, штоб лечылі?

*– А на якім лісту гэта ён пакінуў?*

– Ну, напісаў, о, на бумаге. Напісаў і…

*– Дык лячэнне эта ад Бога?*

– Од Бога, од Бога лечэнне. Бог усё покінуў на лісту.

*– І замовы?*

– Можа, і замовы. Я то не знаю. Етыя то точно знаю, што Бог покінуў усё на лісту. І сказаў, штоб друг другу помогалі.

146

*Зап. у 2000 г. ад Івана Лупіка, 1918 г. н., прав., в. Юравічы, Дзятлаўскі р-н, Гродзенская вобл.*

Чыталі Вы Закона Божага, не чыталі… А Еву хто саблазніў ў Едэмскам саду? Дьявал. А дьявал хто? Злы дух. А злога духа Гасподзь сагнаў с нябёс, кагда паявіўся этат сьвет, мір, усё. І вот злы дух па зямлі странствуе. А сіла нябесная навярху, у воздухе, у Духе. У Духе. Ісус Хрыстос, кагдаваскрэс, то сіла Гасподня Яго ўбрала, Сіла нябесная Яго ўбрала, вот што.

## Успенне Багародзіцы[126]

147

*Зап. у 1998 г. В.І.Басько ад Сцепаніды Бубалы, 1903 г. н., катал., в. Каралёва, Верхнядзвінскі р-н, Віцебская вобл.*

Хрыстос сваім учанікам сказаў уміраючы, што берагіце маю Матку. Учанікі ж Яе і дужа бераглі, но Яна забалела і памерла. Яна ўсіх благаслаўляла перад смерцю, а аднаго святога ні было, ён паехаў па якіх-та там дзялах. Калі ён прыехаў, Багародзіцы ўжо не было. Яна ўжо ў грабу ляжала, і еты

[126] Свяшчэннае Паданне. Успенне Божай Маці апісана ў апакрыфічным, але прызнаным Царквой, творы ананімнага аўтара "Аб успенні Марыі".

ўчанік Хрыста прышоў да яе папрашчацца. Адкрылі гроб – а там нет Багародзіцы, только цвяты лілії, Яна вознеслась у неба. У гэты празнік у нас свенцюць цвяты, пятнаццатага аўгуста.

## Эсхаталогія. Апакаліпсіс

### *Апакаліпсіс нашага часу*

148

*Зап. у 1997 г. В.І.Басько ад Уліты Высоцкай, 1903 г. н., в. Міхалінава, Лёзненскі р-н, Віцебская вобл.*

Аткравенія святога Іоана Богослова. Была кніжка запечатана – сям'ю пячацямі была запечатана. Ангел Божы ўсё предлагаў чытаць эту кніжку, <але> нікога не нашлось ні на небе, ні на земле дажа пасматрець у эту кнігу.

Найшоўся Агнец закланный – ета Ісус Хрістос. Ён жа быў распят – значыць закланный. Ён узяў ету кнігу і стаў снімаць усе печаці. Сняў первую печаць – явіўся конь белый. На ім усаднік, імеўшій лук і венец пабеды – ета Ленін, царя пабедзіў, во, лук і венец пабеды. Сняў втарую пячаць – явіўся конь рыжый. На ім усаднік, імеець бальшэй меч і яму дадзена ўзяць мір з зямлі, штоб убівалі друг друга – ета рэпрэсіі. Данасілі адзін на аднага, во відзіш, як і цяперь убіваюць друг друга, збываецца ета ўсё. Сняў трецюю печаць – явіўся конь вараны. На ім усаднік, імеець вясы і меру – ета значыць будзець важыць. Ета калхоз – малая плата падзённікам, трудадні... Ай, дзе плацілі, а ў нас дак саўсём не плацілі. Сняў чацвёртую печаць – явіўся конь бледны і за ім і смерць і ад дзьвінулась – ета нямецкая вайна. Тут і ў крематоріі людзей жглі, і ў аўтобусах жглі, такея аўтобусы былі специяльныя, і ўбівалі, і пралівалі кроў. <...> Сняў пятую пячаць – пайдуць на нас чэчэны, можа на нас, можа яшчо дзе, хто іх знаець. Будуць грабіць, будуць убіваць людзей каго пупала. Толька той жывэй астанецца, хто ў кусты схуваецца, у лес, во. Ета ішчэ ні было – будзець.

І сільнае бязбожанства. І яны будуць гаваріць: "Во, дзе іхны Бог? Ці спасаіць іх Бог?" І будуць грабіць, і дайдуць да Белага і да Чорнага моря, і там усе чыста пагібнуць. Будзець семільнае страшнае землетресеніе. Будзець прадалжацца трі часа землетресеніе, усё перемешаець з зямлёй, што только есць: ні фабрікаў, ні заводаў ні станець, нічаво. Людзі аста-

нуцца ў чым только будуць адзеты. Многа людзей пагібнець – трецяя часць людзей.

Тады, як ета кончыцца, тады явіцца красны дракон, будзець печатаваць. У яго свая печаць будзець – шассот шэсят шэсць, тры шасцёркі. Ету печаць не прінімайце. Ён, хто не будзець прінімаць печаць, атрубіць голаву. Етага баяцца ні надо, ета ўсе будуць са Хрістом хадзіць, і каторы головы атрубаны будуць, іх головы вярнуць. Хрістос усё здзелаець па-свойму, Бог сам, во.

Бог ведзь у ліцах Троіцы: Бог Саваоф, Бог Ісус Хрістос і Бог Дух Святы, ён у трёх відах называецца, а па есцеству Бог адзін.

Як сняў паследнюю печаць – явілася сем ангелаў і ў іх сем чаш, наполненых язвамі. Адну язву ангел выліць на воздух, другую на ваду выллець. Усё адушаўлёнае ў вадзе ўмрець, кроўю вада здзелаіцца, во.

А вот еты людзі, каторые Богу верюць, як пабудзець усемірнае землетресеніе, іх Бог будзець сабіраць: пашлець ангелаў сваіх, штоб іх усіх сабраць. І ангелы саберуць усіх етых людзей, дастойных Богу, а астануцца только бязбожнікі. Там ужэ будзець дзюжа плохо, як еты бязбожнікі будуць: і голад, і мор будзець, і вада кроўю будзець дзелацца, і вада горькім палынам будзець дзелацца, і людзі будуць паміраць, ой, дужа будзець плохо.

### *Апошнія часы і канец свету* [127]

149

*Зап. у 1999 г. Т.Б.Варфаламеева ад Валянціны Фалейчык, 1923 г. н., прав., 3 кл., в. Дорагава, Карэліцкі р-н, Гродзенская вобл.*

– *А Зямля – круглая яна ці квадратная, якой яна формы?*

– А Зямля круглая. А я чытала Свяшчэннае Пісаніе: Зямля круглая, як сонцо.

– *На чым яна стаіць? Гэта як шар ці як блюда?*

– Вот яна стаіць на воздуху. Яна ляжыць і дзяржыцца. І дзяржацца яна будзе да ўрэмені. І прападзе яна, і ўпадзе. І вот што будзе, цяпер мы ўсе сачым за врэменем. <…> Зямля шатаецца, как калубель, как п'яная. І яна ўпадзёт і больш

[127] Тыповае для "народнай Біблії" спалучэнне касмаграфіі – апісання таго, як уладкаваны свет, на чым трымаецца зямля, якой яна формы і да т. п., – і эсхаталогії.

нікагда ні ўстаня. Тада я ўжо увіджу новую землю і новый мір, і новаё Сонца. І вот это после Суда Страшного. Но мы не верым, <…>, а яно так будзя.

Патаму што прыйшлі прыметы ўжо, і на Землю пала шаранча. Еслі шаранча пашла па зямлі, это блізко ўрэмя. Яна ўніштожыць усё жывоё, і будзе вялікая засуха. Паколецца зямля на шчэлья ад жары, і смерць ужо ня будзя, а будуць ад гора, ад мукаў людзі падаць у шчэлья. І кажуць цяпер: «Прыйдзе пара – будуць завідаваць жывыя мёртвым». І тады паявіцца крэст лучазарны, залатой вродзя, сонцэсіяюшчы. І ўвідзяць яго толькі ізбранныя чада, веруюшчыя.

І за імі паследуе многа народу – ад края да края Зямлі, но іх не пryме жывая Прырода на Страшном Хрыстовом Судзе. Аднім Он скажа: «Вы прыйдзіце, вы есць наследнікі Отца», А другім скажа: «Атайдзіця у гібель вечну без канца».

І вот для іх озеро огненноё, і вот оні будуць усе мукі там спраізносіць свае. І скрогат зубоў страшно будзе слухаць. Стража будуць стаяць і прапускаць: адных туды, другіх туды. І гэто ў Пісаніі напісана.

150

*Зап. у 2002 г. ад Валянціны Казакевіч, 1925 г. н., прав., хутар Дракі (каля в. Каты), Смаргонскі р-н, Гродзенская вобл.*

А маці казала, што прыйдзе такі час, што жалезныя печы будуць хадзіць у воздуху і будуць каркаць – самалёт жа ж, ён жа жалезны. А і будуць яшчэ жалезныя печы хадзіць па полі – гэта ж ужо во трактара. І такі прыйдзе час, што будзем мы жыць, а будзем чуць, што ў Маскве будзе. Ну хто гэта знаў? І што будзе так: лес высякуць, што ад нас будзе Залесьсе відаць. Ну і відаць жа ж, як станеш дзе. Даўней очэнь зналі многа старыя людзі. Можа, тожа ат сваіх бацькоў.

*– А казалі, што свет правадамі будзе апутаны?*

– Да, да. Зямля ўся будзе правадамі скрэшчэна і людзі будуць балець. Будуць балець.

*– А чаго яны будуць балець?*

– Патаму што, а вы думаеце, Чарнобыль што? Там жа ж атамная станцыя, а даўней жа ж не было… Цяпер уся зямля скрэшчэная на правадох. Вот мы жылі, і дзеці ў школу хадзілі – у нас сьвету не была. <…> Даўней хлеб быў свой, чысты, а цяпер мы знаем, які ён? Хімія. Тады ж ужо навоз быў які?

Коні, каровы, усё. А цяпер хімія. А ета хімія для здароўя тожа ж урэдна. І даўней, канешна ж, людзі былі здаравейшыя, і яны былі лепшыя. Яны былі веруюшчы, а цяпер пакаленьне такоя: брат на брата, сястра на сястру. <...> Цяпер жа ж серца нет, як камні сядзяць.

*– А ад чаго гэта так?*

– Я так, па маім мненію, думаю, што людзі грэшныя. Яны не прызнаюць, атказаліся ад Бога. І Бог цярпіць, но некалі ат удара ўся зямля згарыць, нічога не станецца. Будуць новыя людзі, да, па Пісанію. Новыя людзі будуць па-новаму жыць. А цяпер жа вот скажы маладым, яны не верать і не слухаюць.

151

*Зап. у 1998 г. ад Раісы Петручышынай, 1928 г. н., прав., г. п. Шуміліна, Шумілінскі р-н, Віцебская вобл.*

Вот хто к бапцістам ходзіць, еслі он хрышчоны, ён ужо будзець нехрышчоны. Нельзя к йім хадзіць. Развялось йіх очэнь многа, і нічога не могуць з йімі здзелаць. Знаеце, што будзець? Ета будзець такое озера ілі дзе-та мора такое, будзець кіпець вада. І яны будуць усе туда лезць. Крычаць будуць, пішчаць, а ўсё раўно будуць лезць. І толька ат етага ат йіх і ізбавяцца, ат етых бапцістаў усіх. Во будзець такое ўрэмя.

*– Гэта так бацюшка казаў?*

– Нет, ета так будзець.

### *Эсхаталагічныя прадказанні*[128]

152 А

*Зап. у 2001 г. ад Вольгі Мікалаеўны Карпенчык, 1937 г. н., прав., 4 кл., в. Касцюкі, Бярозаўскі р-н, Брэсцкая вобл.*

*– А не казаў бацька, што пойдзе брат на брата...*

– Да то Святое Пісаньне пісалося. Шо нэбо будэ змотано дротом[129]. Хто то верыв? Шчо жэлэзны птушкі будуть лэтать. Потом, шчо живы мэртвому будэ завідуваты. Пісалося, я-то шчэ помню, як батько чытав, што чоловечого сьледу будэш

[128] Для нумарацыі шматлікіх эсхаталагічных прадказанняў выкарыстаны адзін нумар з рознымі індэксамі літар па прычыне аднатыпнай структуры гэтых тэкстаў. Што тычыцца матываў прадказанняў, то яны ў тэкстах пастаянна сэнсава перакрыжоўваюцца, але кожны раз дадаецца некаторы змястоўны нюанс.

[129] Неба, "змотанае дротам", – адзін з самых папулярных матываў эсхаталагічных прадказанняў. Далей прыводзіцца не паўсюдна.

прыглядатыся, нэ відно́ будэ – нэ будэ людэй. Гэто пісалося, гэто я помню. Батько чытае, а мне інтэресно було слухаты, шчо вон чытае…

### 152 В

*Зап. у 2003 г. ад Васіля Рыгоравіча Зіміча, 1916 г. н., прав., адук. не мае, в. Кажан-Гарадок, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

От я тобе зараз роскажу. Чоловек стары буў. <...> Ну, сколько мне було тагды? П'яць год. Але я помню добрэ ўсе это. <...> Зашлі ў хату, он прынёс ужэ <...> такую страшэнную місу мэду, на стол поставіў, хлеба нарэзаў. І прынёс, я помню добрэ, шо така гліняна банка, і затняна сеном була, но я ж то не знаў, шо там було. Шо я понімаў! Налівае мойму бацьку ў кружку і собе. Выпілі. Седзяць, гаворaць. Вон кажа бацьку:

– Вот, сынок, прыйдзе такая ўрэм'я, оснуецца сьвет павуціною, і будуць лётаць жэлезные пташкі по небу.

– Ай, – мой бацько кажэ, – шо ты, дзеду!

– Побачыш сынок, шо будзе.

І кажэ <бацька> на ёго:

– А шо ж далей ужэ будзе?

– Шо далей будзе? Будуць лётаць жэлезные пташкі по небу, зробіцца война ўсемірная.

Бацько кажа на ёго:

– Да хто ж пойдзе войной?

– Немец пойдзе на Росію войной.

Бачыш, сколько год пройшло! Сколько год пройшло, а вон знаў этое. І кажэ бацько:

– Ды шо ж будзе? Людзі поб'юць?

– Не, у цэлосці останецца ваш Кожан-Городок. Усё останецца ў цэлосці. Воны не ўспеюць спаліць ці побіць людзей. Но, – кажэ, – будзе жэртва, будзе жэртва. Немец Росію не забэрэ. Пойдуць людзі ў лес.

А скуль вон знаў?

– Пойдуць людзі ў лес і будуць свою землю спасаць, у лесе будуць воеваць.

Парцізаноў сколько було! Во шо той дзед казаў. А далей кажэ:

– Ждуць людзі жызні доброе пры рускіх, но ненадоўго, но ненадоўго. Зноў, – кажэ, – зменіцца ўласць.

Зменіласа.

*– А вот ён не казаў, што жанчыны на мужчын будуць падобныя хадзіць?*

– Казаў. Казаў, шо не положэно жонкáм ходзіць у штанох. Будуць носіць штаны, будуць стрыжэные, будуць ходзіць бэз хусток. Казаў вон эта, казаў.

*– І што, спраўдзілася ўсё?*

– Пожалуста, сбылосо, от стоіш!

152 C

*Зап. у 2001 г. ад Марыі Фамінічны Якуты, 1919 г. н., прав., 3 кл., в. Аранчыцы, Пружанскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Я помню, пры Польшчы пріходілі хлопцы до нас, с кудэлямі пріходылі дэвчата <на вячоркі>... І хлопцы пріходылі і кажуть: пас коровы чоловек <...>, які Евангелію чытав. І кажэ, шо после будут ходіті ўсе пострыжэны бабы, шо будут у шапкáх ходыть, шо будут у штанах ходыть... А хлопцы таксамо будут ходыті абы-як, абы ў якіх одёжах. Шо будуть обрэзывать жэншчыны <косы>. Коб колысь обрэзала косы – да нікогда тóго нэ було! Косы жэншчыну красят, она і красівейша... А то пообрэзывалі, бы товкачі! Пыдкрашывают, вымалёўвают... Колысь так не було. <...>

Одышлі од веры, нэ допусьтілі верыті нікому <...>. Колхозы поробілі, а од Бога, от Цэрквы молодёж одвыкла. Вона нэ понімае.. Е такіе, шо воны вырослі, а не булі ў цэркві... Зарэ не дівуй на гэты молодёж. Шо ты зробіш.

<...> Кажны шукае, шо это я розумны, я ўжэ знаю так, я ўжэ знаю гэтак... А тут чытай тое, шо там напісано, і як збываецца по Евангелію... По Бібліях, по Евангеліях гэто всё. Гэто последнее... Глава последнего Откровенія Іоана. Ні на одного цара, руководітеля нэ попадае такое чысло – і там жэ пішэцца в Евангеліі, какое это чысло – 666. Оно ні на кóго, анно Сталін, на Сталіна выходіло. Кажэ: зложы з запалков гэтое ім'я: Сталін – выходіть. А ні на якого большэ з государствав царá нэ получалоса. Показвалі, як запалкамі это, перэлічывалі.

*– А як гэта?*

– Спічок взяті, – на другого якого, які там в Англіі був, у Польшчы був... Ні на якого больш нэ попадало, толькі анно на Сталіна. Это сатанінске чысло 666.

152 D

*Зап. у 2002 г. ад Анэліі Петух, 1919 г. н., катал., 4 кл., в. Войстам, Смаргонскі р-н, Гродзенская вобл.*

Гэта расказывалі, і вот яно ўсё можа ісполнілася. У мяне нават дома ёсьць кавалачак гэтай Бібліі. …І таксама там пішуць, шчо ўжэ зближаецца канец сьвету.

Брат на брата, сын на ойца ідзець. І такое ўсё будзець, шчо будуць сьцены гаварыць. І будуць хадзіць ад хаты да хаты машыны. А ўсё ж ніхто не думаў, шчо гэта будзець зроблена. Праўда, цяпер ад хаты да хаты можна на машыне даехаць. А сьцены – то радзіво гаворіць. Так гэта во прарэкаваньні. Усё наперад давалі.

А шчэ бабы будуць насіць мужчньскую адзежу. Ад мушчын паадбіраюць і штаны, і валосы. Ну яно так і ёсьць. Праўда. Мушчына не адзяё бабскае спадніцы, а баба – і штаны, і стрыжку нейкую зробіць. Ззаду палядзіш – хто цябе знаець, ці ты мушчына, ці ты баба. Праўда. Цяпер ужо маўчаць і ксяндзы, а раней ксяндзы крычалі.

*– А цяпер маўчаць?*

– А цяпер, гавораць, усюды такое пайшло. <Цяпер у касцёл> ідуць і без платочкаў. Было таксама тут… Адзін раз была адна дзеўка, і яна стаяла, можа, надта жарка было, стаяла без платка. А шалічак мела на шыі. Так зняў ксёндз гэты шалічак і ей палажыў на галаву. Гэта даўней. А цяпер ідуць як хочуць: і валасатыя, і ў штанах, і ўсялякія… Такія вялікія разрэзы ў юпках, што плечы голыя. Тут нешта відаць, пуп відаць – гэта ж страм'ё… Вот я балтаю, а ты запісуеш…

*– Ну, так то ж праўда.*

– Праўда. А цяпер і ксяндзы ў штанах ходзяць!

### 152 Е

*Зап. у 2003 г. ад Пятра Васільевіча Яхнаўца, 1939 г. н., прав., 4 кл., в. Атвержычы, Столінскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Коліся сатана ходзіла по <сьвету>. А <цяпер> людзі забралі у срэдіну, да носяць. Сатаны вжэ нема, бо она в нас, бо мі сатана.

Когда-то можно было іті пешком із Горыня до дома у Отвержычы – это двенаццаць кілометроў. А цепер аўтобусом ехаць страшно. Это хто? Это сатана роботае. Правільно ці не?

Раней жоночына у штанох ніколі не ходзіла, это теперь ужэ понакладаюць штаны, обдымуцца... Я ходзіў у школу, нам учітель казаў, шчо ў магазін, у школу нельзя заходзіць голым. <...> А цепера ідуць у цэркоў – жывот, тут пуп наверху. Куды хош зайдуць. Што ж ты скажэш!

Як Бог дасць, у тэбе дочка будзе, што ж ты ей скажэш: накладзі этое... А вона знаеш што скажэ? “Ідзі ты туды, дзе Макар овэц нэ пас!”

*– Як Вы думаеце, а чаго так свет змяніўся?*

– Я думаю, шчо оно должно зменіцца, потому шо скоро пріходзіць кон’ец света. А до конца осталос счітаные годы. Вот <...> ужэ нас половіна, бачіш, нас задавіла радіація половіну, поміраюць. Уміраюць і не знаюць: у того рука, у того нога, у того кров, – всі бабі, всі мужчіны больные. І в песні поется: “І прійдуць болезні і горі, і морі, і брацкая кроў поцечет...” <...>

Вот у нас одзін дзядзько, вон неграмотны буў, но вон предсказваў, што когда-то сплецёцца белы сьвет, всё ровно, как павукі плетуцца, о так. Потому шо тоды нічого не було – ні электрічества, ні радіва, ні телефонов, нічого ж не було. Говоріць, прідзет время, будуць жэлезные пціцы летаць...

Я малесенькі быў хлопчык... І мой бацько буў баптісты, і ў том дому чыталі. І я ходзіў тожэ. Сяду на колена, і мне тожэ запомнілось, што росказывалі. І вот дзействіцельно пріходзіць то время, што сплелось все, і самолёты летаюць, тые жэ железные птіцы. Людзі неграмотные былі, но відзіш...

152 F

*Зап. у 2002 г. ад Станіславы Віюк, 1926 г. н., катал., 5 кл.; Марыі Макевіч, 1940 г. н., катал., в. Быстрыца, Астравецкі р-н, Гродзенская вобл.*

– Так ужо апісалі: што неба будзе ўсё ў крастах. Ну, так яно і ёсь. Тэраз во гэтыя антэны ўсякія.

– Казалі, што не апрэдзяліш, дзе будзе хлопец, а дзе дзяўчына.

– Патом, што на́гія будуць хадзіць.

152 G

*Зап. у 2002 г. ад Леанарды Баркоўскай, 1922 г. н., катал., 7 кл., в. Талмінава, Ашмянскі р-н, Гродзенская вобл.*

Гаварылі, што <…> сонца не будзе там заходзіць, дзе ўсходзя, а будзе там усходзіць, дзе заходзя. Яшчэ гэтага няма, але будзе. Гэта старыкі ўсё гаварат. А чы гэта так будзе? Што жывёла будзе поціцца крывавым потам, не такім, як цяперака пацее жывёла.

152 H

*Зап. у 2000 г. ад Зінаіды Русак, 1926 г. н., прав., адук. не мае; Валянціны Валадарчык, 1930 г. н., прав., 3 кл.; Марыі Супрун, 1927 г. н., прав., 3 кл., в. Бярдовічы, Слонімскі р-н, Гродзенская вобл.*

– Я-то чула, што будзе на лісточках…

– Было <баба мая> і бярэ, і паказвае, што на лісьцях кругом будзе нарысован нейкі вуж.

– На якіх лісцях?

– На вішні. І гаворыць, там напісано ў той кніге, ілі мушчыны нешто гаварылі, што калі надто будзе рысункаў многа, тады ўжо і бузе <канец сьвету>.

– А дзе?

– На гэтай <зваротнай> старане.

– Там неко чорненько во так е, бывае. А яна талкуе, што пално будзе.

– Значыць, калі на лісцях вішні будуць вужы…

– Тады канец сьвету. І кажа, цяпер прыйшло тое ўрэмя, што да таго много на лісьцях…

152 I

*Зап. у 2000 г. ад Марыі Сідорык, 1924 г. н., катал., в. Байкі, Слонімскі р-н, Гродзенская вобл.*

Хадзіў бапцісты да бацька майго. Яны то брыці, то пастрыгаці ўсё разам. І хадзілі і казалі:

– Костусь. Ты чытаеш Евангеле. Кажуць, што прэнко будзе канец сьвету.

А ён гаворыць:

– Да точна не напісано, што вот тады і тады будзе. Анно апісваюць, што на вішнёвых лісткох найдуцца вужы.

І цяпер ужо яны е. А посьлі, праз нескалькі гадоў, які будзе на зямле лісток, і на кажнам будзе сядзець вуж. Надпісь гэтакая, карандашом напісана. І тады ажыдайця прэнко будзе канец сьвету. А точна не кажуць, не пішуць, калі.

152 J

*Зап. у 2003 г. ад Марыі Вікеньцьеўны Варанец, 1927 г. н., 4 кл.; Сафіі Баліславаўны Жыжа, 1938 г. н., 7 кл.; Соф'і Станіславаўны Татарыновіч, 1941 г. н., катал., 7 кл., в. Гайнінец, Ляхавіцкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Ну, хадзілі да нас на вечаркі с кудзеляю некаліась, с прасніцамі. <…> Ды тут адзін ляснік, вот у гэтым лесі <…> папрасіў пачытаць у паследнее ўрэмя. Тая кніга там і асталася.

Я запомніла, што прыходзіла адна жанчына, ды на год, мусіць, малодша за мяне яе дачка была. І мы на печы з ёю. Яны ўжо сядзяць, мамы прадуць на прасніцах. А мы на печы ўжо з ёй, а ўсё раўно на вус матаем.

Ну, вот тата прачытаў: "Дзеткі, скора ўжо нешта будзя. Патаму што усё саваршаецца. <…> Будзе жалезны конь па поле хадзіць..." Ето ўжо гэтыя бабы глядзь-глядзь адна на адну і смяюцца. Ну як гэта – зробяць жалезного каня? Ну, ніхто ж паняція не меў, што гэта за конь!

Патом што, межы – палоскі ж былі. <…> Вычытаў ён, што межы параскідаюць. Ды ўжо тая, жанчына, што дзеўчына са мною была: <…> "Ха-а-а-ха-ха! Ляжаў бы ён і сам на той мяжы, <той, хто раскідаць будзе>! Каб я бачыла, што ён маю мяжу будзе раскідаць".

А патом, што яшчэ помню, што будуць голым целам сяціць, хадзіць. Не глядзець: ці ў касцеле, ці ў пасцелі, ці дзе. <…> І ўсё гэта саваршаецца.

Як будуць не любіць брат брата, мужык жонку, брат сястру, будуць рэзацца, будуць біцца, нічога не будзе стоіць чалавек.

<…> А патом, <...> пад канец, помню, што будзя малы прыплод у людзей. Будуць мала раждаць людзей. Будзя нікнуць паціхоньку, будуць падаць, як мухі, без вайны людзі, будуць гінуць. <...>

*– А пра канец свету там чытаў бацька?*

– Пра канец сам свету яно было ж напісана, што гэдак: людзі ўсе не прападуць. <...> Будзе расці, цвісці ўсё, будзеце цешыцца, но есьці-то не будзеця, не будзе чого есці. І не даходзіць гэта? Даходзіць. <...> Вот сёння ўжэ копаеш картофлю, ўжо яна на беленькіх точачках. Не ў каждым месце, ну ё ўжэ такія, і ў мяне ў агародзе акапалі. Ўродзе бы й вырасла, но яна ўжо бальная. І людзі будуць падаць. І з хваробаў, і з бояў, і з усяго будуць, як мухі, падаць.

Але потым напісана так: што будуць такія шчаслівыя, што астануцца. Астануцца так, як па атрасенні яблыкаў у садзі. От як залезеш трасці, і така астанецца людзей. Ну тады будуць любіць адзін аднаго, будуць шанаваць і будуць шукаць не только чалавека – следу чалавечага, той, хто астанецца. <...> Ну, а есьлі ўжо сыйдуцца, да будуць любіць адзін аднаго і шкадаваць, як адна сям'я.

## 152 K

*Зап. у 2003 г. ад Мікалая Антонавіча Ракаўца, 1926 г. н.; Лізаветы Гаўрылаўны Ракавец, 1924 г. н., прав., в. Аздамічы, Столінскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Былі старынны кнігі, свяшчэнны былі кнігі <...>. От, значыць, у нас быў одзін тожэ, Бобрык, он у лесу жыў. Он по нацыональносці быў поляк. <...> А вон што прэдказваў, то і збывалосо. <...> І говорыў, што Росія – это Православе. Прыдзе врэмя, когда прыдзе анціхрыст, іщіме з боку, аддтуль, з Запада. Ну, кажэ, у Росії не воцаріцца, не допусцяць. Это трі православўных рода – Украіна, Белорусія і Росія. Тут ёму не быць, это вон часто росказваў. <...> Влезе грэх у чоловека і вон будзе пред всім этым народом. То он росказваў.

*– Анціхріст – хто гэта?*

– Это которы проціў Хріста, дьявол залезе ў нутро. Это говорілі, это е і в Пісанні. <...>Всё это ісполнялос. Як вон предсказываў, так воно і було.

## 152 L

*Зап. у 2007 г. ад Соф'і Браніславаўны Закавіч, 1935 г. н., катал., 3 кл., в. Любань, Вілейскі р-н, Мінская вобл.*

І вот ён сказаў: пасьля гэтай вайны асталася толькі трэцяя часьць людзей на зямле. А як яшчэ будзе вайна – а яшчэ будзе вайна – толькі ўзноў астанецца трэцяя часць людзей. І будуць людзі размнажацца з аднаго полу – із жэнскага ілі з мушчынскага. І сонца аддаліцца, і сонца на зямлю сьвяціць ужо не будзець. Будзець памеркнае ўсё. І будзець болей вады, чым зямлі, і людзі будуць жыць на вадзе.

*– А як жа с аднаго полу размнажацца будуць?*

– А вот ета не даказана. Но толькі з аднаго полу будуць размнажацца. Каго там Бог аставіць – жэншчыну ці мужчыну… Ну, канечна, мужчыну.

*– А чаму ж мужчыну?*

– Таму што ён сільнейшы, можа быць…

### *Пра старынную Біблію*

## 153 A

*Зап. у 1998 г. ад Антона Андрэевіча Савельева, 1912 г. н., прав., 4 кл., в. Полькавічы, Шумілінскі р-н, Віцебская вобл.*

Сямён Пятровіч такій быў у нас, так ён старынных кнігаў быў начытаны. Так ён гаворіць, што было тут перяд вайной, ета кнігі былі да саракавога года напісаны ўсе, а цяпер не, цяпер новыя пішуць каторыя, а тых старынных ўжо нет.

Так гаворіць, во што будзець. Чалавек… брат брата будзець біць і брат сястру... Адзін у паліцыі, другій у парцізанах, вот ета і прайшло. Увесь, гаворыць, сьвет целехвонам абцягнуты… Старыя людзі напярёд зналі, на сколька лет! … І старыя людзі не панімалі, што радзіва будзець ці целявізар. "Будуць, – гаворяць, – чэрці ў хаце". А чэрці – эта ж людзі! А йім цяпер даў бы б старыком паслухаць, ён ба сказаў, што ета чорт гаворыць. І вот ён старінны, старінны. Старінныя былі людзі.

153 В

*Зап. у 2003 г. ад Марыі Вікеньцьеўны Варанец, 1927 г. н., 4 кл.; Сафіі Баліславаўны Жыжа, 1938 г. н., 7 кл.; Соф'і Станіславаўны Татарыновіч, 1941 г.н., катал., 7 кл., в. Гайнінец, Ляхавіцкі р-н, Брэсцкай вобл.*

*– Гэта звычайная ці старынная Біблія, дзе прадказанні сучасных часоў былі?*

– Гэта ж некалішняя Біблія.

*– Няколішняя?*

– Ну, канечне. Старынная. Ну, падумайця, ўжо сколько ж гадоў пасля вайны. А тая ж Біблія да вайны была. Ўжо ж так там яшчэ не кажды прачытае словы.

*– А што, яны неяк не так напісаны?*

– Не. Там напісана раздзяламі такімі. І буквы… чортачкі замяняюць некаторыя буквы дажа ў этай старыннай Бібліі. Так што не кажды можа яе прачытаць, гэту Біблію. Тут трэба добра разабрацца, як хто ўмее чытаць старынную запісь Бібліі. Яна зусім па-другому напячатавана.

*– Так, а хто мог разбірацца – гэта спецыяльна вучыцца трэба было?*

– Ну, як начынаеш чытаць, а потом ужэ прызвычайваешся к гэтае, як гаворацъ, запісі. А там можна паняць яе. Проста некаторыя буквы канчаюцца, і слова без буквы палучаецца.

*– У гэтай, у новай Бібліі гэтага ўжо няма?*

– Не. Як свет начаўся там апісвае...

І вот душа людская не ўміраець нікагда. Якой бы ні была нацыі, веры, душа людская не ўмірае

*С.Б.Закавіч, 1935 г. н., в. Любань, Вілейскі р-н, Мінская вобл.*

## *УЯЎЛЕННІ ПРА РАЙ, ПЕКЛА, ЗАМАГІЛЬНАЕ ЖЫЦЦЁ*[130]

### *Пра анёлаў, бесаў і агністую раку*

154

*Зап. у 2002 г. ад Галіны Шуліневіч, 1958 г. н., сярэд. спец. адук., нар. у в. Аранжышкі, мет. РМЦ, г. Ашмяны; Адама Антонавіча Дуксы, 1914 г. н., катал., 5 кл., в. Трасячаняты, Ашмянскі р-н, Гродзенская вобл.*

– А яшчэ казалі, што ангелы забаставалі, і адзін ангел…

– Так-так. Інцыпар. І ён быў найстаршым у анёлах. Найстаршы. Але ж і другіх закамандуваў: “Што, мы не можам Богам быць такім, як і Ён?” – Ну і пайшлі па сваему. А Бог тады іх стронціў зь неба і ў пекла, атгарадзіў ракой агністай. І тэраз… ніхто аттуль праз раку гэту не перойдзе.

### *Пекла і рай*

155

*Зап. у 2006 г. ад Марыі Селіверстаўны Каханоўскай, 1926 г. н., прав., в. Галавенчыцы, Чавускі р-н, Магілёўская вобл.*

Многа запісак на цябе ўжо. Чорт сабе піша, а Бог сабе піша. Еслі ты нагряшыла, то ў чорта будзя большы. А тады, як прідзеш у рай, то чорт свае бумажкі сюды, а Бог свае і шчытаюць, у каго большы. Чорт радуецца. Каб у яго было больша. Калі ў чорта будзя больш бумажак, то пойдзеш з ім у пекла. А што там у пекле? Агонь гарыць, аж кішаць такія.

А каторыя сьвятыя, ім жа харашо, Богу молюцца, ходзюць. Асобенна дзіцям, як уміраець дзіця, эта шчытаецца ангел. Яны там у саду гуляюць.

---

[130] Наратывы пра замагільнае жыццё знаходзяцца ў рамках Свяшчэннага Падання праваслаўных і каталікоў пра бессмяротнасць душы, справядлівую адплату за грахі і ўшанаванне праведнікаў. Паводле жанру – гэта дыскурсіўныя разважанні.

156

*Зап. у 2000 г. ад Гелены Лісай, 1915 г. н., катал., в. Моціўцы, Шчучынскі р-н, Гродзенская вобл.*

*– Дык каб на неба пайсці, трэба заслужыць?*

– А мая ты дачачка! А ці ж нам, а ці ж нам, мая ты міленькая! Нам шчэ трэба ў пекле пабыць. Мусіш вог'нь часовы перайсці, дзе там вог'нь будзе на тым свеце. Бо цела, цела ж памёр – і зг'ніе. А дух, душа наша ніг'дэ не ўмерэ, бо яна несмэртэльна. Яна ніг'дэ не памрэ.

*– Чалавек, калі памрэ, можа і ў пекле пабываць, і на неба падняцца?*

– Можа, дочанька, ага, як заслужыш. Як памрэш ужэ, і там душа атпакутуе… А сьвенты Пётр с ключом стаіць, і брама, такі там у комнаці. І ключ велькі мае ў жмені, у правай руцэ. І так браму аткрывае: хто <ат> Бога – сьвенты Пётр крые браму і пусціць. Адразу направа ідуць душы <праведныя>, а катора грэшна – налева. І ніг'дэ яна не пайдзе, будзе пакутваць, пакутваць…

*– Дык усе душы ў пекла ідуць?*

– Не ўсе, не ўсе. Яны ідуць у вагонь, дзеткі, праз агонь трэба часовы перайсці. Вог'ень такі ест.

*– Душы трэба праз агонь часовы прайсці?*

– А пэўне, дочачка, пэўне. А дзе ж яна табе адразу пайдзе да неба!

*– А калі святы, таксама?*

– А няўжэ ж, толька можа трошку пайдзе. Можа немнога будзе. А каторы можа пакутуваць будзе і доўга вогне.

157

*Зап. у 2000 г. ад Гэлены Лісай, 1915 г.н., катал., в. Моціўцы, Шчучынскі р-н, Гродзенская вобл.*

*– А ў пекле...*

– Там цёмна, там цёмна. Памiралі дзеці, каторы нехрышчаны… Можа дзеткі маеце? Помніце, трэба хрысьціць дзеці, хрысьціць трэба. Ці ў касьцеле, ці ў цэркві, але каб пахрышчана было дзяцятка.

Вот я Вам раскажу. У аднаго дзядзькі памёрлі дзеці, нехрышчаныя. А каторыя хрышчаныя, так яны, як паўміраюць, там сьвечачкі гараць іх, там ім ясна так, у комнатке ў такой, такой ім дамок. А каторыя нехрышчаныя – цёмна тая комната, і сьвечачкаў няма.

Прыходзіць іх бацька ці тата ўжо там і правярае... Мусіць, тожа на тым сьвеце ўжо. І кажа:

– Чаму так? У ўсіх дзетак ясна, комнаты ясныя, сьвечачкі гараць, а ў маіх цёмна?

А Бог яму адказвае:

– А ты ахрысціў іх?

Яны цёмныя, цёмныя, і яны ўжо век вечэн будуць цёмныя.

*– А тыя дзеці, якіх на абортах убіваюць?*

– Мoжа, гэтым і не будзе граху. Бо яны шчэ там... не карміла мама яго, гэтакі, можа, будзе і заслужаны.

### *Час, калі добра паміраць*

#### 158 A

*Зап. у 2006 г. М.П.Антропаў, А.М.Боганева, Т.В.Валодзіна ад Валянціны Іосіфаўны Копелевай, 1937 г. н., прав., в. Галавенчыцы, Чавускі р-н, Магілёўская вобл.*

Ад Пасхі да Ушэсця рай адкрыты. Еслі памёр, то пападае ў рай. Любому. І еслі маланка заб'ець, рай адкрыты, грешнік ты ці ня грешнік.

#### 158 B

*Зап. у 2003 г. ад Веры Сцяпанаўны Юрудзь, 1934 г. н., 4 кл.; Марыі Аўгусцінаўны Юрудзь, 1937 г. н., 7 кл.; Валянціны Міхайлаўны Маслоўскай, 1949 г. н.; Ніны Рыгораўны Бортнік, 1943 г. н., 7 кл., усе прав., в. Падбарэчча, Ляхавіцкі р-н, Брэсцкая вобл.*

Кажуць, што як памрэ чалавек ад Вялікадня да Ушэсця, то пападае ў рай, у Царства Нябеснае, таму што там вароты адкрыты. <...> І не судзіць Бог йіх.

#### 158 C

*Зап. у 2007 г. А.М.Боганева і Т.В.Валодзіна ад Надзеі Фёдараўны Ляшчук 1943 г. н., прав., 7 кл., в. Бастынь, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.*

*– А ў які час добра памерці чалавеку?*

– В якэ врэм'я вэн помрэ? От посьле Паскі і до Возьнясенья. Это ўжэ хто помрэ, той попадае ў рай.

*– Хто б ні памёр?*

– Тые разы казалі.

*– А калі грэшнік?*

– То ўжэ посьле Возьнясенья <памрэ> *(усміхаецца).*

*– А, то не памрэ ў гэты час...*

– Ну. Я чула, маці казала, шчо от Паскі до Возьнясенья хто помрэ, то там Царскіе дзверы открытые, і ўжэ пападае ў рай.

### *Замагільнае жыццё*

159

*Зап. у 2000 г. В.І.Басько ад Веры Фёдараўны Райчук, 1921 г. н.; Нілы Іванаўны Барычэўскай, 1927 г. н., в. Жолкіна, Пінскі р-н, Брэсцкая вобл.*

Душы на зэмлі, нэ на нэбесах! До прышэствія Хрыстова воны на зэмлі і одетые так, як мы ходым. Батюшка нэ говорыть, шо душы на нэбы. Тогді будуть на нэбы нашы душы, як прыйдэ на зэмлю Хрыстос і будэ судыты жывых і мэртвых. І вот тогда, хто заслужыў, пійдэ на нэбо, а хто будэ на зэмлі, тут ад будэ такі, пэкло. Будуть страдаты, будуть у этому пэклы, бэссмэртіе ім будэ, хто грішны.

Тіло ж нашэ – это прах. Воно з зэмлі зроблэно, воно у прах і ідэ. А душа – вона нэ ўміраюшча, вона заўшы ходыть із намы. Но мы іх нэ бачым, онно ў сні бачым.

Душа лэтыть до нэба, шчо стрэла, <...> і вона становыцца на колінка і молыцца до Господа Бога, шоб Господь йий простыў гэто, шо вона грешыла на этому світэ за свої года. А после назад вона лэтыть на свої кладбішча, до свого тіла, шо воно ў зэмлі плачэ-плачэ, шо воно там закопано еі тіло…

А еі ж нэ выдно, душы, еі ж одын Бог бачыть, еі ж ныхто нэ бачыть, эты душы, шо мы жывэмо. Так вона плачэ-плачэ, а после обратно лэтыть до нэба. Это несколько цэрквэй надо, шоб вона вылітала. Тыі, шо Біблію чытають, воны знают, скілько цэрквэй трэба, шоб душа за этых сорок дён облытіла. А потом дае Бог йий место, і вона ходыть проміж намы, но мы іх нэ бачым. Тылько як сныцца нам, то бачым, а так не. Вона всэляецца ў свое тіло, тое, шо вона і ходыла жывая.

Вот Лукаш кажэ, шо бачыть кажду ныч свою Олю. Прыйдэ, коснэцца за рукы, а еі рукы холодные. Значыцца, еі душа тут ходыть, вона мужыку і сныцца. А мій хозяін тожэ кажнэйі ночы почты сныцца. А колы Хрыстос прыйдэ, ныхто нэ знае.

Ныхто нэ знае, як світ ночынаўса, ныхто нэ будэ знаты, як і кончацца. Это ў любое ўремя можэ быть прышэствіе Хры-

ста. Прышэствіе Хрыста – это будэ суд усіх людэй на зэмлі – і мэртвых, і жывых, суд на нашый планэты. Хто жывы дождэ, то будэ страшно. Ну, да і мэртвым страшно....

160

*Зап. у 2000 г. ад Кахнюк Алены Васільеўны, 1922 г. н., прав., 2 кл., в. Бярозавічы, Пінскі р-н, Брэсцкая вобл.*

<Бог> будэ людэй судыты. Одын будэ горыты, бы камэнь, другі, бы солома, трэті, бы дрова.... Солома ж быстро горыть – то будэ мэншая мука. А як хто будэ горыты, бы камэнь, то это ж вечная мука, камэнь доўго нэ згорыть. <...> То гэтак жэ Господь будэ наказваты, бесконэчны гріх. А найбульшы будэ грішны чоловік, хто хулыть Бога. Есць жэ такіі, шчо Бога ругають, о. І Господь за этэ нэ простыть ныяк.

*– А калі чалавек пакаяўся?*

– Ну, як покаецца, то кажуть, што прошчае. Кажэ, Господь можэ простыты, можэ, дваццать раз на дэнь. А прошчае чы нэ прошчае, хто знае?

161

*Зап. у 2003 г. ад Надзеі Пятроўны Хвясечка, 1926 г. н., прав., 2 кл., в. Мачуль, Столінскі р-н, Брэсцкая вобл.*

На гэто не выйдом, <на рай>, а ў пэкло мы ўсе пойдом, бо мы што не ступім, то і согрэшым.

*– І што, чалавеку няма ніякага выйсця, каб у пекла не трапіць?*

– Конечно, трэба трохі ў Бога вероваць. А то е ўсякіе: е і пэкло, і поўзпэкло, і як гэтые начальнікі – вышэйшые, і меншые. То так і там: не ўсё ж ужэ одзінаково пекло. Потому шчо мы православные, мы ідом і до сповэдзь, мы ж то ў Бога веруем. А шчо в нас недостаткі всего, то і согрэшым, то ж не одзін грэх. Як чоловека зобіць і як там шчо сказаць – то ж не одзін грэх. То ж не можэ быць такого.

### *Грэх і пакаранне*

162

*Зап. у 2006 г. А.М.Боганева і Т.В.Валодзіна ад Валянціны Іосіфаўны Копелевай, 1937 г. н., прав., в. Галавенчыцы, Чавускі р-н, Магілёўская вобл.*

Як малака даеш да вады лінеш, на тым сьвеце аддзяляеш ваду ад малака.

163

*Зап. у 2002 г. ад Леанарды Баркоўскай 1922 г. н., катал., 7 кл., в. Талмінава, Ашмянскі р-н, Гродзенская вобл.*

Што Ён будзе пытаць, калі Ён і цяпер каждую <справу чалавека знае>. Тыля народу памірае! І Бог усім суд дае і ўсім абазначае, каму, дзе, што заслужыў. То Бог жа ж кажную найменшую крошку… Ад каго скрыесься, а ад Бога не скрыесься. Ні ўвазьмёш, ні ўкрадзёш… усё роўна будзе знаць. І гэта каждая жэч… У нас памёр адзін памёрлы, Топаль, во тут сусед. І ён бабе прысьніўся і кажа: "Найменшая жэч там запісаная. Што зробя, усё, – кажа, – Бог знае, за ўсё там атвечаць трэба, і ўсё там запісана".

164

*Зап. у 2002 г. ад Рэгіны Трон 1932 г. н., катал., 1 кл., в. Плябанцы, Ашмянскі р-н., Гродзенская вобл.*

Вот жыла адна пані, ну такая "добрая". У яе нават пазычыць не пасьмеў ба. Яна ўсё раўно не дасьць нікому. Ну, а потым, як умярла, дык яе аньгел вёў, вёў, такія вёскі, хаткі: і харошыя, і благія, і дварцы… Там тожа ўсё есьць, як і тут. Так яна ўсё думае: "Ну, пэўне ж мяне паселяць у такую добрую хату, у якой я жыла". Прывёў яе аньгел. Такая хатка, са страхі цячэ, гнілая… А аньгел кажа:

– Вот тут будзеш жыць, адбываць аж цэлы век свой.

Так яна:

– Ой, паночку, а як жа ж тут-ка цячэ, тут жа ж сыра, блага…

– А як ты там добра жыла? Вот за тое тут будзе табе блага. Ты ж жыла, нікому добра не зрабіла, вот цяперака ты будзеш так жыць. <…>

– Да, на дабраце сьвет дзержыцца, толька на дабраце. Патаму што ва Хрысьце жывём, на любві Божай. На дабраце жывём. Праваслаўе трошка аткланяецца… Тожа на любві Божай, але старынныя абрады, як па-старыннаму. У нас ужо па-новаму абрады…

### *Абміранні*

165

*Зап. у 2004 г. ад Надзеі Аляксандраўны Будавеевай, 1928 г. н., прав., в. Дзербічы, Буда-Кашалёўскі р-н, Гомельская вобл.*

Мой тата жыў сто два гады. І вот ён заснуў на тры дні. І ўстаў, і ён расказуе. Павялі яго тыя, што ўмёршыя, яго радзіцелі, павялі – і паказуюць. Гавора: ідом – сцірае жэншчына. І не сьцірае, а нагамі баўтае. Сядзіць у рэчке і баўтае нагамі. Ён гавора:

– Што гэта такое?

Гавораць:

– А яна ў празнік сьцірала.

А патом ідуць – мішае смалу ў бочке. Гарыць смала, а яна мішае. Гавораць:

– Гэта яна крэпка ведзьмаю была, дзелала людзям.

Патом ідуць – <жанчына> есьць косткі.

– А ета, – гавораць, – яна аборты дзелала. Аборты велькі грэх дзелаць.

<...> І пра пену расказываў. Пеніцца – гэта таму, хто сьцірае, <...> на тым сьвеце будзе пена з рота.

Сорак дней пройдзе, Страшны суд, вот як умрэ чалавек. Там Страшны суд чэраз сорак дней. І куда ўжо ён апрыдзелены будзе.

# ЛІТАРАТУРА,
## выкарыстаная ў каментарыях


1. *Кабакова, Г.И.* Адам и Ева в легендах восточных славян / Г.И.Кабакова // Живая старина.– 1999. – № 2. – С. 3.

2. *Бадаланова, Ф.* Болгарская фольклорная Библия / Ф.Бадаланова // Живая старина. – 1999. – № 2. – С. 5.

3. *Каспина, М.М.* Образы Адама и Евы в народной культуре Каргополья / М.М.Каспина// Живая старина.– 2002. – № 3. – С. 5.

4. “*Народная* Библия”: восточнославянские этиологические легенды / сост. и коммент. О.В.Беловой. – М.: Индрик, 2004. – 576 с.

5. *Каспина, М.М.* Восприятие сюжета о грехопадении Адама и Евы в еврейской и славянской традиции / М.М.Каспина // Концепт греха в славянской и еврейской культурной традиции. – М.: Сефер, 2000. – С. 116–129.

6. *Мифологические* рассказы и легенды Русского Севера / сост. и автор коммент. О.А.Черепанова. – СПб.: Алетейя, 1996. – 212 с.

7. *Апокрифы* древних христиан: исследование, тексты, комментарии / авторы пер., исслед. ст., прим. и коммент. И.С.Свенцицкая (часть I), М.К.Трофимова (часть II). – М.: Мысль, 1989. – 336 с.

## *ПАКАЗАЛЬНІК МАТЫВАЎ*

# СТАРЫ ЗАПАВЕТ

**Стварэнне свету**

– Бог – Тварэц свету (1)

– Бог паэтапна стварае зямлю (2; 3; 38)

– Паслядоўнасць стварэння жывых істот (коцік→ певень→ курачка→ чалавечая пара) (4)

**Стварэнне людзей, Адама і Евы**

– Бог "выдувае" мноства людзей са жменькі пяску (5)

– Святы Дух малюе контуры Адама і Евы на пяску, яны ажываюць і ўстаюць (6)

– Бог лепіць Адама і Еву з гліны (7В)

– Бог стварае Адама з зямлі і ажыўляе Сваім Духам (8А)

– Бог стварае Еву з рабра Адама (7С; 8А; 8В; 10; 17)

– Першыя людзі з малпаў (24)

***Этыялагічныя матывы:***

– чаму ў жанчын на 1 рабро меней, чым у мужчын (10)

– чаму мужчына – асвячоная костачка (бо яго стварыў Бог, а з яго рабра была створана Ева) (17)

**Грэхападзенне**

***Забаронены плод:***

– яблык (7А–В; 8А–D; 9–15; 16А–С; 17; 18А–В; 19А–В; 20–22; 24; 25В; 27; 28; 32)

– сліва (8Е)

– безназоўны плод (7С)

– безназоўны "говошч" (8А)

***Спакуснік:***

– змей (7В; 8С–D; 10; 18В)

– вуж (12; 13)

– гадзюка (сатана) (16А)

– сатана, д'ябл (7С; 146)

***Сутнасць грэхападзення:***

– ужыванне забароненага плоду (7А–С; 8А–Е; 9; 10; 11; 12; 13; 14; 15; 16А,С; 17; 18А,В; 19А,В; 21; 22; 24; 25В; 32)

– ужыванне яблыкаў да Спаса (16В; 28)

– ужыванне Адамам яблыка з саду Евы (20)

– грахоўнае злучэнне Адама і Евы, нараджэнне дзіцяці (20 – эўфемістычна; 23; 24)

– неканкрэтызаваныя непаслушэнствы, грэх (27; 29)

***Хто саграшыў першы:***

– Ева (7A,C; 8A–D; 10; 12; 14; 16A; 17; 18A–B; 19B; 20; 21; 32)

– Адам (9; 11; 15; 16B; 28)

***Наступствы грэхападзення (этыялагічныя матывы):***

– Адамаў яблык ("костачка") у горле ў мужчын (8A–E; 9; 10; 14; 15; 16A; 20; 21; 28)

– Стварэнне грудзей у жанчын (13)

– Пазнанне людзьмі сораму і галізны (7B–C; 8A; 10; 12; 21)

– Людзі сталі хадзіць у адзёжы (19A–B; 25A–B)

– Скура да грэхападзення была як пазногці, людзі не ведалі спякоты і холаду (25 A–B)

– Грахоўнае злучэнне Адама і Евы (7A; 24)

– Нараджэнне дзіцяці (24; 23 – Мікалая Цудатворца)

– Чалавек цяжка працуе і "ў поце здабывае свой хлеб" (7B–C; 8A; 8C)

– Жанчына цяжка нараджае дзяцей (7C; 8A; 27)

– Мужыкі п'юць (11)

– Мужыкі не слухаюць жонак (11)

– Мужык становіцца старэйшы над жонкай (14)

– Жанчына больш занятая, чым мужчына (18A–B)

– Жанчыны спакушаюць мужчын (7A)

– Людзі грашаць (7A)

– Забарона есці яблыкі да Спаса (16A)

– Распаўсюджанне гадаў па свеце (20; 21)

– Змяя пазбаўляецца ног і поўзае на жываце (12; 13)

– Людзі забіваюць змей (20)

– Колас са збожжам ад зямлі не расце (7B; 15)

**Выгнанне з раю**

– Колькі гадоў жылі першыя людзі (27)

***Этыялагічныя матывы:***

– Адкуль зёлкі буркун і тоя, чаму з'яўляюцца абярэгам (іх знайшлі Адам і Ева) (26)

– Чаму аір на Тройцу на падлогах у хатах сцеляць (аір паслужыў першым адзеннем для Адама і Евы) (28)

– Адкуль жаваранак (з камяка зямлі, падкінутага Адамам) (29)

– Адкуль зязюля (з дзяцей Адама, якія моцна па ім плакалі) (31)
– Чаму чалавек адзін раз памірае (Адам, па якім плакалі дзеці, адмовіўся ўстаць пасля смерці) (30А–В; 31; 32)
– Чаму людзі баяцца нябожчыкаў (памерлы Адам прасіў Бога даць дзецям страх, каб перасталі яго трывожыць) (32)
– Адкуль буслы (з Адама і Евы) (34)
– Адам і Ева на месяцы (33)

## Каін і Авель

***На месяцы выявы:***
– Каіна і Авеля (35А–С)
– Георгія Пераможцы (35В)
– Праўды і Крыўды (35D)

***Каін забівае Авеля з прычыны:***
– Каін захацеў узяць жонку Авеля (35А)
– Бог прымаў ахвяры толькі ад Авеля (35С)

## Вялікі патоп

– Ной будуе каўчэг (лодку, човен, карабель) і збірае туды жывых істот (36А–С; 37А–С; 38; 39А–С; 40; 41; 42; 43)
– Буяная весялосць людзей напярэдадні патопу (41)
– Ной не бярэ ў каўчэг сваіх непаслухмяных дзяцей (40)
– Ной выпускае птушак шукаць сушу:
  – галубоў (37А,С; 39А–С)
  – бусла (38)
  – зязюлю (39С)
  – безназоўную птушку (39А)
– Каўчэг спыняецца на гары Арарат (36В; 39В)
– Пасля патопу – новы свет (36В)
– Патоп і будучы канец свету (свет не патоне, а згарыць) (37А–С)

***Этыялагічныя матывы:***
– Чаму вужоў не забіваюць (“злы” робіць дзірку ў каўчэгу, вуж затыкае яе сабой) (41)
– Адкуль бусел (два чалавекі збіраюць гадства ў пары ў мяхі, два другія іх развязваюць і становяцца бусламі) (43)
– Чаму ў бусла ногі чырвоныя (ад крыві патануўшых людзей) (38)
– Чаму змеі размножыліся (з каўчэгаываліўся мех са змеямі, бусел ухапіў жывую змяю і выпусціў) (42)

– Чаму сабакі і каты адзін аднаго не любяць (сабака і кот ратавалі разам адзін каласок, кот схлусіў Богу, што ён адзін ратаваў) (44)

– Чаму колас са збожжам ад зямлі не расце (рос да патопу, пасля патопу стала збожжа толькі зверху) (44)

**Сыны Ноя**

***Этыялагічныя матывы:***

– Адкуль хамы (ад сына Ноя Ха́ма, што насмяяўся над бацькам) (45)

– Адкуль народы розных рас (негры і “кітайцы” – ад сына Ноя, што насмяяўся над бацькам, еўрапейцы – ад сына Ноя Хамы́, што прыкрыў бацьку) (46)

**Вавілонская вежа**

***Людзі імкнуцца дабрацца да Бога, Бог перашкаджае ім:***

– змешвае мовы (47А–С; 49)

– пабудаванае за дзень ноччу ўваходзіць у зямлю (48А–В)

– касманаўты, што “хацелі ўзяць Бога за бараду”, гінуць (49)

**Аўраам і Ісаак. Ахвярапрынашэнне Ісаака**

– Бяздзетны “бацюшка” абяцае аддаць свайго сына, калі той народзіцца, на ахвяру (50)

***Этыялагічны матыў:***

– Чаму авечка “святая” (прыносіцца ў ахвяру замест сына) (50)

**Маісей. Зыход яўрэяў з Егіпта**

– У яўрэяў бог – Маісей (51; 65А; 96)

– Забойства дзяцей. Маці хавае Маісея да трох месяцаў (51)

– Дачка фараона знаходзіць Маісея і забірае яго (51)

– Бог шукае, хто возьме 10 запаведзей, ніхто не бярэ, Маісей пагаджаецца, Бог дае яму запаведзі на пліце, а разам сілу і ўладу (52)

– Маісей валодае чарадзейным посахам, ад якога расступаецца мора (53А; 53С)

– Бог корміць яўрэяў у пустыні “манкай” (54; 55)

– Бог дае пітную ваду з пустыні (54)

***Этыялагічныя матывы:***

– Адкуль імя Маісей (дачка фараона выклікнула: “А мой жа ж ты!”) (51)

– Адкуль фараоны (патанулыя егіпцяне) (53А–В)

– Адкуль русалкі (патанулыя егіпцяне) (53С)

– Чаму сабак і катоў трэба карміць (Бог карміў яўрэяў у пустыні “манкай”, кот і сабака выпрасілі хлеб) (55)

***Знешні выгляд і якасці фараонаў:***

– рыба з галавой чалавека (53А)

– жанчына з хвастом рыбы (53В)

– прыгожыя і “жаласныя” спевы (53В)

**Прамудры Саламон**

– Як Саламон ацаніў залатую каляску (56)

**Ілля-прарок**

***Што робіць Ілля-прарок:***

– Дае дождж, бо ў яго “ключы пад аблокай” (57А)

– Ездзіць па небе (месяцы) (58; 59А–F)

– Забівае грэшных людзей (59D)

– Б’е пяруноў (59Е)

***Як ездзіць Ілля-прарок:***

– на тройцы коней з возам (58)

– на кані (59В)

– на залатым кані і залатой карэце (59 F)

– на калясцы (59D)

– на вогненнай калясніцы (59А; 59С)

***Пярун – гэта:***

– маланка (59 А)

– гром (59В)

– нячыстая сіла (59 F)

***Этыялагічныя матывы:***

– Адкуль сузор’е “Вялікая мядзведзіца” (тройка коней Іллі, што разбегліся, і воз)(58)

– Адкуль гром і маланка (59А–F)

***СВЯШЧЭННАЕ ПАДАННЕ***

**Зямное жыццё Божай Маці**

– Благавешчанне старым бацькам Іаакіму і Ганне, што народзіцца дзіця (60)

– Колькі св. Ганне было гадоў, калі яна нарадзіла Маці Божую:

– 60 (60)

– 90 (61)

– Нараджэнне Божай Маці (60; 61)

– Увядзенне трохгадовай Дзевы Марыі ў храм (60; 61; 62)

– Жыццё і заняткі Божай Маці ў храме (60)

– Выбар абручніка (Захарыя раздае кветкі старцам, у Восіпа яны зацвітаюць) (61)

# НОВЫ ЗАПАВЕТ

## Благавешчанне

***Благавешчанне Божай Маці, што народзіцца Сын:***

– праз анёла (60; 63C; 63D; 64)

– праз <архангела> "Гаўрылу" (63B)

– праз Бога (63A)

## Нараджэнне Хрыста

– Непарочнае нараджэнне Хрыста праз бок (64)

– Пакланенне валхвоў, віфлеемская зорка (66; 88)

– Жывёлы грэюць securityнованароджанага Хрыста сваім дыханнем (65A; 68C,F; 69A)

***Дзе Хрыстос нараджаецца:***

– у стаенцы Батлеемскай (65A)

– у яслях (65B; 67A; 68A; 69B–C)

– у хляве (68C)

– у пячоры (68E)

– у шопцы (69A)

– у сарайчыку (73A, 80B)

– пад начоўкамі (70)

***Этыялагічныя матывы:***

– Чаму конь ніколі не пад'есць (укусіў Хрыста, еў з-пад Яго сена) (68B–E)

– Чаму авечкам, козам і каровам можна асвечанае даваць (грэлі Хрыста, былі пры ім) (68A,B,D,F; 69A)

– Чаму на Каляды сена пад абрус кладуць і потым яго скаціне аддаюць (Хрыстос у яслях на сене нарадзіўся, сярод жывёл) (69A–C)

– Чаму дзіця да году не ходзіць (Маці Божая паклала Яго ў яслі, калі б не паклала, дзеці адразу б хадзілі, як у жывёл) (70)

– Чаму ёлку на Раство ўпрыгожваюць (Хрысту і Божай Маці больш да спадобы прыйшлася сціплая ёлачка, чым ганарлівыя пальма, кіпарыс) (71A–C)

**Уцёкі Святога сямейства ў Егіпет**

– забойства немаўлят (65В; 73A–D; 76A,B; 77A; 81A; 85B; 87; 88)

– цуд у пустыні (пальма пахілілася і забіла крыніца) (74)

– кара Іраду (76С)

**Сустрэча з разважлівым разбойнікам, які аказваецца ў Хрыста па правую руку пры распяцці:**

– Разбойнік шкадуе немаўлятку-Хрыста (76A,B)

– Маці Божая корміць і вылечвае крыклівага немаўлятку – будучага разбойніка (76C)

– Маці Божая купае пасля Хрыста і вылечвае хворага немаўлятку – будучага разбойніка (76D)

– Хрыстос купае і вылечвае хворага немаўлятку – сына разбойніка (76E)

***Дзе хаваецца Святое сямейства:***

– у пустыні (74; 76D)

– у лесе (77С)

– у пячоры (77А)

– у хаце (78)

– у хляве (70)

– у яме (77C,D)

– у дупле (77С)

– пад ёлкай (78; 80A–D)

– пад ядлоўцам (79)

– пад бярозай (80А)

– пад асінай (80A–D; 81A–C)

– пад ляшчынай (81A–C)

– пад безназоўным дрэвам (84)

– у цыган (83)

***Як павукі ратуюць Святое сямейства:***

– засноўваюць уваход у пячору (хлеў, яму, дупло) (72; 77A,C)

– плятуць непразрыстую сетку, праз якую нічога не відаць (77B)

– заплятаюць глыбокую яму трывалай посцілкай, каб на ёй можна было ўтрымацца і не праваліцца ўніз (77D)

– заплятаюць ёлку (ядловец) павуціннем і закрываюць Святое сямейства (78; 79; 80B)

*Этыялагічныя матывы:*

– Чаму павука нельга забіваць (пляце павуцінне, каб схаваць Святое сямейства) (72; 77A–D; 78; 79; 80B; 84)

– Чаму асіна трасецца (не схавала Святое сямейства) (72; 80A–D; 81A–C)

– Чаму ёлку на Новы год ставяць (схавала Святое сямейства) (80A–D)

– Чаму ёлку нельга выкідваць, а трэба пасекчы і спаліць, "каб ішла дымам да Бога" (схавала Святое сямейства) (80D)

– Чаму ёлка заўжды зялёная (дрэва Пана Езуса) (82)

– Чаму пад ядловец можна ў час навальніцы хавацца (схаваў Святое сямейства) (79)

– Чаму пад ляшчыну можна ў час навальніцы хавацца (схавала Святое сямейства) (81A)

– Чаму ляшчыну разам з вярбой асвячаюць на Вербніцу і яна ахоўвае ад навальніцы (схавала Святое сямейства) (81B)

– Чаму арэхі смачныя (ляшчына схавала Святое сямейства) (81C)

– Чаму бярозу на Тройцу ў царкве ставяць (хацела схаваць Святое сямейства) (80A)

– Чаму бяроза сагнутая (хацела схаваць Святое сямейства) (80A)

– Чаму цыганам можна красці (схавалі Святое сямейства) (83)

– Чаму ката і сабаку нельга біць (сабака не пусціў праследавальнікаў у хату, дзе хавалася Святое сямейства, кот выпрасіў хлеб) (78)

– Чаму зязюля кукуе і сваіх дзяцей не мае (выдавала воінам Ірада Святое сямейства) (72; 84)

*Метамарфозы*

– Цуд з пшаніцай (пшаніца выспявае на другі дзень пасля пасеву) (85A,B)

– Хрыстос ператвараецца ў пшаніцу (86)

– Зёлкі, якімі Маці Божая прыкрыла Хрыста, ператвараюцца ў кветкі півоні (87)

**Зямное служэнне Ісуса Хрыста**

– Грамніцы Гасподні (89)

– Пропаведзь Хрыста ў храме ў 12 гадоў (93)

– Веравызнанне Хрыста ("Ён абразаны і хрышчоны. Мусульман і хрысьціянін") (90)

– Іаан Хрысціцель хрысціць Хрыста (90)
– Шлюб у Кане Галілейскай (92)
– Выбранне апосталаў (93)
– Пра апостала Пятра (88; 93; 102А–В; 104; 105; 115; 116; 155)
– Хрыстос і самаранка (94)
– Хрыстос лечыць людзей, уваскрашае памёрлых (95; 96; 97; 98)
– Адсячэнне галавы Іаану Прадцечы (99А,В)
– Пакаранне Ірадзіяды і яе дачкі (99А)
– Уваход Гасподзень у Іерусалім (100А–D)
– Выгнанне з храма гандляроў (101)
– Тайная вячэра (102А-С; 104; 105)
– Хрыстос і леў (103)
– Здрадніцтва Іуды (104; 105; 106)

***Этыялагічныя матывы:***
– Чаму на грамніцы свечкі свецяць (89)
– Адкуль віно і гарэлка (віно зрабіў Хрыстос, гарэлку выдумаў сатана) (92)
– Чаму вярбу асвячаюць (100А–D)
– Чаму ў Чысты чацвер трэба памыцца (Хрысту мылі ногі на Тайнай вячэры) (102С)

**Страсці Хрыстовы**

**Хрыстос хаваецца ад праследавальнікаў:**
– у яме (106В) ↔ (77С,D)[1]
– у яслях (111А–В)
– пад начоўкай (113D)
– пад вярбой (106А)
– пад ёлкай (107А) ↔ (78; 80А–D)
– пад асінай (106А; 107А–С) ↔ (80А–D; 81А–С)
– пад бярозай (107В) ↔ (80А)

***Этыялагічныя матывы:***
– Чаму павука нельга забіваць (106А–В; 107А) ↔ (72; 77А–D; 78; 80В; 84)
– Чаму свята Вербніцай называецца (106А) ↔ (100А–D)
– Чаму асіна дрыжыць:

[1] Тут і далей пасля значка ↔ пазначаюцца аналагічныя этыялагічныя матывы, звязаныя з іншымі народнабіблейскімі тэмамі, у дадзеным выпадку з уцёкамі Св. сямейства ў Егіпет.

– не схавала Хрыста (106A; 107A–B) ↔ (72; 80A–D; 81A–C)

– з асіны былі цвікі для распяцця (108A)

– з асіны былі трэскі, што заганялі пад пазногці Хрысту (108B)

– з асіны адламілася галінка, якой білі Хрыста (108C)

– з асіны быў крыж для распяцця (108D)

– на асіне Хрыста распялі (108E)

– асіна бачыла ўкрыжаванне Хрыста (109)

– Чаму асіне нельга на могілках расці (на ёй Хрыста распялі) (108E)

– Чаму асіна лячэбнае дрэва (за асінай хаваліся Божая Маці і анёлы, калі Хрыстос ішоў на Галгофу) (110)

– Чаму свініну і бараніну ўжываюць у ежу (схавалі Хрыста ў сваіх яслях) (111A) ↔ (68B–E)

– Чаму каню цяжка жывецца, чаму ён не пад'есць (111A–B) ↔ (68B–E)

– Чаму ў рыб у галаве крыж (шчупак перавёз Хрыста праз раку) (112)

– Чаму яўрэі свініну не ядуць:

– свіння з яўрэйкі, якую схавалі пад начоўкай (105; 113A–C; 113F)

– свіння адкінула начоўку, пад якой схаваўся Хрыстос (113D)

– у свінні ззаду храсцец (крыжавая костка) (113E)

– у свіней увайшоў сатана (114)

**Распяцце Хрыста**

– Іуда як "заказчык" распяцця Хрыста (116)

– Сотнік не хацеў весці воінаў, каб браць Хрыста, увераваў пасля распяцця (130)

– Хрыстос даручае Сваю Маці апосталу Іаану (131)

– Хрысту прабіваюць бок кап'ём ("дзідам"), каб памёр (105; 133)

***Этыялагічныя матывы:***

– чаму ластаўка святая птушка:

– паказвала дарогу Божай Маці на Галгофу (117)

– даставалі цвікі з Хрыста пры Распяцці (119)

– адносілі цвікі ад распінальнікаў (120)

– чаму ў ластаўкі чырвоная кропелька на грудцы (ад крыві Хрыста пры Распяцці) (118)

– чаму вераб'і скачуць, а не ходзяць (падносілі цвікі распінальнікам) (120)

– чаму вераб'ёў лічаць здраднікамі (крычалі распінальнікам, што Хрыстос яшчэ "жыв", каб Яго далей катавалі) (121)

– чаму вераб'ёў нельга крыўдзіць (адзіныя паверылі, што Хрыстос "жыў", што Ён уваскрэсне) (122)

– чаму жаваранак першы з птушак на радзіму вяртаецца (даставаў калючкі з цярновага вянца Хрыста) (123)

– чаму павука нельга забіваць (зрабіў Хрысту павуціннем цень ад сонца) (124) ↔ (72; 77A–D; 78; 80B; 84) ↔ (106A–B; 107A)

– чаму хрэн нельга есці (яго давалі Хрысту на крыжы) (125) ↔ (127)

– чаму цыбулю на Пасху нельга есці (яўрэі плявалі цыбуляй на Хрыста пры распяцці) (141)

– чаму цыгану красці можна:

– украў цвік, ногі Хрыста прыбітыя адным цвіком (126A–B)[2]

– украў цвік, якім хацелі прыбіць галаву Хрыста (126D)[3]

– украў цвік, якім хацелі прабіць сэрца (126E)[4]

– плявалі на распінальнікаў, абаранялі Хрыста (126C)

– адкуль хрэн (з цвіка, які ўкраў цыган пры распяцці і закапаў у зямлю) (127) ↔ (125)

– чаму ў цыганоў валасы кучаравыя (уматаў у валасы ўкрадзены цвік) (128)

– адкуль рыба ўюн (з цвікоў, якія кралі цыгане і кідалі ў ваду) (129A,B)

– на месяцы плямы – распяты Хрыстос (132)

## Самагубства Іуды

– Іуда топіцца ў калодзежы (105)

***Этыялагічныя матывы:***

– чаму асіна трасецца (на ёй Іуда задавіўся) (135A–C; 136)[5]

– чаму алешына чырвоная (на алешыне кроў Іуды) (136)

– чаму пярун у дуб б'е (на дубе Іуда задавіўся) (137)

---

[2] Тлумачэнне каталікоў.

[3] Тлумачэнне праваслаўных.

[4] Тлумачэнне праваслаўных.

[5] Гэты ж этыялагічны матыў рэалізуецца пры іншых легендарных сюжэтах і народнабіблейскіх тэмах (72; 80A–D; 81A–C; 106A; 107A,B; 108A–E; 109).

**Уваскрэсенне Хрыста**

– Маці Божая і Марыя Магдаліна не знаходзяць Хрыста ў грабніцы (105; 115; 133)

– пропаведзь Хрыста ў пекле (134)

– як смажаныя рыбіна і певень ажылі (105; 138А,В; 141; 142)

– пасля Уваскрэсення Хрыстос ходзіць па зямлі да Ушэсця (144А,В,Е)

***Этыялагічныя матывы:***

– чаму яйкі фарбуюць:

– Хрыстос робіць жанчыне, што ішла да касцёлу, яйкі рознакаляровымі (140)

– яўрэйскія дзеці кідаюць на труну каменчыкі, якія ператвараюцца ў чырвоныя яйкі (141)

– Хрыстос падараваў хлопчыку чырвонае яйка, калі той сказаў "Хрыстос уваскрос" (142)

– чаму прывязаны нячысты не вырываецца на волю (як толькі ў храмах на Вялікдзень пачынаюць спяваць Пасху, дык ланцуг, які ўжо перад Пасхай гатовы парвацца, умацоўваецца) (143)

**Ушэсце Хрыста**

– Хрыстос на Ушэсце ідзе на неба (144А–F; 145; 146)

– Хрыстос на Ушэсце даручае апосталам прапаведаваць (144D)

– Ад Вялікадня да Ушэсця павінен прайці дождж, каб замыць сляды Хрыста (144Е)

– Піша на паперы замовы, каб пакінуць лячэнне людзям (145)

***Этыялагічныя матывы:***

– Адкуль лячэнне замовамі (Хрыстос напісаў замовы і даручыў людзям адзін аднаму дапамагаць) (145)

**Успенне Багародзіцы**

– Як не знайшлі цела Божай Маці ў труне, калі спазніўшыйся апостал прыйшоў развітацца (147)

**Эсхаталогія, Апакаліпсіс**

– Тлумачэнне тэкстам Апакаліпсіса паслярэвалюцыйных падзей XX ст. (148)

– Сталін як анціхрыст (152С)

– Катастрофы напярэдадні канца свету (150; 153А)

– Страшны Суд (150; 159)

– Канец свету

– зямля, якая будзе гарэць (6; 37A–C; 149; 150 )

– саранча, што прыйдзе на зямлю (149)

– расколіны на зямлі ад спякоты, куды будуць падаць людзі (149)

– Кіпячае возера для бапцістаў (151)

**Эсхаталагічныя прадказанні:**

– Па палях будуць хадзіць жалезныя печы (коні) (150; 152J)

– У паветры будуць лятаць жалезныя птушкі (150; 152A,B)

– Паветра будзе апутана жалезным павуціннем (правадамі, "у крастах") (150; 152A,E,F)

– Пойдзе брат на брата, мужык на жонку, дзеці на бацькоў (150; 153A)

– Чалавек будзе шукаць чалавечага следу (152A,J)

– Будуць войны (152B,L; 153A)

– Будзе мор людзей (150; 152J)

– Будзе вельмі мала нараджацца людзей (152J)

– Пасля войнаў мала застанецца людзей (152E,J,L)

– Жанчыны будуць падобныя на мужчын (стрыжаныя, у штанах, без хустак), мужчыны на жанчын (з доўгімі валасамі) (152B–E)

– Жанчыны будуць "голым целам свяціць" (152J, 19B)

– Людзі будуць размнажацца з аднаго полу (152L)

– Сцены будуць гаварыць, "будуць чэрці ў хаце" (радыё, тэлебачанне) (152D; 153A)

– Раней сатана хадзіў па свеце, а зараз сядзіць у сярэдзіне людзей (152E,K)

– Сонца павернецца, бакі свету памяняюцца (152G)

– Сонца аддаліцца і не будзе свяціць на зямлю (152L)

– Жывёла будзе пацець крывавым потам (152G)

– На вішнёвых лісцях будзе намаляваны (знойдзецца) вуж (152H, I)

– Зямельныя межы на надзелах раскідаюць (152J)

– Зменіцца ўлада (152B)

– Прыйдзе анціхрыст (152K)

– Будзе болей вады, чым сушы (152L)

***Пра Старую Біблію з эсхаталагічнымі прадказаннямі:***

– Спасылкі на прадказанні ў Свяшчэнным Пісанні, Евангеллі (152A,C,I, )

– Спасылкі на існаванне "старой" Бібліі, у якой было тое, што не маецца ў сучаснай (152D; 152K; 153A,B)

## *УЯЎЛЕННІ ПРА РАЙ, ПЕКЛА, ЗАМАГІЛЬНАЕ ЖЫЦЦЁ*

**Тапаграфія таго свету**

***пекла:***

– агністая рака (154)

– вогненнае возера (149)

– кіпячае возера (151)

– цёмныя пакоі (157)

– гнілыя, сырыя хаты (164)

***рай:***

– сад (155)

– ясныя пакоі (157)

– вёскі (164)

– дварцы (164)

– Паўстанне і зрыньванне анёлаў (154)

– Бог і д'ябл запісваюць грахі чалавека на паперках, у каго больш паперак, да таго ідзе чалавек (155)

– Агонь часовы (чысцец) (155)

– Святы Пётр трымае ключы ад раю (104; 155)

– Ад Пасхі да Ушэсця рай адкрыты (158А–С)

– Той рай трапляе, каго маланка заб'е (158В)

– Мера пакарання за грахі (160; 161)

– Пакаранне чараўніцы (162)

– Якія грахі якую пакуту маюць (165)

## *ГЕАГРАФІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК*

### Брэсцкая вобласць

1. Брэсцкі р-н 18A, 77B, 85B, 107C, 108A, 108D, 108E, 110, 117, 118, 121, 125
2. Бярозаўскі р-н 30A, 70, 72A, 80A, 144A, 152A
3. Жабінкаўскі р-н 102C
4. Іванаўскі р-н 8A, 28
5. Івацэвіцкі р-н 31, 57A
6. Кобрынскі р-н 55, 88, 100A, 108B
7. Лунінецкі р-н 24, 40, 44, 47A, 47B, 50, 64, 67A, 68A, 68E, 80B, 80D, 95, 98, 102A, 102B, 111B, 113A, 114. 115, 126D, 129A, 135B, 144E, 152B, 158C
8. Ляхавіцкі р-н 15, 67B, 97, 106B, 113B, 123, 152J, 153B, 158B
9. Маларыцкі р-н 99B, 119
10. Пінскі р-н 63A, 91, 100B, 142, 159, 160
11. Пружанскі р-н 16A, 19A, 29, 66, 72C, 76A, 78, 80C, 94, 101, 103, 107A, 109, 113D, 120, 144F, 152C
12. Столінскі р-н 1, 14, 25A, 35A, 49, 62, 68B, 76C, 93, 104, 107B, 111A, 126E, 130, 136, 138B, 152E, 152K, 161

### Гомельская вобласць

13. Акцябрскі р-н 8D, 8E, 20, 35B, 37A, 38, 48A, 59B, 65B, 73B, 92, 100D
14. Буда-Кашалёўскі р-н 165
15. Гомельскі р-н 10
16. Лельчыцкі р-н 32, 36A, 41, 57B, 59D, 71

### Віцебская вобласць

17. Бешанковіцкі р-н 25B, 69B
18. Верхнядзвінскі р-н 89, 147
19. Віцебскі р-н 35D, 113E
20. Гарадоцкі р-н 139
21. Лепельскі р-н 17, 26, 36B, 39C, 42, 69C, 113F
22. Лёзненскі р-н 47C, 99A, 148
23. Полацкі р-н 81C
24. Талачынскі р-н 19B
25. Ушачскі р-н 135C
26. Чашніцкі р-н 9, 43
27. Шумілінскі р-н 5, 6, 53B, 58, 59A, 137, 141, 151, 153A

### Гродзенская вобласць

28. Астравецкі р-н 63D, 77D, 81A, 82, 126B, 127, 128, 152F
29. Ашмянскі р-н 11, 76B, 135A, 152G, 154, 163, 164
30. Бераставіцкі р-н 144B

31. Ваўкавыскі р-н 12, 18B, 76E, 140
32. Дзятлаўскі р-н 34, 35E, 68C, 79, 126C, 146
33. Зэльвенскі р-н 144D
34. Карэліцкі р-н 7A, 149
35. Мастоўскі р-н 33, 53C, 100C, 132
36. Слонімскі р-н 2, 4, 72B, 77C, 83, 85B, 144C, 152H, 152I
37. Смаргонскі р-н 8C, 60, 77A, 81B, 84, 105, 122, 124, 150, 152D, 152M
38. Шчучынскі р-н 3, 13, 106A, 112, 156, 157

**Магілёўская вобласць**

39. Чавускі р-н 16B, 37B, 75A, 155, 158A, 162
40. Шклоўскі р-н 8B, 27, 46, 61, 74, 76D, 87

**Мінская вобласць**

41. Вілейскі р-н 7B, 37C, 51, 52, 53A, 54, 65A, 68F, 73D, 86, 90, 96, 113C, 116, 126A, 131, 133, 134, 152L
42. Крупскі р-н 16C, 22, 59F, 63C, 68D, 73A, 73C
43. Лагойскі р-н 143
44. Любанскі р-н 7C, 39B, 59C, 75B, 108C
45. Нясвіжскі р-н 45
46. Пухавіцкі р-н 23
47. Салігорскі р-н 20, 30B, 39A, 48B, 56, 59E, 63B, 129B, 138A, 145

*Навуковае выданне*

**БЕЛАРУСКАЯ “НАРОДНАЯ БІБЛІЯ” Ў СУЧАСНЫХ ЗАПІСАХ**

Рэдактары В.М.Сакалова, І.В.Смяян
Тэхнічны рэдактар Л.М.Мельнік
Вокладка У.У.Лукіна

Падпісана ў друк 19. 11. 2010 г. Фармат $60\times84^1/_{16}$.
Папера пісчая № 2. Ум. друк. арк. 9,63. Ул.- выд. арк. 7,80.
Тыраж 250 экз. Заказ 317.

Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў.
220007, г. Мінск, вул. Рабкораўская, 17.
Ліцэнзія № 02330/0131818 ад 02.06.2006 г.

Надрукавана на рызографе
Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.
220007, г. Мінск, вул. Рабкораўская, 17.

